
Асамблея НДА Беларусі  www.belngo.info

# Асамблея

часопіс грамадзкіх актывістаў

15 ГОД

красавік 2012

# Кампутарная бясьпека

# ЗЬМЕСТ



# Пачынаем з панядзелка...

Пачаць займацца кампутарнай бясьпекай гэтак жа цяжка, як з панядзелка пачаць правільна жыць. Выконваць распарадак дня, бегаць, хадзіць тры разы на тыдзень у трэнажорную залю і добразычліва ставіцца да ўсіх людзей на плянэце. Напэўна, усе памятаюць, як неаднойчы казалі сабе запаветныя словы: "Ну ўсё, з панядзелка буду качаць прэс, сяду на дыету і кіну піць ды курыць". Варыяцыі могуць быць самыя розныя. "Вывучу на ўсялякі выпадак фізыку". Альбо "самастойна зраблю рамонт на кухні". Добра, калі хоць на пару дзён хапае сілы волі, каб выканаць усе гэтыя пажаданьні самому сабе любімаму. Лягчэй марыць пра біцэпсы, як у героя ў кінастужцы, седзячы каля тэлевізара з келіхам піва, чым самому накачаць іх.

Тое самае і з кампутарнай бясьпекай. Божа, як было цудоўна калісьці набіраць на адной-адзінай паштовай скрыні пароль QWERTY і не хвалявацца. Не хвалявацца, што забудзеш, бо ў паловы тваіх знаёмых быў такі ж пароль. Не хвалявацца, што нехта скрадзе, бо які сэнс, калі на скрыні ўсяго зь дзясятак лістоў. І нарэшце, не хвалявацца, бо тады ўся твая анлайн-бясьпека заключалася ў тым, каб за выхад у інтэрнэт праз dial-up (хтосьці ўжо і ня ведае, што за нумар такі – 8-600-100) не давялося плаціць астранамічную суму. Сярод інтэрнаўтаў нават шматлікія гісторыі хадзілі, як у нейкага знаёмага знаёмага камутаваны доступ адбыўся праз нумар інтэрнэт-правайдэра нейкай далёкай краіны. І добра, калі не праз Кот-д'Івуар.

Цяперака ж кожны чайнік мусіць ведаць, што такое Ultra Surf, Hotspot Shield і Tor. Трэба пастаянна абнаўляць сваю антывірусную праграму. Болей за тое, трэба пэрыядычна мяняць паролі. Прычым гэтых пароляў, улічваючы тройку паштовых скрыняў, старонкі ў сацыяльных сетках, ЖЖ і Твітэры, столькі, што хоць выкарыстоўвай Truecrypt альбо KeePass. А ў дадатак да ўсяго трэба зрабіць копіі важных файлаў з кампа ды ўсіх кантактаў з e-mail на флэшку ці CD. І пачысьціць свой комп Eraser'ам, альбо іншай праграмай.

Вельмі часта, што праўда, пра кампутарную бясьпеку ня згадваеш, пакуль певень не дзяўбне. Бо знайсьці час на ўсё гэта часам вельмі складана. А часам проста лянота. Нашмат лепей папіць піўка і памарыць пра ўсе тыя ж біцэпсы. Аднак спрабаваць забясьпечыць сабе хоць элементарную кампутарную абароненасьць варта. І неабавязкова з панядзелка. Можна з суботы. Галоўнае – памятаць і ведаць. Ну і, канечне, не забывацца з усёй гэтай бясьпекай на грамадзкую актыўнасьць. Тым болей, як-ніяк, у Асамблеі НДА юбілей – 15-годзьдзе! ■

# Улёткі ў падтрымку Сяргея Каваленкі зьявіліся ў Воршы




Валянтэры кампаніі “Гавары праўду!” расклеілі ў Воршы некалькі дзясяткаў плякатаў з інфармацыяй пра галадоўку віцебскага актывіста Сяргея Каваленкі, якога асудзілі на 25 месяцаў калёніі за тое, што ён упрыгожыў гістарычным бел-чырвона-белым сьцягам Беларусі галоўную ёлку Віцебску.

Тэкст улётак паведамляе, што ў Сяргея засталася сям'я: маці, жонка, а таксама двое дзяцей — сямімесячная дачка і сямігадовы сын, для якіх ён быў адзіным карміцелем. Цяпер Сяргей у крытычным стане, фактычна паміж жыцьцём і сьмерцю, але яму па-ранейшаму адмаўляюць у кваліфікаванай мэдыцынскай дапамозе, працягваюць зьдзекавацца з яго і ягонай сям'і.

Ва ўлётцы таксама пададзены кантактны адрас для асобаў, якія хочуць і могуць чым-небудзь дапамагчы Сяргею Каваленку і яго сям'і. ■

http://spring96.org

# У Берасьці ствараецца кабінэт рэабілітацыі інвалідаў па зроку

У Берасьці плянуюць стварыць кабінэт рэабілітацыі для людзей з захворваньнем вачэй. Першы такі кабінэт у краіне зьявіўся летась у Кобрыне пры падтрымцы амбасады Злучаных Штатаў Амэрыкі ў Беларусі.

Цяпер у Кобрыне дзякуючы новай тэхніцы рэабілітацыю праходзяць дзясяткі інвалідаў па зроку, якім неабходная адаптацыя ў грамадстве.

Для Берэсьця гэта таксама актуальна, кажа старшыня гарадзкой арганізацыі Таварыства інвалідаў па зроку Вера Жук:

— Складана вырашаецца пытаньне ўмоваў безбар’ернага асяродзьдзя. Здавалася, што ўсё добра. Не магу сказаць чагосьці кепскага. У нас і спонсары ёсьць, і выканаўчы камітэт адгукаецца на нашыя просьбы па пытаньнях фінансавай дапамогі. З тэрытарыяльнымі цэнтрамі супрацоўнічаем. Але праблема стварэньня безбар’ернага асяродзьдзя — а менавіта аб’ектаў сацыяльнай інфраструктуры, якія наведваюць інваліды, — у нас застаецца.

Беларускае таварыства інвалідаў па зроку шукае розныя варыянты для падтрымкі сваіх сяброў. ■

Беларускае Радыё Рацыя



# БАЖ патрабуе высьветліць, хто абмежаваў выезд сябрам арганізацыі, і прыцягнуць вінаватых да адказнасьці

Беларуская асацыяцыя журналістаў накіравала афіцыйныя звароты кіраўнікам Генэральнай пракуратуры РБ, Дэпартамэнту па грамадзянстве і міграцыі МУС РБ, а таксама Дзяржаўнага памежнага камітэту РБ. Да ўсіх лістоў прыкладаецца тэкст заявы БАЖ ад 15 сакавіка з нагоды абмежаваньня выезду за межы РБ шэрагу сяброў арганізацыі.

Начальніка Дэпартамэнту па грамадзянстве і міграцыі МУС Аляксея Бегуна і старшыню Дзяржаўнага памежнага камітэту Ігара Рачкоўскага ГА "БАЖ" просіць "паведаміць, якая дзяржаўная ўстанова і на якой падставе прыняла рашэньне абмежаваць выезд з краіны сябрам ГА "БАЖ", а таксама "прыняць усе неабходныя меры для аднаўленьня іхных правоў і недапушчэньня парушэньня канстытуцыйнага права грамадзян Беларусі на выезд у будучыні".

Нагадаем, што пачынаючы з 11 сакавіка ўжо пяці сябрам ГА "БАЖ" — старшыні арганізацыі Жанне Літвіной, а таксама Валянціну Стэфановічу, Андрэю Дыньку, Міхасю Янчуку і Гары Паганяйлу — не дазволілі выехаць за межы Беларусі. ■

http://svabodaby.net

# У Гомелі штогод Спэцкамунтранс забівае каля 12 тысячаў бяздомных жывёлаў




**За два гады існаваньня “Валянтэрскаму руху па абароне жывёлаў” удалося ўратаваць некалькі сотняў бадзяжных жывёлаў.**

Толькі падчас некалькіх дабрачынных акцыяў “Падаруй ім шанец” атрымалася знайсьці гаспадароў для двухсот жывёлаў.

Старонка гомельскіх памочнікаў бяздомным жывёлам за два гады дзейнасьці аб’яднала больш за 4 тысячы чалавек. І хоць, як адзначае кіраўнік валянтэрскага руху Сьвятлана Лапо, касьцяк каманды складаюць 40 чалавек, усім удзельнікам суполкі неабыякавы лёс пацярпелых ад жорсткасьці людзей жывёлаў.

Сьвятлана Лапо:

— Валянтэры — гэта людзі, якія штодзённа дапамагаюць харчаваньнем, лекамі, тэрміновымі ператрымкамі.

А пачынаўся “Валянтэрскі рух па абароне жывёлаў” з чатырох чалавек. Спачатку стварылі групу ў сацыяльнай сетцы “Укантакце”. Пасьля — у “Аднаклясьніках”. Так паступова ў суполку пачалі падцягвацца людзі.

Як заўважае Сьвятлана Лапо, спачатку яны нават не ўяўлялі, што можна займацца ператрымкамі жывёлаў. Да моманту, калі ў бадзяжнай жывёлы ня зьявяцца гаспадары, валянтэр бярэ ката ці сабаку да сябе дадому: аказвае яму неабходную вэтэрынарную дапамогу, корміць, даглядае. ■

Беларускае Радыё Рацыя

# Прэзэнтацыя зборніка "Жыцьцё пасьля «гісторыі»"




Прэзэнтацыя выданьня, прысьвечанага гісторыям самарэалізацыі выпускнікоў гістфаку Віцебскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, адбылася ў Цэнтры сучаснага мастацтва (Віцебск).

Зборнік "Жыцьцё пасьля «гісторыі»" стаў вянцом аднайменнага праекту, які праходзіў у Віцебску цягам трох месяцаў.

Зборнік утрымлівае асабістыя гісторыі выпускнікоў гістарычнага факультэту Віцебскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту апошніх дзесяці гадоў з акцэнтам на іх прафэсійную і асабістую самарэалізацыю пасьля сканчэньня ўнівэрсытэту.

Адбор удзельнікаў інтэрвію для складаньня зборніку рабіўся па прынцыпе пошуку асобаў, якія ня “здрадзілі” духу адукацыі і маюць пэўную повязь з гісторыяй дасёньня.

Асобная ўвага надавалася людзям, якія могуць прапанаваць сёньняшнім студэнтам гістарычных спэцыяльнасьцяў пэўныя жыцьцёвыя мадэлі актыўнай і пасьпяховай самарэалізацыі.

■

http://vitebsk4.me/




# Рух “Захапі”: ад Ўол-стрыт да ўсяго сьвету

Рух “Захапі” – гэта міжнародны рух пратэсту супраць сацыяльнай і эканамічнай няроўнасьці. Яго асноўная мэта – зрабіць эканамічную структуру і адносіны паміж уладамі і грамадзтвам справядлівымі. Розныя мясцовыя групы канцэнтруюцца на розным, але адной з найважнейшых праблем ёсьць тое, што вялікія карпарацыі і глябальныя фінансавыя сыстэмы кіруюць сьветам няўстойліва, што ідзе на карысьць толькі меншасьці насельніцтва і падрывае дэмакратыю.

Кампанія “Захапі Ўол-стрыт” была распачатая канадзкай групай актывістаў Adbusters, натхнёнай арабскай вясной, асабліва падзеямі на плошчы Тахрыр у Каіры. Рух звычайна выкарыстоўвае лёзунг “Нас 99%”. Лёзунг зьяўляецца спасылкай на разыходжаньні ў прыбытках, багацьці і палітычнай уладзе паміж элітай (якая складае 1%) і ўсімі астатнімі грамадзянамі ЗША (99%).

У кожным месцы, дзе праводзяць пратэст, ствараецца лягер у парку ці іншым грамадзкім месцы. За першыя два месяцы акцый пратэсту ўлады паказалі талерантнае стаўленьне да руху, хоць гэта пачало зьмяняцца ў сярэдзіне лістапада. Да канца 2011 года ўлады ачысьцілі большасьць буйных лягераў. Апошнія пакінутыя лягеры ў Вашынгтоне і на плошчы ля сабора Сьвятога Паўла ў Лёндане былі разагнаныя ў лютым 2012 года.

■

**Фота і інфармацыя:**
**http://www.occupytogether.org/**




# ЗЫМБАБВЭ: Забарона НДА

29 НДА, якія аказваюць паслугі па харчовай бясьпецы і дапамозе інвалідам у правінцыі Масьвінга ў Зымбабвэ, былі забароненыя.

\Цітус Малукеле, губэрнатар правінцыі Масьвінга і сябра партыі ZANU-PF, абвясьціў аб забароне НДА, сьцьвярджаючы, што яны не зарэгістраваныя.

У супольнай заяве ад імя розных арганізацый грамадзянскай супольнасьці – у тым ліку Нацыянальнай канстытуцыйнай асамблеі (НКА), кааліцыі “Крызіс у Зымбабвэ”, Форуму НДА па абароне правоў чалавека Зымбабвэ, Нацыянальнай асацыяцыі няўрадавых арганізацый (NANGO), сеткі падтрымкі выбарчай кампаніі Зымбабвэ і Юрыстаў за правы чалавека Зымбабвэ – заявілі, што дзеяньні Малукеле былі незаконнымі.

■

**http://www.icnl.org/**

# У Польшчы прайшлі масавыя мітынгі супраць цэнзуры ў Інтэрнэце

**Больш за дзесяць тысяч палякаў выйшлі на акцыі супраць цэнзуры ў інтэрнэце. Дэманстрацыі адбыліся ў некалькіх гарадах Польшчы, у тым ліку ў Варшаве.**

Незадаволенасьць пратэстуючых выклікалі пляны ўраду падпісаць Гандлёвае пагадненьне па барацьбе з кантрафакцыей (The Anti-Counterfeiting Trade Agreement, ACTA), якое пазыцыянуецца як міжнародны дакумэнт аб абароне інтэлектуальнай уласнасьці. Гэты дагавор крытыкуецца прыхільнікамі вольнага Інтэрнэту, паколькі ён прымусіць правайдэраў паведамляць аб парушэньнях аўтарскага права з боку карыстальнікаў, а працаўнікам мытні дасьць права даглядаць кампутары з меркаваным пірацкім кантэнтам.

Прэм'ер-міністар Польшчы Дональд Туск заявіў, што ня мае намеру паддавацца на "шантаж" дэманстрантаў. Пры гэтым ён падкрэсьліў, што незадаволеныя мелі дастаткова часу, каб выказацца да ўхваленьня пагадненьня польскім парлямэнтам.

Амбасадар Польшчы ў Японіі Ядзьвіга Радовіч (Jadwiga Rodowicz) ужо пакінула свой подпіс пад дакумэнтам, маючы на гэта паўнамоцтвы ад урада. На цырымоніі, якая адбылася ў Токіа 26 студзеня, пад дакумэнтам падпісаліся амбасадары і іншых краінаў Эўразьвяза, акрамя Кіпра, Славакіі, Нідэрландаў, Эстоніі і Нямеччыны. Пасля таго, як дакумэнт ухваляць усе дзяржавы ЭЗ, ён пройдзе працэдуру ратыфікацыі ў Эўрапарлямэнце. Раней пагадненьне знайшло падтрымку ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Японіі і яшчэ чатырох краінах.

У апошні час спробы ўзмацніць жорсткасьць антыпірацкага заканадаўства робяцца таксама ў ЗША. На разгляд амэрыканскіх парлямэнтарыяў вынесеныя два законапраекты – Stop Online Piracy Act (SOPA) і Protect Intellectual Property Act (PIPA). Супраць паправак у заканадаўства выступаюць прадстаўнікі Рэспубліканскай партыі, а таксама шматлікія інтэрнэт-актывісты. У знак пратэсту супраць SOPA прыпыняла працу англамоўная "Вікіпэдыя". Карпарацыя Google сабрала супраць антыпірацкага закона некалькі мільёнаў подпісаў. ■





## У Эгіпце – чарговыя забароны

У Эгіпце адбылася сэрыя нападаў на грамадзянскую супольнасьць, арганізаваных урадам.

У сьнежні 2011 года паліцыя правяла ператрус у офісах некалькіх праваабарончых арганізацый, што было беспрэцэдэнтным нават у эпоху Мубарака. Нягледзячы на шматразовыя запэўніваньні, што НДА, у якіх былі ператрусы, будзе дазволена аднавіць працу, сканфіскаваная маёмасьць не была вернутая, а офісы застаюцца запячатанымі.

Уціск працягнуўся і ў студзені 2012-га, калі Эгіпэцкае міністэрства сацыяльнай справядлівасьці і салідарнасьці абвясьціла, што праца над праектам закону аб асацыяцыях і фондах, які павінен замяніць існы закон у Эгіпце, завершаная. Прапанаваны закон практычна ідэнтычны законапраекту, падрыхтаванаму ў сакавіку 2010 года камітэтам, які складаўся з чальцоў былой кіроўнай партыі. ■

http://www.guardian.co.uk

## Сірыйцам да лета паабяцалі канстытуцыю і выбары

Прэзыдэнт Сірыі Башар Асад паабяцаў, што на рэфэрэндум будзе вынесены праект "цалкам новай" канстытуцыі краіны.

Адначасова з гэтым ён заявіў, што не пазьней чэрвеня ў Сірыі пройдуць парлямэнцкія выбары, якія будуць заснаваныя на прынцыпах шматпартыйнасьці.

Супрацьстаянне паміж уладамі і апазыцыяй у Сірыі працягваецца ўжо больш за год месяцаў. За гэты час у сутыкненьнях з абодвух бакоў былі забітыя тысячы сірыйцаў. ■

Lenta.ru, фота: http://media.salon.com











# Юбілей Асамблеі НДА: 15 гадоў на варце інтарэсаў грамадзянскай супольнасьці

22 лютага Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі, найбуйнейшае згуртаваньне айчынных грамадзкіх аб'яднаньняў, адзначае сваё пятнаццацігодзьдзе.

Асамблея НДА — найбуйнейшае ў Беларусі аб'яднаньне грамадзкіх арганізацыяў ды ініцыятываў, якія вызнаюць дэмакратыю і незалежнасьць Беларусі як свае каштоўнасьці і злучылі сілы дзеля абароны сваіх правоў ды інтарэсаў, дапамогі ў станаўленьні арганізацыяў, наладжваньня сувязяў, абмену інфармацыяй і ідэямі.

Асамблея аб'ядноўвае больш за 300 арганізацыяў ды ініцыятываў з усіх рэгіёнаў Беларусі па розных кірунках дзейнасьці: праваабарончы, моладзевы, сацыяльны, экалягічны, адукацыйны, жаночы, падтрымка іншых НДА.

Асамблея спрыяе разьвіцьцю арганізацыяў-сябраў і станаўленьню грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі.







# АСАМБЛЕЯ НДА:

## Як мы пачыналі?

## Што рабілі?

## Чаго дасягнулі?

***Хтосьці скажа, што 15 гадоў – гэта няшмат. Хтосьці – што ў Беларусі грамадзкія арганізацыі, а тым больш асацыяцыі столькі не жывуць. Хтосьці ўздыхне і скажа: “А вось раней было, ня так, як цяперака”. Хтосьці: “На сёньняшні момант мы маем найлепшае”. А камусьці падасца, што ўсё яшчэ наперадзе.***

***У любым разе, 15 гадоў – дата юбілейная. І акурат нагода для таго, каб згадаць, як мы пачыналі, што рабілі і чаго дасягнулі.***

### Пачатак пачаткаў

А пачалося ўсё ў лютым 1997 года. Ва ўстаноўчым кангрэсе Асамблеі ўзялі ўдзел 250 арганізацыяў, аб’яднаных агульнымі каштоўнасьцямі і супольнымі інтарэсамі. Сярод іх былі аўтарытэтныя няўрадавыя арганізацыі. Напрыклад, "Аб'яд-наны шлях", Беларуская асацыяцыя журналістаў, Беларускі Хэльсынскі камітэт, Задзіночаньне беларускіх студэнтаў, Праваабарончы цэнтар “Вясна’96”, ПЭН-Цэнтар, Таварыства беларускай мовы, Таварыства беларускай школы, Фонд “Дзецям Чарнобыля”, Фонд імя Льва Сапегі, Цэнтар "Супольнасьць". А таксама дзясяткі моладзевых, экалягічных, краязнаўчых і дабрачынных арганізацыяў ды ініцыятываў з усёй Беларусі.

Вінцук Вячорка, старшыня Рабочай групы Асамблеі з 1999 па 2000 год згадвае:

– Асамблея ўзьнікла тады, калі мусіла. Узьнікла як згуртаваньне грамадзкіх структураў, якім балела за свабоду і дэмакратыю, за незалежнасьць і беларускую мову. Тых, хто бараніў гэтыя каштоўнасьці задоўга да таго, як незалежныя грамадзкія арганізацыі былі перайменаваныя ў "трэці сэктар", да таго, як зьявіўся "public business". Нашая Асамблея (паводле маштабу – зьява беспрэцэдэнтная ў рэгіёне) тады здолела згуртаваць сотні арганізацыяў і дзясяткі тысячаў чалавек, якія хацелі бачыць Беларусь незалежнаю, адроджанаю, без дыктатуры і нэакамсамолаў. Мець і адстойваць прынцыповую пазыцыю ў найгалоўнейшых пытаньнях жыцьця краіны.

### "SOS! Трэці сэктар" – першая ініцыятыва Асамблеі

Першай ініцыятывай Асамблеі была юрыдычная дапамога няўрадавым арганізацыям скіраваная на зьмяншэньне нэгатыўных наступстваў перарэгістрацыі НДА, якая была абвешчаная ўладамі ў 1999 годзе. Гэтая кампанія называлася "SOS! Трэці сэктар".

Дзякуючы аб’яднаным высілкам праваабарончых арганізацыяў – сяброў Асамблеі беларускія НДА былі забясьпечаныя кваліфікаванай юрыдычнай дапамогай. Шэраг арганізацыяў здолеў адстаяць сваё права на існаваньне праз суд. Было зьдзейсьнена некалькі дзясяткаў выездаў у рэгіёны, аказаная дапамога 300 недзяржаўным арганізацыям у падрыхтоўцы дакумэнтаў і скаргаў.

### Нашыя кампаніі

На юрыдычнай дапамозе няўрадавым арганізацыям Асамблея НДА не спынілася. За 15 гадоў у скарбонцы асацыяцыі назапасілася шмат кампаніяў. Сярод іх і мабілізацыйная кампанія напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў-2001, і акцыі, арыентаваныя на вырашэньне лякальных праблемаў, і кампанія па скасаваньні артыкула 193.1 (дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі), і многія іншыя.

### Выбірай! / 2001

Арганізацыі – сябры Асамблеі ў

***Асамблея ўзьнікла тады, калі мусіла. Узьнікла як згуртаваньне грамадзкіх структураў, якім балела за свабоду і дэмакратыю, за незалежнасьць і беларускую мову.***




2001 годзе правялі мабілізацыйную кампанію “Выбірай”. Узыходзячае сонейка і аранжавы колер – вось тыя візуальныя вобразы, якія запомніліся ўдзельнікам кампаніі. Ідэя “Выбірай” – гэта зварот да грамадзянаў (пераважна маладых) з прапановай прыйсьці і прагаласаваць на прэзыдэнцкіх выбарах 2001 года.

Акцыі ў межах кампаніі “Выбірай” праходзілі ня толькі ў Менску, але і ў рэгіёнах. Напрыклад, у Наваполацку ў ліпені 2001 года ў цэнтры гораду быў выстаўлены стэнд з выявай мабілізацыйнага лягатыпу — узыходзячага сонца. Дзесяць юнакоў, апранутых у аранжавыя майкі, заклікалі гараджанаў прыйсьці 9 верасьня 2001 на выбарчыя ўчасткі і прагаласаваць. Таксама мінакам раздавалі тэматычныя налепкі. Працягнуўся пікет на адным зь мінірынкаў гораду. Актывісты расказалі прадпрымальнікам пра важнасьць і неабходнасьць удзелу ў галасаваньні на выбарах другога прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Арганізатарамі мерапрыемства выступілі наваполацкі моладзевы цэнтар «Сварог» пры дапамозе ЦМІ «Контур» (Віцебск).

У жніўні 2001 года ў Шклове актывісты мабілізацыйнай кампаніі “Выбірай” правялі пэрформанс. Маладзёны ў масках з вусамі заходзілі ў крамы і абяцалі пакупнікам падвысіць заробак да 100 даляраў. А таксама пасадзіць усіх “жулікаў і прадпрымальнікаў”. Актывісты былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі. Вусатыя маскі былі ўспрынятыя як выявы кандыдата ў прэзыдэнты Аляксандра Лукашэнкі. На хлопцаў склалі пратакол па артыкуле 156 КаАП РБ – дробнае хуліганства. Маскі і майкі з сымболікай кампаніі сканфіскавалі.

## Зробім лепш! / 2002-2003

Кампанія “Зробім лепш” праходзіла і ў 2002, і ў 2003 годзе. Ідэя правядзеньня агульнанацыянальнай кампаніі сацыяльнай скіраванасьці была прынятая большасьцю моладзевых арганізацыяў у красавіку 2002 года. Яе мэта – актывізацыя сувязяў з грамадзкасьцю, а таксама ілюстрацыя дынамічнасьці, салідарнасьці і аптымізму моладзевага трэцяга сэктару Беларусі. Акрамя таго, паводле задумы акцыя ня мусіла быць палітызаванай.

Удзельнікі круглага стала моладзевых арганізацыяў, праведзенага ў траўні 2002 года, прапанавалі, напрыклад, наступныя акцыі: прыборкі на пляжах, вуліцах і гарадах, збор сродкаў і арганізацыя падпіскі бібліятэкаў на беларускія газэты і часопісы, роварныя туры, аўтапрабегі, фотаконкурсы “Я і сьвет”, “Мая краіна - Беларусь” музычныя туры па Беларусі і многае іншае.

Акцыі ў межах першай агульнанацыянальнай моладзевай кампаніі “Зробім лепш” адбыліся 28 чэрвеня – 2 ліпеня 2002. Так, у Крычаве больш за 20 сябраў моладзі АГП, маладых сацыял-дэмакратаў, Маладога Фронту, Крычаўскага экалягічнага таварыства і аб’яднаньня “Скрыжаваньне” з дапамогай выратавальнікаў ОСВОДа добраўпарадкавалі мясцовы пляж ля рэчкі Крычаўка. У Мачулішчах сябры дабрачыннай арганізацыі “Подснежник” разам з музыкамі гуртоў “Тяни-Толкай” і “Чехoff” арганізавалі “дваровае сьвята”. Пакуль дарослыя добраўпарадкавалі дзьве дзіцячыя пляцоўкі, дзеці ўдзельнічалі ў конкурсах, віктарынах і эстафэтах, зладжаных пэдагогамі арганізацыі. Да акцыі далучыліся спэцбрыгады мачулішчанскай міліцыі, а таксама прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі.

Падчас першай агульнанацыянальнай кампаніі “Зробім лепш” акцыі прайшлі ў 22 гарадах. На наступны год кампанія працягнулася. 7 красавіка, у Сусьветны дзень здароўя, 90 арганізацыяў з 25 гарадоў узялі ўдзел у кампаніі, прысьвечанай абароне правоў пацыентаў і ахове здароўя. Значна ўзрасла колькасьць звычайных людзей, якія ўдзельнічалі ў “Зробім лепш’03” у параўнаньні зь мінулай кампаніяй.

Формы правядзеньня акцыяў: сустрэчы ў навучальных установах, правядзеньне гульняў "За здаровы лад жыцьця", раздача вітамінаў, перадача лекаў, кніжак і цацак дзецям зь неза-





*Гэта не дзіцячыя ранішнікі. Гэта хэпэнінгі сур’ёзнай кампаніі “Стоп 193.1”, распачатай у 2009 годзе*



бясьпечаных сем'яў, экалягічныя дасьледаваньні, віктарыны, спартовыя спаборніцтвы, уручэньне кветак і падарункаў дактарам і іншым супрацоўнікам мэдычных установаў, "Чысты горад – здароўе жыхароў Віцебска", круглы стол "Супрацоўніцтва дзеля здароўя дзяцей", "Здароўе нацыі" і г.д.

## Нашая салідарнасьць / 2003-2005

Увесну 2003 года Мінюст Беларусі пачаў кампанію па ліквідацыі шэрагу НДА. Пасьля падачы першых позваў аб ліквідацыі няўрадавых арганізацыяў у Горадні, Гомелі і Менску Выканаўчае бюро Асамблеі НДА арганізавала прэс-канфэрэнцыю. 29 красавіка 2003 г. лідэры непажаданых для ўладаў Беларусі арганізацыяў (гарадзенскай “Ратушы”, баранавіцкай “Варуты” і Моладзевага хрысьціянска-сацыяльнага саюзу) расказалі журналістам пра прычыны іх перасьледу і выказалі сваё стаўленьне да гэтай сытуацыі.

30 красавіка прайшло паседжаньне ініцыятыўнай групы, у якую ўвайшлі прадстаўнікі буйных няўрадавых арганізацыяў. На ім было прынятае рашэньне распачаць кампанію ў абарону грамадзкіх арганізацыяў “НАШАЯ САЛІДАРНАСЬЦЬ”. Мэта кампаніі - дэманстрацыя салідарнасьці з арганізацыямі, што апынуліся пад пагрозай закрыцьця, і спроба перадухіліць прымусовае закрыцьцё іншых грамадзкіх аб’яднаньняў.

Пачаткам кампаніі “Нашая салідарнасьць” стаў калектыўны зварот да міністра юстыцыі сп. Галаванава, падпісаны 2 траўня 2003 г. кіраўнікамі 16 буйных грамадзкіх аб'яднаньняў з заклікам адклікаць з судоў позвы аб ліквідацыі чатырох грамадзкіх арганізацыяў. У прыватнасьці, у звароце адзначалася: “Мы, прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў, выказваем сур'ёзную занепакоенасьць у сувязі з праблемай у галіне рэалізацыі і забясьпечаньня канстытуцыйнага права грамадзян на аб’яднаньне ў Рэспубліцы Беларусь. Мы заклікаем Вас адклікаць заявы аб прымусовай ліквідацыі грамадзкіх аб'яднаньняў. У сувязі з узьніклай праблемай намі прынятае рашэньне аб правядзеньні грамадзкіх слуханьняў па абмеркаваньні пытаньняў рэгістрацыі, правядзеньня праверак дзейнасьці і ліквідацыі добраахвотных аб'яднаньняў грамадзянаў”.

## За свабоду! / 2005-2007

Адной з найбуйнейшых кампаніяў Асамблеі стала кампанія “За свабоду”, зладжаная цягам 2005-2007 гадоў. Яна была скіраваная на актывізацыю прыхільнікаў пераменаў праз прамоцыю свабоды як падставовую каштоўнасьць. Кампанія палягала ў шырокамаштабнай візуалізацыі прыхільнікаў свабоды. Тады слоган "За свабоду" набыў значную папулярнасьць і быў падхоплены палітычнымі сіламі.

## “Стоп 193.1”

Прынц Фаркуад, Шрэк, Прынцэса, Чырвоны Каптурок, Кот у ботах каля будынка Міністэрства замежных справаў Беларусі. Альбо Сьнягуркі, Дзяды Марозы ды зайцы каля будынка парлямэнту. Не, гэта не дзіцячыя ранішнікі. Гэта хэпэнінгі сур’ёзнай кампаніі “Стоп 193.1”, распачатай у 2009 годзе. Удзельнікі вясёлай працэсіі ў касьцюмах пэрсанажаў папулярнага мультфільма “Шрэк” нагадвалі дыпляматам, што “абвяшчаць аўтарытарны рэжым на міжнароднай арэне – гэта марная і няўдзячная справа”. Ну, а Дзяды Марозы зьвярталіся да генэральнага пракурора Рыгора Васілевіча з заявай, у якой чыстасардэчна прызнаваліся ў дзейнасьці незарэгістраванай

*сябрамі Асамблеі НДА зьяўляюцца больш за 300 арганізацыяў.*






# Сёлета мае адбыцца VII Кангрэс Асамблеі няўрадавых арганізацыяў



арганізацыі Дзядоў Марозаў. А таксама спрабавалі аднесьці ў парлямэнт заяву з патрабаваньнем скасаваць артыкул 193.1 Крымінальнага кодэксу.

Сваімі дзеяньнямі ўдзельнікі пэрформансаў спрабавалі зьвярнуць увагу на абсурднасьць артыкула 193.1 Крымінальнага кодэксу, які прадугледжвае адказнасьць за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі. Рэч у тым, што за некалькі гадоў існаваньня ў Крымінальным кодэксе артыкула 193.1 былі асуджаныя 17 чалавек. Яшчэ большай колькасьці людзей па гэтым артыкуле было вынесенае папярэджаньне.

Кампанія мае на мэце дабіцца скасаваньня артыкула 193.1 (дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі) праз ціск на ўлады і ўплыў на міжнародныя інстытуцыі, супольныя дзеяньні, інфармаваньне насельніцтва аб праблеме. У межах кампаніі стала вядзецца маніторынг сытуацыі, адбыўся шэраг флэшмобаў, зьнятыя мульцікі, праведзеныя круглыя сталы і інш.

Кампанія супраць праекту закону "Аб некамэрцыйных арганізацыях"

Асамблея НДА супольна з Цэнтрам прававой трансфармацыі ініцыявала напісаньне калектыўнага звароту ў Палату прадстаўнікоў і Савет Міністраў па праекце Закону "Аб некамэрцыйных арганізацыях". Яго падпісалі 112 арганізацыяў, што аб'ядноўваюць больш за 270 тысячаў сябраў. Нагодай для звароту стала імавернасьць прыняцьця гэтага законапраекту ў рэдакцыі, якая не адпавядае інтарэсам грамадзкасьці. Вынікам кампаніі сталася непрыняцьце ў 2011 годзе закону "Аб некамэрцыйных арганізацыях".

## Спробы рэгістрацыі

Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў тройчы спрабавала атрымаць рэгістрацыю ў Беларусі. Аднак з розных прычынаў Мінюст адмаўляў у рэгістрацыі. Так, яшчэ ў 2002 годзе рэгістравальны орган атрымаў пакет дакумэнтаў ад Асамблеі НДА. Для вынясеньня адмоўнага рашэньня ў справе нерэгістрацыі Асамблеі Мінюсту спатрэбілася паўтара года. У 2009 годзе Асамблея два разы падавала дакумэнты на рэгістрацыю, але, на жаль, безвынікова. У 2010 годзе Міністэрства юстыцыі трэці раз адмовіла "Асамблеі няўрадавых дэмакратычных аб'яднаньняў" у рэгістрацыі. Падставы для нерэгістрацыі Асамблеі НДА амаль аналягічныя папярэднім.

Па-першае, як і раней, Мінюст лічыць, што "ўмовы аб агульнасьці статутных мэтаў, задачаў і прадмету дзейнасьці грамадзкіх аб'яднаньняў, якія ўваходзяць у склад АКГА "Асамблеі НДА", ня выкананыя".

Па-другое, органу рэгістрацыі падаецца, што "маніторынг, аналіз і ацэнка дзейнасьці грамадзкіх аб'яднаньняў наогул не адпавядае вызначанай мэце" Асамблеі НДА. Па-трэцяе, назва АКГА "Асамблеі НДА", паводле чыноўнікаў, "ня ўтрымлівае ўказаньня на прадмет дзейнасьці яе сябраў".

У склад Асамблеі ўваходзяць як зарэгістраваныя арганізацыі, так і незарэгістраваныя ініцыятывы. У ліпені 2011 года Асамблея была зарэгістраваная ў Літве.

## Будзе VII Кангрэс

На сёньняшні дзень сябрамі Асамблеі НДА зьяўляюцца больш за 300 арганізацыяў. Сёлета мае адбыцца VII Кангрэс Асамблеі няўрадавых арганізацыяў, да ўдзелу ў якім запрашаюцца як сябры Асамблеі, так і іншыя прадстаўнікі трэцяга сэктару.

"Супольнымі высілкамі мы працягваем агучваць і адстойваць інтарэсы ўсяго сэктару перад дзяржавай, спрыяць разьвіцьцю і посьпеху арганізацыяў-сябраў, прасоўваць каштоўнасьці дэмакратыі й грамадзянскага ўдзелу ў грамадзтве", – адзначыў Сяргей Мацкевіч, цяперашні старшыня Рабочай групы Асамблеі НДА. Ён таксама заклікаў усіх сябраў Асамблеі падтрымліваць лістамі вязьня сумленьня Алеся Бяляцкага, які ўзначальваў Рабочую групу Асамблеі ў 2000-2004 гг.

■




# Да 15-годзьдзя Асамблеі НДА

**Грамадзкія актывісты пра Асамблею як “канфэдэрацыю разнастайных, але паяднаных каштоўнасьцямі суполак”. А таксама пажаданьні да юбілею.**



**Вольга Кузьміч**
(Менск, “Generation.by”):

Асамблея дае магчымасьць дыялёгу, камунікацыі паміж грамадзкімі арганізацыямі і ініцыятывамі, выпрацоўцы агульных пазыцый па існай сытуацыі, рэагаваньня на падзеі. З нагоды 15-годзьдзя хочацца ўсім падзякаваць за супрацу і спадзявацца, што наступны юбілей мы сустрэнем у абноўленай краіне ды адсьвяткуем напоўніцу. А таксама моцы — каб годна рэагаваць на выклікі, плёну ў супольнай працы і здольнасьці да дынамічнага разьвіцьця. Асамблея — гэта зьвяз сотняў ініцыятываў, а празь іх — людзей. І найперш ім зычу посьпеху і ўпэўненасьці ў грамадзкай працы.



**Алена Анісім**
(Менск, ТБМ):

Паколькі я даўні сябра Рабочай групы, то магу сказаць, што роля Асамблеі ў грамадзянскай супольнасьці вельмі заўважная, бо практычна ўсе больш-менш значныя арганізацыі абавязкова стасуюцца з Асамблеяй няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў. Фактычна Асамблея за столькі гадоў ужо сьцьвердзіла сваю ролю як каардынатара любой грамадзянскай ініцыятывы і любой грамадзянскай супольнасьці. Сёньня ўявіць грамадзтва і грамадзянскую супольнасьць без Асамблеі проста немагчыма. Хочацца пажадаць Асамблеі квітнець, тлусьцець у многіх сэнсах.



**Вінцук Вячорка**
(Менск, ГА "Супольнасьць”):

Каб адказаць на пытаньне, наколькі заўважная роля Асамблеі ў беларускай грамадзянскай супольнасьці, трэба вызначыць, чым ёсьць беларуская грамадзянская супольнасьць. Для мяне відавочна, што гэта ня вузкае карпаратыўнае кола прафэсійных кіраўнікоў прафэсіяналізаваных

арганізацыяў, а жывое грамадзтва, прасякнутае пачуцьцямі свабодалюбнасьці й салідарнасьці, пашаны да культуры й правоў чалавека, адказнасьці за сваю супольнасьць і за незалежнасьць свае краіны. Вось жа, Асамблея за гады свайго чыну сёе-тое зрабіла для фармаваньня такой грамадзянскай супольнасьці, сама будучы канфэдэрацыяй разнастайных, але паяднаных каштоўнасьцямі суполак. Асамблея падтрымлівала беларускую мову і нацыянальную ідэнтычнасьць; пасьпяхова заклікала грамадзянаў не адседжвацца па дамах, калі слова "выбары" яшчэ нешта значыла (кампанія "Выбірай"); была арганізацыйным стрыжнем масавае хвалі салідарнасьці са шматлікімі адміністрацыйна зьняволенымі... Хацелася б пажадаць Асамблеі найважнейшага – не баяцца мець каштоўнасную пазыцыю; быць і неад'емнаю часткаю, і лідэрамі жывога беларускага грамадзтва; усьведамляць, што жывая грамадзянская супольнасьць несумяшчальная зь невылечнаю дыктатураю.



**Раіса Міхайлоўская**
(Менск, Цэнтар па правах чалавека):

Аб'яднаньне ў складзе такой структуры, як Асамблея, усім уваходным у яе арганізацыям і ініцыятывам дазваляе адчуць нашу моц і адзінства, зразумець для саміх сябе, наколькі мы рознабаковыя і патрэбныя для грамадзтва. Дзейнасьць Асамблеі як каардынатара, крыніцы неабходнай інфармацыі, арганізатара розных нацыянальных кампаній і праектаў, безумоўна, палягчае працу саміх арганізацый. І, безумоўна, вельмі важнай і прыкметнай я бачу дзейнасьць Асамблеі па абароне інтарэсаў трэцяга сэктару перад дзяржавай, стварэньне станоўчага іміджу грамадзкіх арганізацый у грамадзтве. У сувязі з 15-годзьдзем хацелася б пажадаць Асамбле посьпехаў ва ўсіх пачынаньнях, атрымліваць задавальненьне ад працы і вынікаў сваёй дзейнасьці. Жадаю ўсім нам новых імпульсаў, ідэй і зьдзяйсьненьняў на карысьць беларускага народу і грамадзтва.



**Уладзімер Хільмановіч**
(Горадня, Фонд імя Л.Сапегі):

На юбілей Асамблеі хацелася б пажадаць сапраўднай вольнасьці ў нашай краіне, каб усе недзяржаўныя грамадзкія арганізацыі, усе супольнасьці такога кшталту маглі адкрыта дзейнічаць, працуючы на большую колькасьць насельніцтва і не баючыся палітычнага перасьледу.

**Галіна Скараход**
(Гомель, ГА "Ініцыятыва"):

Асамблея НДА – гэта арганізацыя, якая яднае маленькія і больш сталыя арганізацыі , якая дае пляцоўку для ўсіх гэтых ініцыятываў, дзе яны могуць выказваць свае думкі, рабіць нейкія цікавыя праграмы і гэтак далей. То бок гэта пляцоўка, якая вельмі патрэбная шматлікім арганізацыям. Асамблеі 15 гадоў, і хочацца пажадаць ёй посьпехаў, пашырэньня кантактаў, далейшага разьвіцьця і працягу плённай працы па кансалідацыі трэцяга сэктару надалей.



**Тацяна Канопкіна**
(Горадня, ТБШ):

Можа быць, штодзённа Асамблея на грамадзянскую супольнасьць і не ўплывае, але калі, напрыклад, грамадзкая арганізацыя ці ініцыятыва сутыкаецца з нечым, у чым ёй патрэбная дапамога – куды яна можа зьвярнуцца? Хто дапамагае падчас рэгістрацыі? Хто дапамагае, калі на арганізацыю ціснуць? Асамблея! З нагоды юбілею хацелася б пажадаць Асамблеі плённай далейшай працы і адстойваньня сваіх інтарэсаў – а гэта інтарэсы грамадзянскай супольнасьці.



**Уладзімер Кацора**
(Гомель, Грамадзянскія ініцыятывы):

Канечне, Асамблея не аб'яд-ноўвае ўсіх арганізацыяў грамадзянскай супольнасьці, якія сёньня ёсьць у Беларусі. Але Асамблея – гэта самая заўважная асацыяцыя недзяржаўных арганізацыяў. Гэта насамрэч і ёсьць твар грамадзянскай супольнасьці Беларусі. Жадаю Асамблеі ў найбліжэйшыя пяць гадоў, да свайго 20-годзьдзя, зарэгістравацца, быць ужо афіцыйнай структурай, каб улады, якія на той час будуць у Беларусі, прыслухоўваліся да Асамблеі. ■

# Асамблея НДА ўзнагародзіла “чэмпіёнаў грамадзянскай супольнасьці”























1. Арт-дырэктар галерэі Ў Ганна Чыстасэрдава - намінацыя "Месца Году"

2. Найлепшая грамадзкая ініцыятыва году – праект «Народны журналіст»

3. У намінацыі «Рэгістрацыя году» перамог «Офіс па правах людзей з інваліднасьцю».

4. У намінацыі «Нерэгістрацыя году» журы прызнала найбольш арыгінальнай адмову «Цэнтру развіцьцця валантэрства». Прычына – кіраўнік цэнтру Мікалай Кванталіяні адмовіўся прыняць умовы рэгістрацыі – супрацоўніцтва з КДБ.

5. Найлепшай кампаніяй году прызнаная кампанія па зборы подпісаў за непрыняцьце закону аб некамэрцыйных арганізацыях. Юры Чавусаў і Вольга Смалянка

6. Найлепшай рэгіянальнай падзеяй году абвешчаны страйк супрацоўнікаў жыльлёва-камунальнай гаспадаркі гораду Барысава. Да дыплёму, гадзіньніка і кубкаў барысаўскім камунальнікам перадалі цэлы набор цьвікоў зь бел-чырвона-белымі банцікамі:

7. «Крэатывам году» прызнаны электронны сайт наяўнага абмену валют Prokopovi.ch.

8. Грамадзкім лідэрам году стаў кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Вясна» Алесь Бяляцкі.

9. Паколькі Алесь бяляцкі знаходзіцца за кратамі, узнагароду прынялі Тацьцяна Рэвяка і Валянцін Стэфановіч: «Паколькі наш галоўны „лесавік“ пакуль ня з намі, але, нягледзячы на 30-градусныя маразы, магу вам з упэненасьцю сказаць, што вясна ўсё ж такі прыйдзе».

11. Вядучыя цырымоніі - Юля і Мікола

# У Менску ў “Арт-сядзібе” адбылася цырымонія ўручэньня прэміі Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі “Чэмпіёны грамадзянскай супольнасьці — 2011”.

Прэмія ўручаецца ўжо трэці раз. Аўтарытэтнае журы з прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацыяў, выбітных грамадзкіх дзеячаў, а таксама леташніх пераможцаў адзначыла найбольш выбітныя й рэзанансныя акцыі, падзеі, ініцыятывы ў жыцьці трэцяга сэктару за 2011 год, а таксама абрала грамадзкага лідэра. Сёлета ім стаў Алесь Бяляцкі, старшыня ПЦ “Вясна”, які знаходзіцца за кратамі праз сваю праваабарончую дзейнасьць. Прэмію за Алеся Бяляцкага атрымалі праваабаронцы Валянцін Стэфановіч і Тацьцяна Равяка.

*Тацьцяна Равяка: “Гэтая прэмія — ня толькі праява салідарнасьці з Алесем Бяляцкім, але й прызнаньне ягоных заслугаў перад праваабарончай і грамадзянскай супольнасьцю...”*

“Для мяне Алесь Бяляцкі — грамадзкі лідэр ужо многія гады. Узнагарода пацьвердзіла, што гэта ня толькі маё меркаваньне, а меркаваньне шырокай грамадзкасьці. Гэтая прэмія — ня толькі праява салідарнасьці з Алесем Бяляцкім, але й прызнаньне ягоных заслугаў перад праваабарончай і грамадзянскай супольнасьцю, а таксама ацэнка яго шматгадовай працы па адстойваньні свабодаў яшчэ з савецкіх часоў. Нам гэта вельмі прыемна, я абавязкова напішу яму і па магчымасьці дашлю фота, калі іх прапусьцяць цэнзары”, — сказала Тацьцяна Равяка.

Намінантаў на “чэмпіёнаў” 2011 года было шмат, сярод іх — Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі, акцыя “Стоп-бэнзін”, кампанія “Наш дом — дэпутатаў да адказу”, апошні канцэрт у Беларусі ўжо забароненага на той час гурта “Ляпіс Трубяцкой” ды іншыя.

“Мы традыцыйна адзначаем людзей, якія акурат ствараюць грамадзянскую супольнасьць. Для беларускага грамадзтва вельмі важна бачыць прыклад тых, хто мае пазыцыю, хто ўмее яе выказаць. Гэтаму й прысьвечаная прэмія “Чэмпіёнаў грамадзянскай супольнасьці”. 2011 год, на маю думку, адметны. Звычайна ў Беларусі грамадзкая актыўнасьць прывязаная да палітычнага календара. Сёлета не было ніякіх выбараў, але можна адзначыць разнастайнасьць і крэатыўнасьць формаў грамадзянскай актыўнасьці. Было з чаго выбіраць. Мінулы год паказаў, што нягледзячы на пагаршэньне ўмоваў, грамадзянская пазыцыя выказваецца. Спадзяемся, што 2012 год дасьць нам яшчэ больш намінантаў і гонару”, — адзначыў Сяргей Мацкевіч, старшыня Рабочай групы Асамблеі НДА.

Кампэтэнтнае журы вызначыла пераможцаў у васьмі намінацыях: “Месца года” — галерэя “Ў”, найлепшая грамадзкая ініцыятыва — “Народны журналіст”, “Рэгістрацыя года” — Офіс па правах людзей з інваліднасьцю, “Адмова года” — “Цэнтар разьвіцьця валянтэрства” (з прычыны адмовы кіраўніка цэнтру Мікалая Кванталіяні супрацоўнічаць з КДБ).

Найлепшай кампаніяй года прызнаная кампанія па зборы подпісаў за непрыняцьце закону аб некамэрцыйных арганізацыях, якую праводзілі супольна Асамблея НДА й Цэнтар прававой трансфармацыі. Страйк супрацоўнікаў жыльлёва-камунальнай гаспадаркі Барысава быў прызнаны найлепшай рэгіянальнай падзеяй года. Супрацоўнікі ЖКГ пабаяліся прыехаць у Менск, таму прызы за іх атрымаў барысаўскі журналіст Міхаіл Васільеў, які асьвятляў гэтую падзею. Разам з дыплёмам, гадзіньнікам і кубкам у Барысаў перадалі цьвікі зь бел-чырвона-белымі стужкамі як сымбаль непахіснасьці характару барысаўскіх пралетарыяў.

Прэмія за “Крэатыў года” прысуджаная віртуальнаму абменьніку — сайту Prokopovi.ch. Самі стваральнікі сайта пабаяліся прыйсьці па ўзнагароду і ў аўдыёвароце папрасілі пакінуць прызы да лепшых часоў у офісе Асамблеі НДА. ■

**Прэс-служба Асамблеі НДА**

***Для беларускага грамадзтва вельмі важна бачыць прыклад тых, хто мае пазыцыю, хто ўмее яе выказаць***

# Дзеяньні беларускіх уладаў прывялі да канфлікту паміж Менскам і ЭЗ

Толькі вызваленьне і поўная рэабілітацыя палітвязьняў, а таксама спыненьне ўсіх формаў ціску на незалежную грамадзянскую супольнасьць, паводле сябраў Рабочай групы Асамблеі НДА, створаць магчымасьць для пераадоленьня комплекснага крызісу, у якім знаходзіцца краіна, міжнароднай ізаляцыі і перадухіляць пагрозы незалежнасьці Беларусі, гаворыцца ў адмысловай заяве Асамблеі НДА, прынятай на чарговым паседжаньні Рабочай групы ў Менску.

Асамблея НДА рашуча выказваецца супраць дзеяньняў дзейнага кіраўніцтва краіны, якія штораз больш аддаляюць Беларусь ад эўрапейскіх каштоўнасьцяў дэмакратыі і прывялі да каштоўнаснага ў сваёй аснове канфлікту.

Паводле прадстаўнікоў Асамблеі НДА, “цяперашнія паводзіны ўладаў Беларусі, якія вынікаюць зь іхнага імкненьня любой цаной захаваць існы палітычны рэжым, адсоўваюць эўрапейскую пэрспэктыву для краіны, зьнішчаюць міжнародную рэпутацыю ды эканамічную прывабнасьць дзяржавы, робяць Беларусь безабароннаю перад замахамі на яе эканамічную і палітычную незалежнасьць”.

У заяве патрабуецца неадкладна вызваліць і юрыдычна рэабілітаваць усіх бяз вынятку палітычных вязьняў, а таксама спыніць рэпрэсіі любога кшталту супраць незалежнай грамадзянскай супольнасьці, палітычнай апазыцыі, незалежных мэдыяў. ■

**Прэс-служба Асамблеі НДА**







# У абарону Беларускай асацыяцыі журналістаў

*Заява Праўленьня Асамблеі НДА*

Ад імя беларускай дэмакратычнай грамадзкасьці Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў выказвае абурэньне з нагоды паклёпніцкай і зьневажальнай атакі дзяржаўнай прапаганды супраць Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Высокі ўзровень прафэсіяналізму, вернасьць прынцыпам журналісцкай этыкі і ідэалам дэмакратыі зрабілі БАЖ тым, чым ён ёсьць: гонарам беларускай грамадзянскай супольнасьці і небясьпечным апанэнтам для тых, хто не ўспрымае свабоду слова ў Беларусі як каштоўнасьць.

Мы разглядаем паклёпніцкія сюжэты, распаўсюджаныя кантраляванымі ўладай сродкамі масавай прапаганды, не толькі як выпад супраць вядомага грамадзкага аб’яднаньня, але і як небясьпечны сыгнал пра магчымы пачатак новага наступу дзяржаўных органаў на свабодную прэсу і журналістаў. ■

**Прэс-служба Асамблеі НДА**

# Навошта парасонікі для грамадзянскай супольнасьці

**Юбілей Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі дае нагоду паразважаць пра ролю і эфэктыўнасьць парасонавых структураў для беларускага грамадзянскага сэктара.**

Нягледзячы на ўсе размовы пра індывідуалізм ды размежаванасьць беларускіх няўрадавых арганізацыяў, гісторыя трэцяга сэктара і ягонага сталеньня - гэта рэгулярныя спробы кансалідацыі. БАРЦ, Зялёная сетка, РАДА, Белсетка антыСНІД, Жаночая Сетка, Асацыяцыя арганізацыяў дадатковай адукацыі, рэгіянальныя кааліцыі прэзэнтуюць сабой этапы разьвіцьця ўнутрысэктарных адгалінаваньняў.

Аб’яднаньне на падставе тэматычнай ці геаграфічнай еднасьці ёсьць у тым ліку паказьнікам сьпеласьці арганізацыяў, якія ў пэўны момант прыходзяць да разуменьня выгадаў супольнага існаваньня. Пры гэтым, у той час калі частка арганізацыяў уваходзіць у сетку, прэтэндуючы ня больш чым на паляпшэньне інфармацыйнага абмену ды супольныя праекты, ініцыятары такіх аб’яднаньняў маюць перадусім інтарэс у павелічэньні палітычнай вагі й хочуць займець сілу ў вачох дзяржавы.

Буйныя актары жадаюць мець справу з сабе падобнымі па ўзроўні – з тымі, якія маюць легітымнасьць прадстаўляць і артыкуляваць агрэгаваныя інтарэсы ладнай часткі соцыюму.

## Эфэктыўны працэс

Адметна, што выгада насельніцтва ад паўстаньня новых



Юнэля Сальнікава, магістар філязофіі

мэга-ўтварэньняў праліўваецца толькі праз некалькі крокаў. Насамрэч, калі арганізацыя пачынае займацца пытаньнямі кааліцыйнага будаўніцтва, у яе менш рэсурсаў застаецца для наўпроставай працы з мэтавымі групамі. Бясконцы працэс перамоваў, пошукаў кансэнсусаў і агульнай пазыцыі, распрацоўкі мэмарандумаў, натуральна, умацоўвае ўнутраную дэмакратычную культуру сэктара, але часам захапляе настолькі, што місія служэньня народу (спадзяюся, так можна ў самых агульных словах сфармуляваць прызначэньне грамадзянскіх інстытуцыяў) падаецца менш прывабнай.

Нельга не пагадзіцца, што ў доўгатэрміновай пэрспэктыве арганізацыя ў складзе кааліцыі становіцца больш прафэсійным правайдарам паслугаў – прынамсі, у кааліцыі/сетцы так ці інакш мусіць выпрацоўвацца пэўны стандарт якасьці працы і сэрвісаў. Пакуль жа наяўны досьвед сьведчыць: кодэксы, фармалізаваныя рэгулятары дзейнасьці паўстаюць перадусім у межах адной арганізацыі, якая зьяўляецца лідэрам у сваім падсэктары і выпрацоўвае ўзор якасьці, натуральна, не абавязковы для пераймання астатнімі гульцамі.

## Кааліцыя vs. арганізацыя

Выкажу сваё выключна пэрсанальнае меркаваньне адносна кааліцыяў, якія ствараюцца на працяглы тэрмін з доўгатэрміновай пэрспэктывай: я ня веру, што ў Беларусі яны зьяўляюцца больш моцнымі і эфэктыўнымі, чым асобна ўзятыя буйныя арганізацыі. І я разумею тыя інстытуцыі, якія робяць выбар на карысьць “сэпаратызму” і працягваюць працаваць выключна пад сваім брэндам.

Кажучы пра эфэктыўнасьць, я маю на ўвазе дасягненьне вынікаў па паляпшэньні сытуцыі ў супольнасьцях і грамадстве ў цэлым. Прыклады многіх кампаніяў, якія рабілі і робяць кааліцыі, – гэта перадусім карцінкі, якія ілюструюць дынамічны і натхняльны працэс для ягоных выканаўцаў, што атрымліваюць асалоду ад прафэсіяналізму, сьмеласьці і крутасьці адзін (а) аднога (ой). У выніку ж праблема застаецца ў лепшым выпадку расьцярушанай, але ня вырашанай.

Натуральна, праекты асобна ўзятых арганізацыяў таксама часта зьяўляюцца “працэсуальнымі”

паводле свайго КПД, калі кошт укладзеных рэсурсаў перавышае значнасьць дасягненьняў. Але ў арганізацыі шанцы атрымаць вынікі больш надзейныя, калі вырашэньне праблемы ёсьць ейным праграмным накірункам, а ня проста асобным праектам – нават пры адсутнасьці ўстойлівага фінансаваньня арганізацыя, як правіла, працягвае свае штодзённыя намаганьні, якія звонку могуць падасца кроплямі, але, якія, як вядома, точаць камень.

І нарэшце, кааліцыі могуць ствараць пагрозу для разьвіцьця арганізацыяў, бо часам сваім парасонам так захінаюць сваіх сябраў ад астатняга сьвету, што абмяжоўваюць у пошуку новых магчымасьцяў і разьвіцьця ініцыятывы. Па сутнасьці, ствараецца патэрналісцкі цэнтар, які хоцькі-няхоцькі ўваходзіць у супярэчнасьць з маім улюбёным выразам, што ілюструе неабходнасьць плюралізму грамадзянскай супольнасьці, - “Няхай мноства красак квітнее”.

### Асамблея vs. Нацплятформа

Што тычыцца агульнасэктарных утварэньняў, цяпер відавочныя два цэнтры сілы – Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі і Нацыянальная плятформа Форума грамадзянскай супольнасьці Ўсходняга Партнэрства. Іхняя адначасовая наяўнасьць на адным полі рэпрэзэнтуе розныя генэрацыі лідэраў і арганізацыяў трэцяга сэктара. Калі Асамблея паўстала адказам на патрэбу пазыцыянаваньня дэмакратычна скіраваных арганізацыяў унутры краіны і супраціву антыдэмакратычным захадам дзяржавы, то Нацплятформа – гэта новы віток сьвядомасьці няўрадавых арганізацыяў, якія бачаць сябе паўнавартасным актарам, які сам гатовы (і мае здольнасьць) дыктаваць свае правілы гульні і скіроўваць сваю краіну ў эўрапейскую прастору.

Нягледзячы на тое, што лідэры абодвух кааліцыяў спрабуюць акрэсьліць розныя нішы для сваіх мэга-ўтварэньняў, аднак відавочна, што кожная зь іх імкнецца “быць тварам” беларускай грамадзянскай супольнасьці і выступаць ад імя ўсяго сэктара.

Чыста фармальна Асамблея зь ейным 15-гадовым стажам і 300-мі сябрамі застаецца найбуйнейшым аб’яднаньнем арганізацыяў беларускай грамадзянскай супольнасьці.

Я працягваю трансьляваць свой пэсімізм на кааліцыі, незалежна ад іх ашаламляльнай дынамікі ці рэгрэсу, і паўтараю сваё рытарычнае запытаньне: наколькі эйфарыя/сынэргія супольнай працы ўплывае на сытуацыю ў краіне і якія рэальныя эфэкты дасягаюцца ў выніку працэсаў кааліцыябудаваньня? ■



***Асамблея паўстала адказам на патрэбу пазыцыянаваньня дэмакратычна скіраваных арганізацыяў унутры краіны***



# Кампутарная бясьпека ў дзейнасьці актывістаў

***Наколькі важна карыстацца мерамі кампутарнай бясьпекі ў дзейнасьці актывістаў? І якія захады яны робяць дзеля гэтага? На гэтыя пытаньні карэспандэнцы Марыны Драбышэўскай адказалі прадстаўнікі грамадзянскае супольнасьці Беларусі.***



**Глеб Лабадзенка (блогер):**
Важнасьць кампутарнай бясьпекі я зразумеў на канкрэтным прыкладзе — пасьля Плошчы 2010 года, калі на сканфіскаваных ноўтбуках актывістаў не былі "разлагіненыя" скайп і пошта, у выніку чаго КДБ здолеў прачытаць шмат цікавага. З таго дня я ніколі не пакідаю працоўнае месца, не выйшаўшы з акаўнтаў. Калі ў мяне сканфіскуюць кампутар ці ноўтбук, ніякага кампрамату там, безумоўна, ня знойдуць, найбольш шкада будзе страчанай працы, інфармацыі. Галоўны захад для бясьпекі — гэта трымаць копію ўсёй інфармацыі па-за домам, пэрыядычна асьвяжаючы яе. Між іншым, гэта дапаможа і ў выпадку вірусаў ці іншай трасцы. Аднойчы вірусы выдалілі мне з кампутара 100 тысячаў фотаздымкаў. Вось і прыдалася такая перасьцярога. Што да інтэрнэту і сацыяльных сетак, то там я практычна не пішу асабістай інфармацыі, не вывешваю сямейных здымкаў. Часткова гэта абумоўлена маім нежаданьнем выстаўляць прыватнае жыцьцё напаказ. Але ў большай ступені — татальным кантролем інтэрнэту спэцслужбамі. Навошта даваць ворагам фактуру? !

**Міхась Матусевіч (прафсаюзная група «Студэнцкая Рада», Менск):**
Мы звыклі мыць рукі перад ежай, чысьціць зубы перад сном. Гэтаксама звычкай мусіць стаць захоўваньне пароляў і асабістай інфармацыі ў надзейных сховішчах. Трэба напружыцца і выдаткаваць некалькі сэкундаў, каб націснуць пімпачку «выхад» у сацыяльных сетках, паштовых скрынях і разнастайных сыстэмах абмену паведамленьнямі кшталту Skype, AIM, ICQ, калі выключаеш кампутар ці адыходзіш ад яго. Варта таксама карыстацца антывірусамі, фаерволамі, не парушаючы пры гэтым аўтарскіх правоў, то бок выбіраць бясплатныя і надзейныя сродкі (напрыклад, AVG, Avast). Наогул для ўсіх праграмаў і сэрвісаў варта адключыць аўтаматычны ўваход.

Для захоўваньня пароляў можна карыстацца спэцыяльнымі праграмамі — мэнэджэрамі пароляў. Адзін з найбольш папулярных — KeePass. Для захоўваньня іншай канфідэнцыйнай інфармацыі выкарыстоўваць так званыя праграмы шыфраваньня «на ляту», напрыклад, TrueCrypt. Дарэчы, апошнія дзьве — бясплатныя і з адкрытым зыходным кодам, што падвышае іх надзейнасьць. І яшчэ хочацца сказаць, што бясьпека — гэта працэс, які доўжыцца ў часе. То бок недастаткова адзін раз зрабіць пэўныя захады і супакоіцца на гэтым. Трэба ўвесь час памятаць пра правілы, карыстацца імі і адаптаваць да новых умоваў. Што да сацсетак, то ёсьць такое сьцьверджаньне, што любая інфармацыя, якая трапіла ў сеціва, застаецца там назаўсёды. З гэтага вынікае, што варта «фільтраваць» тое, чым вы хочаце і можаце дзяліцца з іншымі, а патэнцыйна — усімі карыстальнікамі сеціва.

**Ксенія Жукоўская (юрыдычная клініка БДУ):**



Усьведамляючы ўсю важнасьць кампутарнай бясьпекі, я ня вельмі дасьведчаная ў пытаньні бясьпекі ў жыцьці. Я выкарыстоўваю ліцэнзійную антывірусную праграму і максымальна доўгія і складаныя паролі. Плюс абмежаваньне доступу да пэрсанальнага кампутара. Да такой зьявы, як сацыяльныя сеткі, варта ставіцца без фанатызму. Я лічу, што няма неабходнасьці весьці сталую справаздачу пра ўсе свае дзеяньні, як некаторыя робяць, а таксама трэба думаць, якія фатаграфіі ты скідаеш і хто побач з табой на іх

знаходзіцца. Тут згадваецца фраза аднаго майго сябра: «Усё самае цікавае ты мусіш паказваць толькі важным для цябе людзям. Усім астатнім пра гэта ведаць неабавязкова». Аднак усё ж нічога дрэннага ў зносінах праз сацыяльныя сеткі я ня бачу. Яны хутчэй дапамагаюць жыць, чым уплываюць нэгатыўна.

**Аляксей Валабуеў («Беларускі Хэльсынскі камітэт»):**

Безумоўна, у сучаснай Беларусі дэмакратычныя актывісты ня мусяць грэбаваць мерамі кампутарнай бясьпекі. Але тут важна не загуляцца ў "крывавы рэжым". Каб не атрымалася, што праз прывід гэбэшніка ў шафе і перабольшаныя меры бясьпекі можа быць паралізаваная эфэктыўная праца. Як на мяне, дык неабавязкова быць грамадзкім актывістам, каб імкнуцца захоўваць сваю прыватную інфармацыю ў канфідэнцыйным выглядзе. У прынцыпе, я выбіраю для сябе стандартныя меры бясьпекі: калі карыстаўся апэрацыйнай сыстэмай Windows, дык усталёўваў праграму PGP і ўтыліту для захоўваньня пароляў, а два гады таму перайшоў на лінуксаўскую "Ўбунту". Там ёсьць опцыя па шыфраваньні асабістых дадзеных, якая абіраецца яшчэ падчас усталяваньня апэрацыйнай сыстэмы. Ды і ўвогуле дыстрыбутывы ад Лінукс надзвычай надзейныя і бясьпечныя. У мяне нават антывірусных праграмаў не ўсталявана, бо яны там ня надта патрэбныя. Для захоўваньня пароляў, тым ня менш, выкарыстоўваю праграмку KeePass. Зрэшты, гэта зьвязана не з грамадзскай дзейнасьцю, а з захоўваньнем ключоў ад крэдытнай карткі. Сацыяльныя сеткі маюць два бакі: з аднаго боку, гэта вельмі зручны інструмэнт для прасоўваньня нейкіх сваіх ідэй, а зь іншага — гэта даступнасьць вашых асабістых зьвестак. Прычым нават калі вы самі імкняцеся не пакідаць у сетках дадзеныя пра сябе, гэта заўсёды і зусім бяз злога намеру могуць зрабіць вашыя сябры, родныя ці знаёмыя. Таму як інструмэнт сацыяльныя сеткі абыходзіць нельга. Але я б раіў усё ж пакідаць там як мага меней нейкіх сваіх асабістых дадзеных і асабліва дадзеных пра іншых, бо яны далёка не заўсёды будуць вам за гэта ўдзячныя. Для працы ў сацыяльных сетках увогуле раю ствараць асобныя акаўнты. А для забавы... забаўляйцеся лепш у рэальным жыцьці.



**Вольга Ліхачова ("Грамадзянскі форум", Менск):**

Сёньня палітычная сытуацыя ў Беларусі досыць напружаная. Дзейнасьць актывістаў патрабуе максымальнай асьцярожнасьці. Безумоўна, варта выкарыстоўваць усе магчымыя меры бясьпекі, у першую чаргу ў інтэрнэт-прасторы. Я няшмат ведаю пра кампутарную бясьпеку, але, па-першае, доступ да майго кампутара абмежаваны, па-другое, усю інфармацыю, якая перасылаецца па пошце, я архівую і таксама стаўлю пароль, пра які паведамляю адрасату.

**Аляксандра Жыгальская ("Незалежны партал навінаў FreeSmi.by", Менск):**



Кампутарная бясьпека ПК у дзейнасьці ня толькі актывістаў, але і звычайных грамадзянаў — гэта гарантыя асабістай бясьпекі, неўмяшальніцтва ў асабістае жыцьцё, таямніца асабістай і дзелавой перапіскі і г.д. Як правіла, інфармацыя, зьмешчаная на ПК актывіста якой-небудзь арганізацыі ці, як у маім выпадку, рэдактара незалежнага навінавага партала — гэта інфармацыя, прызначаная для вузкага кола асобаў. Масавы распаўсюд такой інфармацыі ці проста ўцечка можа сур'ёзна сапсаваць працу арганізацыі, нанесьці шкоду дзелавой рэпутацыі, сказіць інфармацыю. Таму ў сваёй працы я перадусім выкарыстоўваю складаныя (не меней за 10 знакаў) паролі доступу да асабістага ПК, сацыяльных сетак, электроннай пошты, імкнуся зьмяняць паролі кожныя 1-2 месяцы. Пры выкарыстаньні чужога кампутара ў інтэрнэце ніколі не карыстаюся аўтаматычнай функцыяй запамінаньня пароля, а калі вэб-рэсурс мае поле пазначэньня чужога кампутара — заўсёды стаўлю галачку. Асабіста я лічу, што пароль не павінен утрымліваць імёнаў уласных, геаграфічных назваў, распаўсюджаных словаў. Лепш за ўсё выкарыстоўваць адвольны набор літар і лічбаў і захоўваць у недаступным ад іншых карыстальнікаў файле. Апошнім часам карыстаюся таксама праграмай pgp keys, якая дазваляе абмежаваць доступ да дакумэнтаў на ПК.

**Сяргей Кастрама ("Цэнтар прававой трансфармацыі", Менск):**

Кампутарная бясьпека — гэта неабходнасьць для жыцьця ў Беларусі. Я для сваёй бясьпекі вельмі часта мяняю паролі, захоўваючы пры гэтым іх толькі ў галаве, імкнуся ня лазіць куды ня трэба, не адкрываць розныя банэры, каб ня зьнішчыць свой кампутар. Таксама ў незнаёмых месцах не заходжу ў свае акаўнты ў сацсетках, не разьмяшчаю фатаграфіяў.

■

# Парады па захоўваньні пароляў

**У пароляў ёсьць адна ня вельмі прыемная ўласьцівасьць – яны могуць быць страчаныя (забытыя, згубленыя разам з нататнікам і г.д.). Ці можна ў гэтай сытуацыі знайсьці кампраміс паміж надзейнасьцю і практычнасьцю?**



playgroundchildren.com

Андрэй Толчын

Такія пытаньні задавалі ня толькі карыстальнікі, але і праграмісты. Попыт нарадзіў прапанову. Зьявіўся цэлы шэраг праграмаў, якія дазваляюць ня толькі захоўваць, але і ствараць новыя паролі па складаных альгарытмах. Адразу варта абмовіцца, што ў прынцыпе кожная такая праграма па-свойму прыгожая, мае свае вартасьці і недахопы. Але тым ня менш, я раю зьвярнуць увагу на агульны прынцып. Карыстацца "ўзламанымі"/прафэсійнымі (пірацкімі) праграмамі вельмі не рэкамэндую. Па-першае, невядома, якія зьмены ўнесеныя «ўмельцамі» ў гэтае праграмнае забясьпечаньне. Цалкам можа стацца, што захаваныя паролі ў такой праграме апынуцца ў поўным распараджэньні саміх хакераў. Па-другое, рана ці позна праграма можа адмовіцца працаваць, і ўся інфармацыя будзе незваротна страчаная. Думаю, важная і тая акалічнасьць, што многія людзі проста ў сілу звычкі не жадаюць плаціць за ліцэнзійныя праграмы: часам яны каштуюць нятанна. Ёсьць і яшчэ адзін аргумэнт: у прафэсійным праграмным забясьпечаньні не выкарыстоўваецца адкрыты код. Такім чынам, рэкамэндую спыніцца на праграмах з адкрытым кодам. Яны бясплатныя, іх можна спампаваць непасрэдна з сайту вытворцы, яны надзейныя, зручныя і функцыянальныя. Спэктар такога забясьпечаньня даволі вялікі, але я спынюся на найбольш папулярнай праграме – KeePass.

Гэтая праграма цалкам адпавядае асноўным крытэрам бясьпекі: надзейная, адкрыты код, простая ва ўсталяваньні і зручная ў кіраваньні, ёсьць магчымасьць поўнай і легальнай зьмены моваў. У KeePass падтрымліваюцца альгарытмы Advanced Encryption Standard (AES, Rijndael) і Twofish для шыфраваньня пароляў сваіх базаў дадзеных. Гэта самыя надзейныя альгарытмы, таму яны шырока выкарыстоўваюцца банкаўскімі сыстэмамі. Маючы такога памочніка, трэба прыдумаць толькі адзін надзейны пароль для абароны базы дадзеных астатніх пароляў, пра стварэньне якіх пад вашым кіраўніцтвам паклапоціцца сама праграма. Адзіны надзейны пароль для ўсёй базы дадзеных можна захоўваць на флэшцы, запісаць у нататнік, але лепш проста яго запомніць. Для захаванасьці базы

дадзеных рэкамэндую завесьці асобную паштовую скрыню на правераным інтэрнэт-рэсурсе google.com. Можна скарыстацца асноўным паролем, прыдуманым для KeePass, для гэтай скрыні, што ў далейшым палегчыць карыстаньне паролямі і гарантаваць іх жыцьцяздольнасьць. У выпадку выкарыстаньня варыянту portable1-праграмы (калі праграма не прывязваецца да пэўнай апэрацыйнай сыстэмы Windows) ёсьць магчымасьць усталяваць яе проста на флэшку. І тады, прыйшоўшы ў любы офіс, дастаткова ўставіць яе ў кампутар і карыстацца скайпам, поштай і іншымі рэсурсамі інтэрнэту, дзе неабходная ідэнтыфікацыя карыстальніка.

Пампаваць праграму трэба толькі з сайту вытворцы http://keepass.info/. Існуе некалькі вэрсіяў праграмы: KeePass 1.21, KeePass 2.17, KeePass 2.18. Асноўнае адрозьненьне гэтых вэрсіяў – у функцыянальнасьці іх карыстаньня. Тут выбар за карыстальнікам. Таксама варта ўлічыць, што для вэрсіяў KeePass 2.18, KeePass 2.18 неабходна мець усталяванае праграмнае забясьпечаньне Microsoft. NET Framework, вышэйшае за вэрсію 2.0. Асабліва гэта датычыць карыстальнікаў Windows XP. У любым выпадку рэкамэндую яго ўсталяваць, бо многія праграмы выкарыстоўваюць Microsoft. NET Framework. Калі такой магчымасьці няма, то варта спыніцца на KeePass2x.

Спампаваўшы праграму, прыступаем да ўсталяваньня. Адразу зьвяртаю ўвагу, што трэба памятаць, у якую тэчку ў вас запісваюцца спампаваныя рэсурсы. Калі варыянт праграмы стацыянарны, то проста два разы клікаем левай клявішай мышы па файле і ідзем за ўказаньнямі інсталятара. Калі варыянт праграмы portable1, то ён прыйдзе запакаваны zip-архіватарам, і яго проста трэба будзе разархіваваць у патрэбнае вам месца, напрыклад, на флэшку. Сама ўстаноўка простая. Далей неабходна запусьціць праграму. Для стацыянарнага варыянту яе значок будзе разьмяшчацца ці на працоўным стале, або па шляху: Пуск>Усе праграмы. Калі раптам ён ня знойдзецца, яго можна стварыць на працоўным стале. Файл запуску разьмешчаны па змоўчаньні: C: \ Program Files (x86) \ KeePass2x \ KeePass.exe для Windows 7 і C: \ Program Files \ KeePass2x \ KeePass.exe для Windows XP. Для portable1 файл запуску будзе ў разархіваванай тэчцы. Прыклад прыведзены для ўсіх вэрсіяў KeePass2x. Калі ўсталёўваецца вэрсія KeePass 1.21, файл будзе разьмешчаны там жа, толькі назва тэчкі будзе крыху іншай: C: \ Program Files \ KeePass 1.21 \ KeePass.exe. Далей запускаем праграму і мяняем мову (па змоўчаньні стаіць ангельская). Для гэтага цісьнем на радок «ChangeLanguage». Калі ў адкрытым мэню ёсьць патрэбная мова, выбіраем яе (мал.1).




Мал.1

Калі яе няма ў сьпісе, а хутчэй так і будзе, то ў гэтай укладцы цісьнем на кнопку «Get more languages» (мал.2), і пры ўключаным інтэрнэце адкрыецца сайт вытворцы, на якім трэба будзе спампаваць файл неабходнай мовы. Затым файл перамяшчаем у тэчку з праграмай, туды, дзе разьмешчаны файл KeePass.exe.

Мал.2




Перазапускаем праграму.

Цяпер прыступім да стварэньня асноўнага пароля базы дадзеных. Для гэтага запускаем праграму і цісьнем на пімпачку «Стварыць» (мал.3). Зьявіцца акенца, у якое трэба ўвесьці асноўны пароль. Гэта менавіта той пароль, які ніколі ня варта забываць і які павінен быць прыдуманы па мэтодыцы, апісанай у папярэднім артыкуле.




Мал.3

Затым ва ўкладцы, якая зьявілася, у вольным радку ўводзім гэты пароль (мал.4) і на ніжнім полі паўтараем.




Мал.4

Пароль у абодвух палях павінен быць ідэнтычным. Варта мець на ўвазе, што паказьнікам надзейнасьці прыдуманага і ўведзенага пароля будзе ніжні радок укладкі «Ацэначная якасьць». Чым больш біт будзе складаць пароль, тым больш надзейны ён будзе. Пасьля гэтага можна сьмела націскаць клявішу Enter. Фактычна, мы ўжо стварылі аснову базы дадзеных нашых пароляў. Пасьля неабходна перайсьці ў мэню «Інструмэнты-налады» і на ўкладцы «Дадаткова» (мал.5) абавязкова паставіць сьцяжок перад «Аўтаматычна захоўваць пры закрыцьці / блякаваньні базы пароляў». Цяпер, калі першасныя налады зробленыя, перазапускаем праграму.



Мал.5

Потым зноў запускаем яе і ў акенцы, якое зьявілася, уводзім наш асноўны пароль (мал.6). Калі мы яго ўвялі без памылак, праграма спакойна адкрыецца. Для палягчэньня набору і ўводу пароля можна націснуць пімпачку з кропачкамі, і стане відаць, якія сымбалі мы ўводзім. Пасьля гэтага націскаем на клявішу Enter ці “ОК” на ўкладцы.




Мал.6

Далей можна ствараць паролі, скажам, для іншых паштовых скрыняў або скайпа. Выбіраем групу, напрыклад, для пошты. У адкрытым акенцы зьлева цісьнем мышкай на «Пошта» (мал.7), потым на «Дадаць запіс». Гэта пімпачка з «ключыкам» разьмешчаная побач справа з намаляванай пімпачкай у выглядзе «дыскеты».



Мал.7

Калі націсьнем на пімпачку з «ключыкам», адкрыецца акенца (мал.8). Астатнія дзеяньні простыя. Радок «Назва» перадугледжвае ўвод назвы запісу (калі хочацца, то можна і не ўводзіць), але я б не рэкамэндаваў гэтага рабіць, бо пры павелічэньні колькасьці пароляў цяжка будзе знайсьці патрэбны запіс.




Мал.8

У радку «Імя» уносім лагін для пошты. Радок «Пароль» служыць для заданьня пароля на паштовай скрыні. Праграма сама згенэруе яго, але можна яго і памяняць. Не забывайце пра пімпачку з кропачкамі. Пры націсканьні на яе адлюстроўваюцца сымбалі пароля замест кропак. У полі «Спасылка» ставім спасылку на сайт паштовай скрыні ў поўным фармаце: http // rambler.ru /. Немалаважнай будзе і пазнака ў «Камэнтарах». Гэта можа спатрэбіцца для апісаньня рэсурсу, да якога створаны пароль. Ня менш цікавая і важная пімпачка, разьмешчаная насупраць радка «Паўтор». Яна мае малюнак у выглядзе двух ключоў і дазваляе генэраваць паролі вялікай складанасьці і па зададзеных карыстальнікам крытэрах. Пры навядзеньні на яе курсора загараецца «Генэрацыя пароляў». Пры націсканьні левай клявішы мышы зьявіцца маленькае мэню, у верхнім радку якога будзе надпіс «Адкрыць генэратар пароляў», у ніжнім - «Генэраваць, выкарыстоўваючы профіль». Пры націсканьні на радок «Адкрыць генэратар пароляў», на якім зьявілася новая ўкладка, задаваць парамэтры створаных пароляў (мал.9). Але ў дадзеным выпадку варта ўлічваць, што ня ўсе інтэрнэт-рэсурсы падтрымліваюць, скажам, спэцзнакі. Парамэтры задаюцца расстаўленьнем (здыманьнем) сьцяжкоў (птушачак). Калі паставіць сьцяжок на «Збор дадатковай энтрапіі» і націснуць




Мал.9



Мал.10

«ОК» унізе ўкладкі, то адкрыецца новая ўкладка (мал.10). Яна дазваляе выпадковым рухам курсора мышкі па левым прыцемненым полі ствараць абсалютна выпадковы набор сымбаляў паро-

ля. Гэтая апэрацыя завяршаецца націсканьнем «ОК» унізе ўкладкі.

Для генэрацыі выпадковага пароля можна скарыстацца радком «Генэраваць, выкарыстоўваючы профіль». Для гэтага цісьнем на «Генэратар пароляў». У адкрытым маленькім мэню выбіраем «Генэраваць, выкарыстоўваючы профіль» і наводзім на гэты радок курсор мышы. Зьявіцца новае мэню, якое прапануе абраць спосабы генэрацыі: на аснове папярэдняга пароля, выпадковы MAC-адрас, 40-разрадны шаснаццатковы ключ, 128-разрадны шаснаццатковы ключ, 256-разрадны шаснаццатковы ключ. На патрэбны радок наводзім курсор і цісьнем левую клявішу. Усё, пароль гатовы. Абмоўлюся адразу, што найбольш моцны пароль атрымліваецца пры выбары 256-разраднага шаснаццатковага ключа.

Згенэраваўшы пароль, цісьнем «ОК» на ўкладцы (мал.8). Пароль створаны, і ў нас у правым акне асноўнага мэню зьявіцца запіс (мал.11).

Такім чынам можна ствараць паролі для любога рэсурсу інтэрнэту, уключаючы анлайн-гульні. Запіс можна рэдагаваць. Калі на яго націснуць правай клявішай мышы, адкрыецца мэню, у якім ёсьць радок «Зьмяніць / прагледзець запіс”. Каб скарыстацца ўжо гатовым запісам базы пароляў, неабходна навесьці на яго курсор мышы і двойчы клікнуць левай клявішай. Пароль скапіюецца ў апэратыўную




Мал.11

памяць кампутара, адкуль яго можна ўставіць у адпаведнае поле рэсурсу. Неабходна ўлічваць, што праграма выдаляе пароль з апэратыўнай памяці праз 15 сэкунд. Гэтак жа некаторыя рэсурсы не даюць магчымасьць устаўляць гатовыя паролі пры дапамозе мышкі. У апошнім выпадку карыстаемся гарачымі клявішамі для ўстаўкі Ctrl+V. Неабходна памятаць, што калі забыліся захаваць запіс (верхні радок мэню, надпіс “файл”, затым у падмэню “захаваць” ці прасьцей гарачай клявішай Ctrl+S мал.11), то пры закрыцьці праграмы будзе прапанавана захаваць зьмены. Калі і гэтага не зрабіць, запіс не захаваецца. Гэта, мабыць, усё пра стварэньне і карыстаньне мэнэджэрам пароляў. Па змоўчаньні файл базы пароляў захоўваецца ў тэчцы “Мае дакумэнты”, але можа ляжаць і ў іншым месцы. Ён можа мець любую назву, але яго пашырэньне заўсёды будзе kdbx. Да прыкладу, new.kdbx. У Windows гэты файл будзе выглядаць як значок праграмы. Калі будзе створаная база дадзеных, файл з такім пашырэньнем трэба захаваць у надзейнай паштовай скрыні, пра што напісана вышэй. Важна пры ўнясеньні новых запісаў не забываць абнаўляць копіі базаў у паштовай скрыні ці іншым месцы, дзе захоўваюцца базы мэнэджэра пароляў KeePass. Сама праграма вельмі зручная ў карыстаньні, але, вядома, да яе трэба прызвычаіцца.

■

## Рэдакцыя часопіса “Асамблея” выказвае спачуваньне родным Арыны Вячоркі па прычыне заўчаснага сыходу з жыцьця.

9 красавіка пайшла з жыцьця Арына Вячорка. Ёй быў 51 год.

Арына Вячорка -- грамадзкая і культурная дзяячка, ініцыятарка адраджэньня рыцарскага руху і гістарычнай музыкі Беларусі, мэнэджэр пасьпяховых музычных праектаў (“Музыка Літвы і Кароны”, “Музыка храмаў Беларусі” і інш.)



# Цэнзура vs Бясьпека

**Як захаваць асабістыя дадзеныя ў Інтэрнэце і атрымаць доступ да сайтаў, закрытых па палітычных матывах.**

**Вольга і Паўлюк Быкоўскія**

Цэнзура – гэта адваротны бок бясьпекі. Вельмі часта ўлады кажуць, што ўводзяць нейкія абмежаваньні, каб абараніць карыстальнікаў. Але будзем сыходзіць з таго, што дарослы чалавек можа і павінны сам выбіраць, на якія сайты заходзіць. Таксама варта разумець, якія звесткі пра сябе бясьпечна пакідаць у Сеціве.

**Абарона дадзеных у сацыяльных сетках**

У сацыяльных сетках людзі паводзяць сабе больш разьняволена, чым на астатніх сайтах. Хочацца паболей распавесьці пра сябе старым сябрам і знаёмым, пахваліцца і адзначыць нешта пра пляны.

Між іншым, апошнім часам сацыяльныя сеткі знаходзяцца пад пільнай увагай спэцслужбаў. Доказам гэтага зьяўляюцца затрыманьні каардынатараў шэрагу суполак і груп "ВКонтакте"летам 2011 году ў Беларусі – якраз на пачатку хвалі палітычнага флэшмобу "Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку".

Праўда, спэцслужбы звычайна не афішуюць сваю цікаўнасьць да аб'екту распрацоўкі. Але вось Фэдэральная служба судовых прыставаў Расіі нават распрацавала ў 2010 годзе "Мэтадычныя рэкамэндацыі па выкарыстаньні сеткі Інтэрнэт у мэтах пошуку інфармацыі аб даўжніках і іх маёмасьці". Паводле дакумэнта, пошук зьвестак пра даўжнікоў судовыя приставы ажыцьцяўляць:

- у Інтэрнэт-пошукавіках (напрыклад, yandex.ru, google.ru, bing.com, yahoo.com, rambler.ru, metabot.ru, search.com);

- у сацыяльных сетках (напрыклад, odnoklassniki.ru, vkontakte.ru, facebook.com, linkedin.com і інш);

- у блогах (напрыклад, livejournal.ru, twitter.com, li.ru, blogs.mail.ru, diary.ru); - у базах дадзеных адрасоў і тэлефонаў (напрыклад, 09service.com, nomer.org, lookup.com);

- у шэрагу іншых Інтэрнэт-крыніц.

У мэтадычцы адзначаецца, што аналіз кантактаў (сваякі, калегі, партнэры, сябры) і фатаграфій (месца фатаграфавання, навакольны інтэр'ер, камэнтары да фатаграфій), прадстаўленых даўжнікамі-грамадзянамі ў Інтэрнэце, дазваляе ўстанавіць як маёмасьць даўжніка, так і месца яго знаходжаньня. Адзначаецца таксама, што ўстанавіць зьвесткі пра даўжнікоў і іх маёмасьць дазваляе накіраваньне запытаў правайдэрам. Наяўнасьць дагавора аб прадастаўленьні доступу ў Інтэрнэт дазваляе праз IP-адрас ўстанавіць месца разьмяшчэньня кампутара, якое выкарыстоўваецца даўжнікам для выхаду ў Інтэрнэт, а таксама наяўнасьць у даўжніка маёмасных правоў.

Пастаўце сябе на месца вось такога аб'екту распрацоўкі і зьвярніце ўвагу на інфармацыю, якая апынулася ў адкрытым доступе на вашай старонцы. Напрыклад, нармальна калі ўсе ахвотныя даведаюцца, у якія кавярні вы ходзіце, у якім раёне вы жывяце, але зусім не абавязкова даваць нешта больш дакладнае.

Вельмі важна, якія фотаздымкі вы выкладаеце ў Сеціва. Нават калі доступ да старонкі абмежаваны толькі для вашых сяброў, заўсёды ёсьць верагоднасьць, што яны выкладуць фотаздымкі ў адкрыты доступ. Усё, што трапілася ў Інтэрнэт мае вялікую верагоднасьць быць скапіяваным. Нават, калі тэкст або фотаздымкі вы выдалілі, яны захоўваюцца ў памяці (кэш) пошукавікоў, а таксама ў некаторых адмысловых праектах, кшталту http://archive.org/

Разлагіньцеся і яшчэ раз прасачыце, ці тым людзям вы адкрылі доступ для свайго хатняга тэлефона і адраса. Напрыклад, такая функцыя ёсьць у Facebook, можна пагалядзець на старонку вачыма вашых сяброў, проста карыстальнікаў і выпадковых гасьцей.

Калі вы ад кагосьці хочаце схаваць сваё месцазнаходжаньне, ня трэба яго пісаць і ў сацыяльнай сетцы. Ніколі ня ведаеш наперад, хто пачытвае вашу стужку падзеяў або статус.

**Працяг у наступным нумары**




# Некалькі мітаў пра бясьпеку ў інтэрнэце

**Вы сядаеце за ўлюбёны кампутар, уводзіце супэрсакрэтны пароль, залазіце ў інтэрнэт, запусьціўшы пры гэтым Skype і Facebook, а таксама пошту Gmail і... адчуваеце сябе і свае дадзеныя абароненымі ад чужых позіркаў і манітораў. Але тое, найверагодней, не зусім так. У кампутарным сьвеце існуе процьма небясьпек, якія могуць моцна нашкодзіць вашай прыватнай інфармацыі і нават рэпутацыі. Прапануем некалькі правілаў бясьпечных паводзінаў, якія дазволяць пачувацца ў інтэрнэце больш упэўнена.**

Карыстальнікі не заўсёды ўсьведамляюць патэнцыйную рызыку, якая іх можа напаткаць падчас віртуальных вандровак. Ня будзем абмяркоўваць вірусы і злосных хакераў-анархістаў, а ¬¬¬засяродзімся на пяці мітах, зь якімі можна сутыкнуцца штодня.

## Міт 1. Skype – гэта бясьпечна

Skype -- цудоўны прыклад бясьпечнай праграмы: перапіска і званкі празь яе шыфруюцца з дапамогай вельмі надзейных альгарытмаў. Таксама адна з асаблівасьцяў Skype -- яго вельмі цяжка заблякаваць. Пры гэтым ён надзвычай просты ў карыстаньні.

Але ўсё было б добра, калі б ня хіба з гісторыяй размоваў Skype. Рэч у тым, што ўсе нашыя размовы ў сеціве захоўваецца на кампутары ў абсалютна адкрытым выглядзе. І любы, хто мае фізычны доступ да вашага кампутара, то бок можа адкрываць тэчкі і чытаць любыя файлы, можа прачытаць усё напісанае вамі ў Skype, нават ня ведаючы паролю да яго. Яшчэ адзін недахоп -- гэта сьцяжок “Аўтаматычны ўваход”. Наяўнасьць гэтага сьцяжка дазваляе зайсьці ў праграму адразу пасьля яе старту без уводу пароля.

**Выснова:** каб цалкам абараніць сябе, трэба адмовіцца ад захаваньня гісторыі размоваў у Skype.

**Як гэта зрабіць.** Найперш трэба адключыць аўтаматычны ўваход. Робіцца гэта так: выходзім са свайго акаўнту (у галоўным акне мэню Skype -> Sign Out), здымаем сьцяжок “Sign me in when Skype starts”.

Зь нешыфраванай гісторыяй ёсьць варыянты. Самы просты -- адключаем яе ўвогуле. Для гэта ідзем у налады Tools -> Options -> IM&SMS -> IM Settings -> Show advanced options -> Keep history for: no history. Дадаткова можна націснуць кнопку “Clear history” для выдаленьня гісторыі.

Больш складаны, але надзейны спосаб для прасунутых -- перанесьці гісторыю ў адмысловую тэчку, інфармацыя ў якой будзе зашыфраванай у найлепшых традыцыях шпіёнскіх раманаў (існуе шмат праграм, якія дазваляюць гэта зрабіць. Адна з найлепшых і бясплатных -- TrueCrypt.

**Для цікаўных:** пратакол Skype і сам кліент -- закрытыя. Таму дасьледаваць іх даволі складана. Гэта нараджае чуткі, напрыклад, пра тое, што Skype можа мець чорны ўваход для спэцслужбаў ЗША. Але ЗША баяцца -- у сеціва не хадзіць. Таму Skype’ам карыстацца можна і трэба, але памятаць пра абмежаваньні.

## Міт 2. ICQ – гэта бясьпечна

Пасьля таго як ICQ набыла расійская кампанія ў амэрыканскай AOL, папулярны ў пачатку 2000-х мэнэджэр паведамленьняў страціў магчымасьці шыфраваньня дадзеных. Таму калі вы наважыліся падзяліцца зь сябрам канфідэнцыйнай інфармацыяй, то лепей праз “аську” гэтага не рабіць. Бо вы можаце сутыкнуцца з сытуацыяй, калі пра інфармацыю даведаецца яшчэ дзясятак іншых выпадковых і ня вельмі юзэраў.

**Выснова:** ICQ – апошні сродак, якім варта карыстацца тым, хто клапоціцца пра сваю бясьпеку.

**Што рабіць:** самы просты варыянт -- не выкарыстоўваць ICQ увогуле. Лепш за ўсё яе замяніць на той жа Skype. Яшчэ можна карыстацца пратаколам Jabber і ўсімі праграмамі, пабудаванымі на ім.

Напрыклад, gTalk ад Google (убудаваны ў пошту Gmail) выдатна падыходзіць для гэтага. Толькі варта праверыць, ці ўключанае шыфраваньне вашай размовы. Для гэтага дастаткова пераправерыць опцыі https (аб тым, як зрабіць гэта на прыкладзе Facebook, гл. міт 4).

### Міт 3. Уваход у апэрацыйную сыстэму, абаронены паролем, – гэта бясьпечна

Калі злачынца мае фізычны доступ да вашага кампутара, ён можа атрымаць доступ да любой інфармацыі на ім за лічаныя хвіліны. Гэта справядліва для ўсіх апэрацыйных сыстэмаў. У выпадку, калі ў вас Windows XP і нескладаны пароль, яго лёгка можна расшыфраваць. Вы нават і не даведаецеся, што нехта меў доступ да кампутара ў вашую адсутнасьць.

**Выснова:** Не выкарыстоўвайце простыя паролі для ўваходу ў Windows. Важную інфармацыю лепш захоўваць у зашыфраваным выглядзе.

**Што рабіць:** заўсёды абнаўляйце апэрацыйную сыстэму і надавайце асаблівую ўвагу абнаўленьням бясьпекі. Па магчымасьці выкарыстоўвайце апошнія вэрсіі апэрацыйных сыстэмаў (Windows 7 мае значна больш сучасную мадэль бясьпекі).

### Міт 4. Наладкі бясьпекі «толькі для сяброў» у Facebook дастаткова, каб адчуваць сябе ў бясьпецы

Калі вы пазначаеце новыя статусы, фота і ўсю іншую інфармацыю ў профілі сацыяльнай сеткі Facebook як даступную толькі сябрам, гэта сапраўды абмяжоўвае кола тых, хто можа пабачыць дэталі вашага асабістага жыцьця. Але пакуль вы карыстаецеся Facebook праз пратакол http, а не https, усю інфармацыю, што вы прымаеце ці дасылаеце ў інтэрнэце, можа перахапіць злачынец.

**Выснова:** праца з Facebook надзейна абароненая ад чужых вачэй, калі ў радку браўзэра перад адрасам сайта стаіць ‘https’. Гэта сыгналізуе пра тое, што вы скарысталіся бясьпечным уваходам на гэты сайт.

**Што рабіць:** выхад ёсьць! Facebook дае магчымасьць заўсёды выкарыстоўваць шыфраванае злучэньне -- для гэтага дастаткова зайсьці на сайт сеткі па спасылцы https://www.facebook.com. Акрамя гэтага ў опцыях сацыяльнай сеткі ёсьць магчымасьць уключыць шыфраваньне па змоўчаньні. Не пашанцавала карыстальнікам сеткі “Вконтакте”: там магчымасьці карыстацца бясьпечным уваходам на сайт пакуль няма.

Гэтаксама кожны раз, калі вы заходзіце на любы сайт у інтэрнэце, дзе перад яго адрасам у радку браўзэра стаяць літары https, вы выбіраеце бясьпечны мэтад карыстаньня інтэрнэтам. На жаль, ня ўсе рэсурсы прапануюць працу па пратаколе https.

*калі вы наважыліся падзяліцца зь сябрам канфідэнцыйнай інфармацыяй, то лепей праз “аську” гэтага не рабіць*

Для цікаўных: існуюць праграмы, якія дазваляюць атрымаць доступ да любой вашай незашыфраванай інфармацыі (той, што не перадаецца праз пратакол https), калі вы, напрыклад, карыстаецеся агульным Wi-Fi у грамадзкім месцы: кавярні ці ўнівэрсытэце.

### Міт 5. Калі я выканаю ўсе пералічаныя рэкамэндацыі, мая інфармацыя будзе ў поўнай бясьпецы

Калі ўся гісторыя размоваў у Skype будзе назаўжды зьнікаць з кампутара адразу пасьля іх завяршэньня, у іншых размовах у сеціве будуць выкарыстоўвацца толькі абароненыя мэсэнджэры з шыфраваньнем дадзеных, а апэрацыйная сыстэма са складаным паролем на ўваходзе разам з антывірусной праграмай будуць пастаянна абнаўляцца, гэта яшчэ ня значыць, што вы ў поўнай бясьпецы.

Галоўная небясьпека для карыстальнікаў узьнікае тады, калі злачынец атрымлівае фізычны доступ да кампутара: проста разабраўшы яго, ён зможа атрымаць доступ да любой інфармацыі, якая захоўваецца, ці была выдаленая зь яго. Кампутар могуць проста скрасьці ці сканфіскаваць на мяжы. Выратаваць у гэтым выпадку могуць складаныя праграмы шыфраваньня інфармацыі (тая ж TrueCrypt).

Але такія праграмы ня выратуюць, на жаль, ад імавернай страты інфармацыі, калі нядобразычліўцы, не атрымаўшы доступу да яе, раззлуюцца і проста фізычна зьнішчаць кампутар ці прылады, на якіх у ім захоўваюцца дадзеныя.

Але і ў выпадку карыстаньня апошнімі вынаходніцтвамі спэцыялістаў па бясьпецы катастрофа можа напаткаць там, дзе яе зусім не чакалі. Вельмі часта інфармацыя, якая ня мусіць трапіць у чужыя рукі, крадзецца ня ў вас, а ў вашых суразмоўцаў па тым жа Skype ці Gmail. І ў такім выпадку застаецца спадзявацца толькі на кампутарную пісьменнасьць людзей, з якімі даводзіцца мець справы. ■

**Аляксандар Астроўскі**




# GPG4Win - альтэрнатыва PGP Desktop

Аляксей Чарняеў

Нягледзячы на зьяўленьне шэрагу новых спосабаў камунікацыі, якія прэтэндуюць на тое, каб быць бясьпечнымі (у тых межах, наколькі гэта дазваляе працоўнае асяродзьдзе), тэхналёгія PGP/GPG застаецца выдатным выбарам для тых, каму неабходна пакінуць зьмест свайго ліставаньня недасяжным для непрыяцеля.

Не ў апошнюю чаргу праз тое, што бясьпека - штука, якая вымагае кансэрватыўнага падыходу, і ня любіць пагоні за модай. "Новае" тут не азначае "лепшае", а вось "стары і правераны" - якраз тая характарыстыка, на якую варта арыентавацца.

У гэтым сэнсе, PGP/GPG нібы калекцыйны каньяк - з 1991 г. тэхналёгія пасьпяхова абкатаная у розных умовах, мноствам арганізацыяў і людзей.

Цягам гадоў для карыстальнікаў Windows адзіным інструмэнтам у гэтай сфэры была праграма, з назвай, уласна, PGP. Зрэшты, у пэўны момант гэтым брэндам сталі пазначаць цэлую лінейку прадуктаў.

Мэтай гэтага матэрыялу ёсьць прадэманстраваць чытачу-карыстальніку Windows з непрафэсійным ўзроўнем ведаў у IT, і, прынамсі, павярхоўным знаёмствам з прынцыпамі працы PGP, альтэрнатыўны прадукт - GPG4Win.

**Навошта альтэрнатыва PGP?**

Камэрцыйныя прадукты, якія выпускаюцца пад брэндам PGP (пасьля некалькіх перапродажаў, уладальнікам яго стала карпарацыя Symantec) ператварыліся ў досыць груваскі шматфункцыянальны камбайн, ці, дакладней, у цэлы шэраг груваскіх камбайнаў.

Непадрыхтаваныя карыстальнікі нярэдка маюць праблемы ўжо на этапе спампоўваньня інсталятара, бо не заўсёды даюць рады з выбарам менавіта таго PGP-прадукту, які патрэбны. Можна пакрытыкаваць і інтэрфэйс, які набыў аж занадта ўнікальны фірмовы выгляд.

Магчыма гэта дадае пазнавальнасьці, але ідзе супраць напрацаваных звычак, якія карыстальнік набыў, працуючы са "звычайнымі" праграмамі.

Таксама, хаця Symantec працягвае даўнюю традыцыю, закладзеную яшчэ першым стваральнікам Філам Цымэрманам, у адпаведнасьці зь якой, спажыўцы маюць магчымасьць бясплатнага выкарыстаньня зь некамэрцыйнымі мэтамі, новых гаспадароў яўна абцяжарвае гэтая завядзёнка, і працэс інсталяцыі пабудаваны ў такі спосаб, каб скласьці ўражаньне абавязковай аплаты. Што дадае сваю долю зьбянтэжанасьці неспрактыкаванаму грамадзкаму актывісту.

У прынцыпе, калі вы лёгка перадольваеце ўсе бар'еры, і адчуває-

це сябе камфортна і ўсталёўваючы, і карыстаючыся - ок, вам не абавязкова штосьці мяняць.

Але нават і тады, мае сэнс пазнаёміцца з GPG4Win, бо, магчыма, менш "замарочаны" інструмэнт прыйдзецца вам даспадобы. Альбо вы проста парэкамэндуеце яго свайму калегу, які яшчэ толькі пачынае карыстацца шыфраваным ліставаньнем.

**Ці трэба будзе, каб вашыя партнэры таксама выкарыстоўвалі GPG4Win?**

Не. PGP і GPG - дзьве рэалізацыі аднаго й таго ж стандарту OpenPGP, таму яны сумяшчальныя.

Вы можаце карыстацца адным варыянтам, вашыя калегі - іншым, і ўсё будзе працаваць як належыць: вы зможаце абменьвацца публічнымі ключамі, весьці шыфраванае ліставаньне, ставіць электронныя подпісы.

**Адкуль узяць, і як усталяваць**

Усё вельмі проста: наведайце сайт www.gpg4win.org і вашай увазе будзе прапанаваная вялізная кнопка з надпісам Download, клацнуўшы на якую вы патрапіце ў адпаведны разьдзел, дзе прадстаўленыя некалькі варыяцыяў GPG4Win. Некалькі?

Не напружвайцеся выбарам, бо першая ж зялёная кнопка - гэта тое, што вам трэба. Такім чынам, вы спампуеце exe-файл, які трэба запусьціць, каб пачаць інсталяцыю. Настройкі, якія вам будуць прапанаваныя ў працэсе аптымальныя, таму вашая праца, па-сутнасьці, проста націскаць кнопку Next (Далей). І толькі дабраўшыся да дыялёгу, паказанага на ілюстрацыі №1, спачатку пастаўце гачок у опцыі Root certificate defined or skip configuration (у нізе акна), і потым Next.







**Як працаваць**

Фактычна, GPG4Win - гэта некалькі праграмаў у адным пакунку, але карыстальніку дастаткова ведаць назву толькі адной зь іх (бо астатнія працуюць "пад капотам", незаўважна) - гэта Kleopatra.

Запусьціўшы яе, вы пабачыце кампактнае акно, у якім найбольша прастора пакінутая для калекцыі ключоў.

Зьвярніце ўвагу на тэрміналягічнае адрозьненьне: у "Клеапатры" паралельна, і практычна ўзаемазамяняльна ўжываюцца словы "сэртыфікат" (certificate) і "ключ" (key), у той час як у PGP Desktop амаль выключна "ключы" (keys) – гаворка пра адныя й тыя ж рэчы.

**Сьпіс ключоў можна адфільтроўваць:**

- Абіраючы розныя закладкі (My Certificates - "Мае ключы", г.зн. пары сакрэтны-публічны; Trusted Certificates - "Вартыя даверу", тут "давер" - гэта пазнака, якую вы самі можаце паставіць, ці зьняць для абранага ключа, з дапамогай каманды Change Owner Trust у мэню Certificates; Other Certificates - усе астатнія).

- Больш вузкія катэгорыі можна абіраць у пераліку справа над сьпісам ключоў, там, напрыклад, можна выбраць Expired Keys - і ў сьпісе застануцца толькі ключы, тэрмін вартасьці якіх скончыўся.

- Можна ўводзіць тэкст у радку Find, у сьпісе будуць заставацца толькі тыя ключы, апісаньне якіх уключае набраны тэкст.

Найважнейшыя для звычайнага карыстальніка каманды даступныя ў мэню File (іл. 2): згенэраваць пару ключоў - New Certificate, імпартаваць - Import Certificates, экспартаваць публічны(я) ключ(ы) - Export Certificates, экспартаваць сакрэтны(я) ключ(ы) - Export Secret Keys.

Тутака ж можна зашыфраваць файл(ы) - Sign/Encrypt Files, ці наадварот - расшыфраваць - Decrypt/Verify.

Як і PGP Desktop, Kleopatra




зьмяшчае сваю іконку ў "трэй" (каля гадзіньніка), і клацнуўшы на ёй правай кнопкай можна знайсьці набор опцыяў (іл. 2.1), сярод якіх зьвярніце ўвагу на каманды згрупаваныя ў пункце Clipboard - яны прызначаныя шыфраваць-расшыфроўваць-падпісваць зьмест "буфэра абмену". ■

*Працяг у наступным нумары*

# Беларусы робяцца грамадзянамі.

## Смалявіцкі выпадак




*Жылі мы на галоднай*
*пайцы*
*За пуставатыя рублі...*
*Цяпер увогуле кітайцы*
*На гэтай будуць жыць*
*зямлі.*

*З фэльетона “Каго ў дурдом, каго ў турму”*
*Алесь Няўвесь*

***Барацьба некалькіх сотняў уласьнікаў зямлі пад Смалявічамі стала паказальным сцэнаром змаганьня грамадзянаў за сваю маёмасьць. Яна адгукнулася ў сэрцах многіх беларусаў, а прадстаўнікоў улады ўпершы-ню за шмат гадоў прымусіла згадаць іх галоўную функцыю ў дзяржаве.***

Пачалося ўсё з таго, што ў чэрвені 2011 года кіраўнік ураду Беларусі расказаў, што хутка ў нас зьявіцца прагрэсіўны раён, падобны да расейскага Сколкава, а ўжо ў верасьні было падпісанае міждзяржаўнае пагадненьне аб кітайска-беларускім індустрыяльным парку. Паводле словаў прадстаўнікоў улады, для будаўніцтва такога маштабнага праекту прапаноўвалі тры прывабныя кавалкі зямлі вобласьці, але кітайскім інвэстарам даспадобы прыйшоўся раён Нацыянальнага аэрапорту. Пад будаўніцтва парку патрабуецца 80 кв. км зямлі – пляцоўка, роўная плошчы возера Нарач, а кошт праекту ацэньваецца ў 30 млрд даляраў. З хуткасьцю сьвятла ўжо 15 сьнежня дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ратыфікавалі вышэйназванае пагадненьне. Пад пагрозай зносу апынуліся землі 15 вёсак і частка Рэспубліканскага біялягічнага заказьніка «Валмянскі». Адчужэньне 80 квадратных кілямэтраў пад будаўніцтва індустрыяльнага парку ня зможа не адбіцца на пералічаных аб'ектах.

Пасьля ратыфікацыі пагадненьня на нацыянальным узроўні ў інтэрнэце зьявіўся праект указу прэзыдэнта, у якім акрэсьліваліся прыкладныя межы парку і было перадугледжана, што «канфіскацыя зямельных участкаў для будаўніцтва аб'ектаў парку будзе ажыцьцяўляцца для дзяржаўных патрэбаў у парадку, усталяваным заканадаўствам». Тады для ўласьнікаў зямлі пагроза зрабілася рэальнай, а кропля трываньня – апошняй, і многія жыхары заявілі, што пачынаюць змаганьне за сваю прыватызаваную зямлю.

Паводле ўладаў гэта будзе індустрыяльны парк, які ня мае аналягаў у Беларусі. Менавіта там будуць пабудаваныя новыя буйныя




вытворчасьці па выпуску побытавай тэхнікі і электронікі, у сфэры машынабудаваньня, біямэдыцыны, а значыць, новыя працоўныя месцы. Рэалізацыя такога праекту дае магутны імпульс разьвіцьцю беларускай прамысловасьці, а таксама навукова-дасьледчай, лягістычнай, гандлёвай, жыльлёвай і іншых галінаў беларускай эканомікі.

Любыя кампаніі, зацікаўленыя ў стварэньні і лякалізацыі вытворчасьцяў на тэрыторыі Мытнага саюзу, могуць стаць рэзыдэнтамі парку, і ім плянуецца даць падатковыя ільготы і прэфэрэнцыі.

Для смалявіцкіх дачнікаў парк – гэта месца канцэнтрацыі бруднай прамысловасьці і вытворчасьці. Доўгатэрміновая перавага і выгада для нашай краіны ўмоўная, бо для інфраструктуры парку перадугледжваецца толькі кітайскае абсталяваньне. Ды і працаваць у парку будзе каля 600 000 кітайцаў, а зь сем'ямі і ўсе 1,5 млн стануць суседзямі ўладальнікаў зямлі пад Смалявічамі. Гэта пагроза экалёгіі, культуры і ідэнтычнасьці беларусаў, гэта пагроза будучага міжнацыянальнага канфлікту.

Па вялікім рахунку, уладальнікі земляў пад Смалявічамі ня супраць будаўніцтва індустрыяльнага парку, гэта іх асабліва не пячэ, але яны катэгарычна супраць узьвядзеньня яго на заплянаванай тэрыторыі.

З камэнтароў.

30 садовых таварыстваў, а навіна пра кітайска-беларускі парк на тэрыторыі Смалявіцкага раёну як з хмары спала на галаву тысячам уласьнікаў "прываблівай" зямлі.

Смалявіцкі раён дзякуючы сваёй блізкасьці да сталіцы зьяўляецца даволі прывабным кавалкам для такога праекту. Тут на даволі густанаселенай тэрыторыі разьмешчаныя ня толькі вёскі, сельгасугодзьдзі, але і дачныя пасёлкі, дзіцячыя летнікі і зоны адпачынку, Пятровіцкае вадасховішча і

Я ня супраць кітайцаў, але калі зьбіраюцца зносіць маю ўласнасьць, хочаш ня хочаш, будзеш супраць праекту. Я не разумею, за каго наш урад: за грамадзянаў РБ альбо за кітайцаў?!

Дачнае таварыства "Сокал" – пад знос. Будаваўся 15 гадоў. Ва ўсім сабе адмаўляў. Марыў пра годны адпачынак з вудай на возеры. Дачакаўся! Буду стаяць да апошняга...

Больш за ўсё ўласьнікаў зямлі "пад знос" зачапіла тое, што ўлады,




**Подпіс: супраць будаўніцтва парку падпісалася 4 тысячы чалавек.**

не спытаўшы і не параіўшыся з жыхарамі, вызначылі тэрыторыю будаўніцтва парку. Гэта падарвала веру грамадзянаў у законы і мясцовае прадстаўніцтва іх інтарэсаў як выбаршчыкаў. Як такое магчыма? – часта пыталіся людзі. Уласьнікам цяжка было ўсьвядоміць, як магчыма так нахабна парушаць асноўныя правы грамадзяніна, а таксама як маглі дэпутаты схаваць гэты факт ад выбаршчыкаў. Праз інфармацыйны вакуўм вакол праекту, праз блытаніну ў тлумачэньнях мясцовай і абласной адміністрацыі, дэпутатаў, прадстаўнікоў Мінэканомікі, грамадзянам стала зразумела, што праект мае іншую, больш высокую форму ўзгадненьня ва ўладзе.

А вось што сказала Тацяна Рабчонак, якая жыве ў вёсцы Каліта:

- Мы ўсе глыбока абураныя тым, што ўлады прынялі рашэньне аб будаўніцтве тэхнапарку, нават не параіўшыся з намі. Няўжо нас настолькі не паважаюць?

Першая спроба мабілізацыі і абмеркаваньня агульных дзеяньняў барацьбы за свае ўладаньні была ініцыяваная дачнікамі кааперытыву МУС “Рэчанька” ў канцы студзеня 2012. Яны напісалі зварот у Адміністрацыю прэзыдэнта і Савет Міністраў РБ аб абароне іх уласнасьці, а таксама зварот да смалявіцкіх уладаў з патрабаваньнем тлумачэньня. Яны хацелі інфармаваньня, пераглядзу мапы будаўніцтва, арганізацыі сустрэчы з грамадзкасьцю па абмеркаваньні праекту.

У той жа час, каб разбурыць сьцяну маўчаньня і паінфармаваць мясцовых жыхароў пра магчымыя павароты ў іх лёсе, актывісты грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!» правялі акцыю пад назвай “Вы -- грамадзянін Кітайскай Беларускай Рэспублікі!”

Пачынаючы зь лютага ўладальнікі земляў “пад знос” сустракаліся кожныя выходныя, а накіроўвалі іх актывісты кампаніі “Гавары праўду!” у межах “Грамадзянскай дамовы”. На такіх сустрэчах актывісты “Гавары праўду!” слухалі людзей і тлумачылі, што найперш трэба запатрабаваць дакумэнтацыю на будаўніцтва і незалежную экалягічную экспэртызу праекту, правесьці грамадзкія слуханьні і спытаць з дэпутата “палаткі”, які мусіць прадстаўляць іх інтарэсы.

Першая сустрэча праціўнікаў парку занепакоіла мясцовых чыноўнікаў, і ўжо 11 лютага ўсе зацікаўленыя былі запрошаныя ў Смалявіцкі райвыканкам для абмеркаваньня праекту. Упершыню за апошнія гады смалявіцкія чыноўнікі ўспомнілі, што яны слугі народу. Грамадзяне на сустрэчы (а іх было так шмат, што займалі калідоры) нагадвалі, што яны падаткаплатнікі і выбаршчыкі для прадстаўнікоў улады і адміністрацыі і яны не дазволяць ім канфіскаваць свае надзелы.

Зразумела, што такая пазыцыя грамадзянаў кранула сыстэму: адразу ўвагу да канфлікту пачалі дэманстраваць дзяржаўныя СМІ, іх экспэрты рэзка асуджалі крыніцы “непраўдзівай” інфармацыі пра адсяленьне. А ўжо праз 4 дні кіраўнік Менскай вобласьці Батура выехаў у Смалявічы вырашаць канфлікт і супакойваць грамадзян. Настрой у губэрнатара пры сустрэчы зь нязгоднымі ўласьнікамі быў нэрвозны, пазыцыя стойкая, а па смалявіцкай адміністрацыі і горадзе папаўзьлі чуткі, што за свае правы ўласьнікаў змагаюцца ня простыя жыхары, а камэрсанты, якія на сваіх дачах робяць бізнэс. “А вы хто па жыцьці?” – менавіта так пытаў кіраўнік вобласьці грамадзян, якія прышлі на сустрэчу з ім.

Тым часам прадстаўнікі “Гавары праўду!” падрыхтавалі зварот у Нацыянальны сход Беларусі аб дэнансацыі пагадненьня што да разьмяшчэньня тэхнапарку ў мяркаваных межах. Таксама актывісты пачалі збор подпісаў пад зваротам да прэзыдэнта краіны з патрабаваньнем не падпісваць указ аб будаўніцтве кітайска-беларускага індустрыяльнага парку, а ў пачатку сакавіка супраць будаўніцтва парку падпісалася 4 тысячы чалавек.

У канцы лютага прадстаўнікоў ініцыятыўнай групы ўласьнікаў нарэшце прыняў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Дзямідчык. Ён дапамог арганізаваць сустрэчу ў Міністэрстве эканомікі (акурат на наступны дзень) і заняўся пошукам поўных афіцыйных дакумэнтаў, датычных парку. Ужо потым, у сакавіку, стала зразумелая яго рэакцыя: на нарадзе Лукашэнка закрануў пытаньне наступных парлямэнцкіх выбараў, перад якімі мусяць быць вырашаныя ўсе праблемы грамадзян, напрыклад, пытаньне ўласнасьці пад Смалявічамі.

Пакуль “Гавары праўду!” папраўлялі

беларускіх амбасадараў і прымушалі іх сумнявацца ў правільнасьці запрашэньня інвэстараў з розных краін працаваць у парку, па ўрадзе "гуляў" дакумэнт, згодна зь якім Мінэканомікі прымушала рэспубліканскія органы сьпяшацца ўзгадняць і падпісваць нарматыўна-прававыя дакумэнты адносна парку.

29 лютага ў праект указу аб будаўніцтве парку ўнесьлі карэктывы, якія перадугледжвалі разьмяшчэньне вытворчых і іншых аб'ектаў інфраструктуры на тэрыторыях, свабодных ад прыватных уладаньняў. А ў пачатку сакавіка Батура заявіў, што генплян будаўніцтва парку будзе перад узгадненьнем абмяркоўвацца на грамадзкіх слуханьнях. 10 сакавіка прадстаўнікі некаторых садовых таварыстваў, дачнікі, а таксама жыхары вёсак, землі якіх падпадалі "пад знос", зацьвердзілі прашэньне аб стварэньні грамадзкага аб'яднаньня «Свая сотка», мэта якога -- барацьба і абарона ўласнасьці.

І можна было б адзначаць невялікую перамогу грамадзянскай актыўнасьці ў рэгіёне, але менавіта ў канцы сакавіка самых актыўных барацьбітоў за ўласнасьць пачалі выклікаць у міліцыю. Паводле словаў апытаных актывістаў, міліцыю не цікавілі факты арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу ў каапэратыве, прадстаўнікі органаў праваахоўы шукалі зачэпкі на найбольш актыўных змагароў за ўласнасьць. Але гэта яшчэ больш падарвала давер грамадзянаў. Актывісты "Гавары праўду!" паведамілі, што падтрымаюць грамадзян юрыдычна пры любой спробе ціску на іх.

Сапраўды, кампанія "Гавары праўду!" значна паўплывала на арганізаваную тактыку, мабілізацыю актывістаў і асьвятленьне барацьбы ў СМІ. Грамадзянская ініцыятыва "За новыя Смалявічы" на гарадзкім партале Смалявічаў Smaliavichy.by зьбірае ў адным месцы ўсю інфармацыю што да індустрыяльнага парку і дае агульную пляцоўку для камэнтаваньня і выказваньня. Са словамі заклапочанасьці, падтрымкі і асуджэньня ўладаў таксама выступілі партыі БНФ і АГП.

На жаль, дасягненьню станоўчых вынікаў гэтай кампаніі можа перашкодзіць тое, што ўладальнікі земляў не ўспрымаюць праблему глябальна. Мы ня ўпэўненыя, што нязгодныя з будаўніцтвам кітайска-беларускага парку пад Смалявічамі змогуць далучыцца да тых, хто змагаецца супраць зьнішчэньня дрэваў дзеля ўзьвядзеньня кітайскага гатэля ў Менску, ці да тых, хто супраць будаўніцтва АЭС у Астраўцы, і г.д. Відавочна, што бар'ер адсутнасьці еднасьці і ўсеагульнай салідарнасьці так і не пераадолены. Шкада, што пачуцьцё несправядлівасьці грамадзянаў, землі якіх кранеў праект парку, прыводзіць да лёзунгаў іншага кірунку -- антынацыянальных.

**беларусы як грамадзяне перарасьлі сваю "тутэйшасьць". Цяпер ім важна ня толькі каб зямелька ўрадзіла, але і каб асяродзьдзе было ў гармоніі і парадку, а галоўнае – належала беларусам.**

Але прыклад паказаў, што беларусы як грамадзяне перарасьлі сваю "тутэйшасьць". Цяпер ім важна ня толькі каб зямелька ўрадзіла, але і каб асяродзьдзе было ў гармоніі і парадку, а галоўнае – належала беларусам.

Напярэдадні парлямэнцкіх выбараў гэты канфлікт выглядае вельмі паказальным і прымусіць шмат каго задумацца пра тое, чые інтарэсы прадстаўляюць "народныя" дэпутаты, а самае галоўнае – што бывае, калі мы закрываем вочы на якасьць выбараў ці не выбіраем. "Падтрымлівалі ўладу, але сваімі дзеяньнямі яна сама падштурхоўвае нас да таго, каб на наступных выбарах мы за яе прадстаўнікоў ужо не галасавалі", - сказаў жыхар аднаго з садовых таварыстваў.




Грамадзянская ініцыятыва "За новыя Смалявічы" ўжо даўно вызначыла падмурак станаўленьня грамадзянскай супольнасьці ў сваім рэгіёне (і, хочацца верыць, у многіх іншых гарадах): патрабаваньне шырокага інфармаваньня, мабілізацыя побытавымі, а не палітычнымі лёзунгамі, а таксама разьвіцьцё любові і прыхільнасьці да свайго роднага мястэчка. Барацьба смалявіцкіх уласьнікаў грунтуецца на патрабаваньні грамадзянаў інфармаваньня аб пагрозе, якая над імі навісла, іх мабілізацыя грунтавалася на рашэньні праблемы сваёй уласнасьці і побыту, а кранутая была іх малая радзіма і пачуцьці да яе, што прывяло да паказальнага адраджэньня грамадзянскай сьвядомасьці і зладжанага адстойваньня інтарэсаў. На нашую думку, гэта істотны прыклад для грамадзянаў і для краіны перад парлямэнцкімі выбарамі.

**Падрыхтавала грамадзянская ініцыятыва "За новыя Смалявічы"**






# Магілёў: адбудаваная ратуша толькі нагадвае пра самакіраваньне

Максім Кавалёў

У 2008 годзе на Дзень гораду Магілёў здабыў новую славутасьць — будынак ратушы ў самым цэнтры. Тое, што ў Магілёве адбудоўваюць ратушу, ведаў амаль кожны гараджанін. Яно і зразумела: грошы на пабудову зьбіралі і на прадпрыемствах, і з бацькоў у дзіцячых садках, і праз БРСМ. Цікава, але першапачаткова менавіта НДА пачалі барацьбу за тое, каб Магілёў займеў яшчэ адзін гістарычны помнік.

**Гісторыя Магілёўскай ратушы**

З пабудовай ратушы зьвязаны гістарычны досьціп. Калі яе пабудавалі першы раз, будынак рухнуў падчас сьвяткаваньня заканчэньня будаўніцтва. Ратушу пабудавалі зноўку — яна аказалася нахіленай. Давялося разбураць і перабудоўваць, і перад гэтым быў выдадзены спэцыяльны ўказ, які забараняў будаўнікам да канца работаў ужываць сьпіртное і падыходзіць да карчмы.

Насамрэч за сваю гісторыю Магілёўская ратуша зьнішчалася некалькі разоў: падчас Вялікай Айчыннай вайны, а пасьля і ў ліпені 1957 года. Тады ратушу ўзарвалі савецкія ўлады, а вежу зьнесьлі з дапамогай двух трактароў.

Гісторыя ратушы пачынаецца ў 1679 годзе, калі мясцовыя жыхары пачалі ўзводзіць асноўны яе будынак. А праз тры гады майстар Круйзбэрг з Быхава, што пад Магілёвам, пачаў будаваць да яе вежу вышынёй 26 мэтраў. Неўзабаве вежа разбурылася, і праз 16 гадоў, у 1698-м, была пабудаваная новая пяціярусная вежа вышынёй ужо 38 мэтраў.

Амаль цалкам ратуша была зьнішчаная падчас Вялікай Айчыннай. Але рашэньнем гарвыканкама ад 11 верасьня 1953 ратуша была абвешчаная помнікам архітэктуры, і прызначалася дата яе рэстаўрацыі. Аднак рэстаўрацыя так і не пачалася, а праз 4 гады савецкія ўлады ратушу зруйнавалі цалкам.

Пытаньне аб аднаўленьні ратушы падымалася неаднаразова, але толькі ў 1992 годзе адбылася сымбалічная закладка камню, а будаваць пачалі ў 2007 годзе. Урачыстае адкрыцьцё Магілёўскай ратушы адбылося ў 2008-м, у Дзень гораду.

Цяпер у будынку ратушы зьмяшчаецца музэй гісторыі Магілёва і заля гарвыканкама для прыёму гасьцей і ўрачыстых паседжаньняў.

**Ратуша — сымбаль самакіраваньня тых часоў**

Дазвол на ўзьвядзеньне ратушы прыйшоў менавіта разам з атрыманьнем Магілёвам Магдэбурскага права. 28 студзеня 1577 Магілёў атрымаў права на самакіраваньне. Улада ў горадзе перайшла ў рукі магістрату (рады). На чале гарадзкога кіраваньня стаяў войт, ён прызначаўся каралём пажыцьцёва зь ліку буйных фэадалаў. Пасьля гараджане дамагліся права абіраць войта і яго намесьніка — лентвойта, які кіраваў горадам у час адсутнасьці войта.

У 1588 годзе гараджане дамагліся стварэньня кантрольнадарадчага органу з 12 чалавек, якія абіраліся гараджанамі кожны год зь ліку саміх гараджан. Чальцы гэтага органу абавязаныя былі сачыць за правільным выкарыстаньнем гарадзкіх сродкаў, разам з магістратам удзельнічаць у вырашэньні розных пытаньняў

жыцьця гораду.

Такім чынам, наданьне Магдэбургскага права Магілёву прывяло да таго, што гараджане самі вырашалі ўсе праблемы гарадзкога жыцьця і пазбавіліся свавольства асобных фэадалаў і дзяржаўных чыноўнікаў.

**Адраджэньне ратушы — як гэта было**

Ідэя адрадзіць ратушу гучала яшчэ з 1992 года, — кажа грамадзкі актывіст Ігар Барысаў. — Тады першы дэмакратычны Магілёўскі старшыня сп. Габрусёў паспрабаваў аднавіць яе, была нават закладзеная частка падмурку, але пасьля таго як Габрусёва зьнялі, усе дзеяньні скончыліся, а новай уладзе пабудова ратушы была ўжо не патрэбная.

У справе адраджэньня ратушы, паводле ўспамінаў Ігара Барысава, вялікую ролю адыгралі магілёўскія гісторыкі, якія заўжды настойвалі на адраджэньні будынка, дзе прымаліся ўсе важныя рашэньні. Больш за тое, прадстаўнікі незалежных арганізацый і партый падключаліся да гэтай ідэі, незалежныя журналісты пісалі, наколькі важна гораду аднавіць самую галоўную пабудову.

Карацей, — падсумаваў Ігар, — гэтую ідэю настолькі актуалізавалі, што яна ўрэшце дайшла да ўладаў. Тым больш што некалькі арганізацыяў (БНФ “Адраджэньне”, ТБМ і іншыя), аб’яднаўшыся, сабралі каля трох тысячаў подпісаў гараджан. Гэта і быў апошні штуршок для ўладаў.

Першыя сродкі на аднаўленьне ратушы вылучаліся яшчэ ў 2006 годзе. Амаль усе яны пайшлі на распрацоўку праекту. Тады ж закладаліся і сродкі на будаўніцтва самой ратушы, і ў другой палове 2007 года яе пачалі будаваць. Неўзабаве сродкі ў гораду скончыліся...

“Будавалі ўсім Магілёвам” — так можна ахарактарызаваць аднаўленьне магілёўскай ратушы. Гарадзкі савет дэпутатаў абвясьціў, што на будаўніцтва можна ахвяраваць сродкі. Тут жа БРСМ пачаў праводзіць дабрачынную акцыю па зборы сродкаў “Будуем ратушу разам”, як звычайна, у добраахвотна-прымусовым стылі. І яны так актыўна пачалі зьбіраць сродкі, што гараджане нават скардзіліся. Маўляў, і на працы па 5 тысяч сабралі, а калі па дзіця ў садок прыходзім, таксама патрабуюць. Зьбіралі і з бацькоў шкаляроў, і са студэнтаў. Адным словам, пэўна, адзінкі не “здалі грошы на ратушу”.

**Адзначаем дату атрыманьня горадам магдэбурскага права**

Амаль штогод недзяржаўныя грамадзкія арганізацыі адзначаюць гадавіну атрыманьня горадам Магдэбурскага права — 28 студзеня 1577. Галоўным “завадатарам” заўжды выступае грамадзкая арганізацыя “Грамадзянскі форум”, які ў сваёй дзейнасьці арыентуецца на гарадзкое самакіраваньне. Дарэчы, зь іх дапамогай таксама зьбіраліся подпісы пад зваротам за аднаўленьне ратушы.

Дзень атрыманьня Магдэбурскага права для кожнага гораду лічыцца грандыёзным сьвятам, а ў нас на гэта ніхто ніколі не зьвяртаў увагі, — кажа грамадзкі дзеяч Алесь Сілкоў. — Калі ў 1998 годзе я стаў сябрам арганізацыі “Грамадзянскі форум”, мы ўпершыню ўзьнялі пытаньне пра Магдэбурскае права. Тады мы даслалі лісты ўсім дэпутатам Магілёўскага гарадзкога савета зь віншаваньнем з гэтым сьвятам і пажаданьнем, каб наш гарадзкі савет дэпутатаў быў вартым нашага цудоўнага гораду. У наступным годзе мы правялі нашую першую канфэрэнцыю, у якой узялі ўдзел прадстаўнікі трох краінаў, а ў 2004 годзе прайшла канфэрэнцыя з удзелам ужо шасьці краінаў. На гэтых канфэрэнцыях абмяркоўваліся пытаньні мясцовага самакіраваньня. Па выніках канфэрэнцый былі надрукаваныя кнігі, якія былі дасланыя нашым дэпутатам.

**Цяпер ратуша — сымбаль гораду, а не самакіраваньня**

Ігар Барысаў лічыць, што на сучасным этапе магілёўская ратуша перастала ўвасабляць мясцовае самакіраваньне. Калі раней, з наданьнем Магдэбурскага права, гораду дазвалялася будаваць ратушу, яна рабілася цэнтрам прыняцьця гарадзкіх рашэньняў.

— Цяпер нельга сказаць, што гараджане бачаць ратушу як цэнтар прыняцьця рашэньняў, як і нельга сказаць, што Магілёў мае самакіраваньне, бо гараджане не кіруюць горадам, — кажа Ігар. — Мы ня маем мэра (бо мэр мусіць абірацца гараджанамі). Мы маем старшыню гарвыканкама — ён прызначаецца зьверху. Аналягічна і з губэрнатарам.

Прыкладна такой жа думкі трымаецца і гісторык Алесь Агееў:

— Калі параўноўваць мясцовае самакіраваньне часоў Магдэбурскага права з больш позьнімі часамі, то такіх вольнасьцяў горад ня меў больш ніколі. Гэтага не было ў Расіі, да якой Магілёў быў далучаны ў 1772 годзе, дзе віцэ-губэрнатар непасрэдна кіраваў горадам, і схема кіраваньня была жорсткай. Крышку пазьней, у 1864 годзе, была праведзеная рэформа, якая ўводзіла выбарнасьць і гарадзкія думы, але зноў жа правоў у гараджан было менш, чым пры ВКЛ і Рэчы Паспалітай. У Савецкім Саюзе камуністычная партыя вырашала ўсе пытаньні. Цяпер — саветы, таксама дастаткова фармальны орган.

Атрымліваецца, што сымбаль самакіраваньня ёсьць, а самакіраваньня зноўку давядзецца дамагацца. Застаецца толькі спадзявацца, што ў хуткім часе ратуша ўсё ж пачне працу па наўпростым прызначэньні. А пакуль для большасьці гараджанаў магілёўская ратуша — гэта архітэктурная славутасьць і сымбаль гораду. ■

# Каму смурод, а каму — “чыстае паветра”

*Видишь суслика? Нет? И я не вижу. А он есть!*

*“ДМБ”*

Стасункі паміж грамадзтвам і ўладамі ўсё часьцей нагадваюць кіношныя прымаўкі: “сусьлік ёсьць, а лыжкі няма”. З аднаго боку, берасьцейцы скардзяцца, што ля ракі Мухавец чуецца невыносны смурод. З другога — улады на такое меркаваньне грамадзян аніякай увагі не зьвяртаюць. Прадстаўнікі берасьцейскай намэнклятуры проста адмаўляюцца выкарыстоўваць свае нюхальныя рэфлексы і выклікаць у сябе здольнасьць вызначаць пах. Берасьцейскія сябры “Гавары праўду!” вырашылі пазмагацца за чыстае паветра ў горадзе і давесьці чыноўнікам, што смурод усё ж ёсьць.

Больш за паўгода берасьцейскія актывісты кампаніі “Гавары праўду!” змагаюцца “За чыстае паветра” ў горадзе над Бугам. Каля ракі Мухавец, што злучае Берасьце з Тэрэспалем, чуваць непрыемны пах. Да рэчкі прылягае тэрыторыя, на якой разьмяшчаецца шмат жылых кварталаў. А значыць, смурод стварае нязручнасьць ня толькі водным насельнікам Мухаўца, але і жыхарам Берасьця. Адкуль зьявіўся непрыемны пах, якія ягоныя вытокі — на гэтыя пытаньні мясцовыя ўлады адказаў не даюць. Чыноўнікі тлумачаць усё проста: аніякіх непрыемных пахаў каля Мухаўца няма.

Паколькі ўлады адмаўляліся заўважаць праблемы жыхароў, якім надакучыў смурод, берасьцейцам давялося шукаць дапамогі ў недзяржаўных арганізацыях. З праблемай забруджаньня паветра да актывістаў “Гавары праўду!” ня раз зьвярталіся грамадзяне і прасілі дапамагчы ў яе вырашэньні. Актывісты доўга чакаць ня сталі і пачалі збор подпісаў сярод грамадзянаў, што хочуць як найхутчэй разабрацца з сытуацыяй.

Берасьцейскія прадстаўнікі кампаніі “Гавары праўду!” сабралі каля 1000 подпісаў, якія накіравалі ў Берасьцейскі гарадзкі выканаўчы камітэт.

— Мы спадзяваліся, што нашыя подпісы будуць сабраныя не ўпустую, што нам дашлюць зьмястоўны адказ, што ўлады патлумачаць, як яны зьбіраюцца вырашаць праблему, — кажа актывістка кампаніі Ганна Канюс.

Аднак замест зьмястоўнага адказу актывісты атрымалі адпіску, у якой увага надавалася дадатковым праблемам, што ўзьніклі падчас збору подпісаў. “Інфармуем Вас, што было праведзенае камісійнае дасьледаваньне пажарнага вадаёму ў раёне Кавалёва горада Берасьця, ніякіх адхіленьняў ад санітарна-гігіенічных нормаў выяўлена не было...” — гаварылася ў адказе ўладаў. Такая адпіска не спыніла грамадзкіх дзеячаў, і актывісты зьвярнуліся са скаргаю на адказ Берасьцейскага гарадзкога выканкаму ў абласны выканаўчы камітэт.

— Мы чакаем ад уладаў шчырага адказу і вырашэньня пытаньня, — падзялілася думкамі Ганна Канюс.

У межах кампаніі “За чыстае паветра” актывістамі таксама былі пададзеныя заяўкі на правядзеньне пікетаў. Аднак безвынікова.

— У руках улады канчатковае вырашэньне пытаньня, — падзяліўся досьведам актывіст “Гавары праўду!” Ігар Маслоўскі. — Мы будзем працягваць змагацца, пакуль у нас ня будзе чыстага паветра ў горадзе над Бугам.

**Вольга Сініцына**

brest246.mylivepage.ru

http://pics.livejournal.com




# Берасьцейская “Вясна”:
## працуем у звыклым рэжыме

**Інтарэсы берасьцейцаў абараняюць ня толькі дзяржаўныя прафсаюзы ды адвакацкія канторы, як можа нехта падумаць. Акрамя дзяржаўных прадстаўнікоў у горадзе над Бугам ёсьць да каго зьвярнуцца. У Берасьці працуе праваабарончы цэнтар “Вясна”.**

Праваабарончы цэнтар “Вясна” зьявіўся ў далёкім 1996 годзе, то бок калі Аляксандар Лукашэнка ва ўсю кіраваў краінай: зьмяніў сымболіку, зрабіў расейскую мову другой дзяржаўнай і зьмяніў Канстытуцыю, узмацніўшы сваю ўладу. Тады ж у Беларусі распачаліся масавыя акцыі пратэсту прадстаўнікоў дэмакратычнай супольнасьці, праводзіліся незаконныя арышты людзей, адбываліся першыя рэпрэсіі ў незалежнай краіне. “Вясна” пачала займацца дапамогай рэпрэсаваным і іхным сем’ям. Праз два гады – у 1998-м – філіял праваабарончага цэнтра зьявіўся і ў Берасьці. Дзейнасьць рэгіянальнай арганізацыі праваабарончага цэнтру нічым не адрозьнівалася ад менскага прадстаўніцтва і дзейнічала, як і сёньня, у якасьці аўтаноміі.

— Калі ў 1998 годзе ў Берасьці прапанавалі арганізаваць аддзяленьне праваабарончага цэнтру “Вясна”, то яно было вельмі хутка ў нас створанае, — падзяліўся ўспамінамі прадстаўнік берасьцейскага філіялу арганізацыі Ўладзімір Вялічкін. – У тым годзе масава пачалі парушацца правы чалавека. Мы зьбіралі грошы для затрыманых, рыхтавалі для іх пасылкі. Людзі самі да нас прыходзілі.

Штогод у берасьцейскі праваабарончы цэнтар “Вясна” прыходзіць каля 1000 чалавек. Большасьці зь іх праваабаронцы аказваюць дапамогу, у першую чаргу юрыдычную. Да 2007 года сябры праваабарончай арганізацыі выступалі ў судах




**прадстаўнік берасьцейскага філіялу арганізацыі Ўладзімір Вялічкін**

замест юрыстаў і мелі такія ж паўнамоцтвы – абараняць людзей. Пасьля ўсё зьмянілася і, згодна зь беларускім заканадаўствам, абараняць правы грамадзян у судовых інстанцыях могуць толькі адвакаты са спэцыяльнай ліцэнзіяй – дазволам на працу ў межах Беларусі.

— Нават такія зьмены ў заканадаўстве ня сталі для нас перашкодаю. Нашыя праваабаронцы працягвалі прыходзіць у залі суду і падтрымліваць людзей. Гэта ў пэўнай ступені ціск на судзьдзяў, калі яны ведаюць, што акрамя іх у залі сядзяць прадстаўнікі закону. Судзьдзі адчуваюць сябе ня так утульна ў сваіх крэслах, як калі яны сам-насам з фізычнай асобай.

Нечаканым для берасьцейскага філіялу “Вясны”, як і для іншых рэгіянальных структур гэтай арганізацыі, стаў арышт яе лідэра – Алеся Бяляцкага.

Дзякуючы аўтаномнаму прынцыпу працы пасьля такога здарэньня дзейнасьць берасьцейскай арганізацыі не спынілася. На сёньняшні момант, як і дзясятак гадоў таму, кожны можа прыйсьці са сваёй праблемай да праваабаронцаў, працягваецца аказаньне дапамогі рэпрэсаваным, выплаты штрафаў, гаворацца словы падтрымкі.

— У нас быў і ёсьць агульны цэнтар у Менску. Гэты цэнтар дапамагае нам ажыцьцяўляць праваабарончую дзейнасьць адпаведна статуту арганізацыі. Тое, што стала меней на аднаго з нас – не найлепшая навіна, але мы павінныя працягваць змагацца да апошняга, — дадаў Уладзімір Вялічкін. ■

**Вольга Сініцына**

# Рэгіянальная беларусізацыя

Яўген Меркіс

Напэўна, кожны з нас, беларускамоўных, хоць раз у жыцьці спрабаваў зрабіць нешта на карысьць роднага слова ды нашай культуры. Ёсьць свая спэцыфіка ў тым, як гэта робіцца заангажаванымі людзьмі на Гомельшчыне.

Безумоўна, вялізную ролю ў абуджэньні ў грамадзянаў пачуцьця гонару за родную мову, культуру і гісторыю мусіць адыгрываць дзяржава і перш за ўсё -- міністэрствы культуры і адукацыі. Але мы паспрабуем спыніцца на тым, што робяць у дадзенай сфэры НДА ў рэгіёнах, а таксама на праблемных момантах іх дзейнасьці.

**Спэцыфіка працы ў рэгіёнах: хто і што робіць?**

Сярод арганізацыяў, якія тым ці іншым чынам спрабуюць абудзіць у жыхароў Гомеля любоў да роднага слова і краю, можна назваць гомельскую суполку ТБМ і ГМКГА "Талака".

Гомельская суполка ТБМ імя Ф. Скарыны паўстала некалькі гадоў таму і за гэты час пасьпела шмат чаго зрабіць для павелічэньня цікавасьці гамельчукоў да ўласнай мовы. Сябрамі суполкі ладзяцца літаратурныя і музычныя вечарыны, мерапрыемствы па ўшанаваньні славутых беларускіх культурніцкіх дзеячаў, беларускія дыктоўкі і інш. Значнай падзеяй сталася зьяўленьне беларускамоўных "рэалак" ды беларускіх летнікаў на прыродзе, падчас якіх моладзь магла сустрэцца і паразмаўляць у вольнай атмасфэры на роднай мове.

Займаецца беларусізацыяй і Гомельская моладзевая краязнаўчая грамадзкая арганізацыя "Талака", якая ўжо некалькі дзясяткаў гадоў пасьлядоўна вывучае, рэканструюе і ладзіць сьвяткаваньні традыцыйных беларускіх сьвятаў, культурна-асьветніцкія і краязнаўчыя мерапрыемствы. Дзейнасьць арганізацыі скіраваная на папулярызацыю роднай культуры на ўсіх узроўнях. Дзякуючы ўдзелу ў мерапрыемствах "Талакі" гомельская моладзь вучыцца ня толькі шанаваць і любіць сваё, але і па-новаму глядзець на сьвет, не цурацца роднай мовы і звычаяў продкаў. Магчымасьць дакрануцца да ўласнай культуры і стаць яе носьбітам, удзельнікам мерапрыемстваў прывяла да беларушчыны не адзін дзясятак маладых людзей. Важным у беларусізацыі зьяўляецца і асабісты прыклад, калі маладзёны пераходзяць на беларускую мову ў штодзённым жыцьці пасьля сустрэчы зь беларускамоўнымі юнакамі ды дзяўчатамі.

*Натальля Маркевіч, сябра ГМКГА "Талака", настаўніца гісторыі:*

"Калі ў 1991 годзе я прыйшла на першы курс гістарычнага факультэта ў Гомелі, у маёй групе быў толькі адзін беларускамоўны – Зьміцер Сасноўскі. З паралельных групаў прыходзілі нават паглядзець на яго, як на нейкае дзіва, але на пятым курсе ўжо шэсьць чалавек, у тым ліку і я, больш-менш стала размаўлялі па-беларуску менавіта дзякуючы ягонаму прыкладу. А яшчэ дзякуючы яму ўсе нашыя гісторыкі даведаліся пра дзейнасьць "Талакі", і многія нават паўдзельнічалі ў яе мерапрыемствах і знайшлі сябе як сапраўдныя беларусы".



**Асноўныя цяжкасьці ў працы**

Што да саміх мерапрыемстваў, якія ладзяцца ў Гомелі, то праблемай ёсьць іх нерэгулярнасьць і адсутнасьць доўгатэрміновай праграмы працы, праблемы супрацоўніцтва нават паміж нешматлікімі ініцыятывамі, што дзейнічаюць у

***старшыня Гомельскай маладзёвай краязнаўчай грамадзкай арганізацыі «Талака». Настаўнік гісторыі, навучаўся на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэта***



рэгіёне. Мерапрыемствы часьцей за ўсё ладзяцца па магчымасьці і досыць разнаплянавыя, часта не аб'яднаныя паэтапнай працай па прыцягненьні новых людзей. Сытуацыя адных і тых жа “знаёмых вачэй” актуальная, бо на шматлікія мерапрыемствы прыходзяць адны і тыя ж людзі, для якіх самі мерапрыемствы – гэта магчымасьць пабачыцца са знаёмымі ды падтрымаць саму падзею сваёй прысутнасьцю, выказаць такім чынам сваю грамадзянскую пазыцыю. Гэтых людзей часьцей за ўсё ўжо ня трэба прыцягваць да беларушчыны – яны ведаюць родную мову, гісторыю і культуру роднага краю. Атрымліваецца такая “нацыянальная сацыялізацыя” для нешматлікіх беларускамоўных у рэгіёне. Прычына гэтай зьявы – і адсутнасьць пошуку новых падыходаў у беларусізацыі сіламі НДА. Апроч гэтага маюць месца праблемы з рэклямай мерапрыемстваў, перашкоды з боку ўладаў і адміністрацыяў розных установаў.

Гарадзкія ўлады прыгадваюць родную мову ў сваёй дзейнасьці досыць спарадычна. А калі гэта і здараецца, то заклікана паказаць, што “ўсё добра ў Багдадзе”, а не адлюстраваць сапраўдныя прынцыпы нацыянальнай палітыкі. З кожным годам колькасьць беларускамоўных шыльдаў ды банэраў, хаця б тых жа віншаваньняў з Новым годам па-беларуску, памяншаецца. Нават на самыя відавочныя памылкі і наўпростае невыкананьне законаў аб роўнасьці моваў закрываюць вочы. Так, у Гомелі можна без праблемаў сустрэць “прыемную” прыёмную камісію, гімназіі безь беларускіх шыльдаў з афіцыйнай назвай навучальнай установы, і гэта нікога з чыноўнікаў не турбуе і не зьдзіўляе. Калі адысьці ад тэхнічных момантаў то мерапрыемствы ў галіне беларусізацыі насельніцтва фактычна не ладзяцца. З такіх ініцыятываў “для птушачкі” можна адзначыць нядаўняе абяцаньне, што на сусьветны Дзень роднай

***Інтэрнэт ня толькі злучыў беларускамоўных, але і зрабіў дасяжнымі для ўсіх зацікаўленых вялізную колькасьць беларускай інфармацыі.***



мовы, які адзначаецца на прапанову ЮНЭСКА 21 лютага, гомельскія бібліятэкары будуць размаўляць і адказваць наведнікам па-беларуску. З усіх гарадзкіх бібліятэк ініцыятыву падтрымалі хіба што Цэнтральная бібліятэка імя Герцана ды Славянская бібліятэка.

Варта адзначыць, што самай вялікай праблемай у дзейнасьці арганізацый, якія папулярызуюць беларускую культуру і мову ў Гомелі, ёсьць адсутнасьць памяшканьня, і дзяржава не сьпяшаецца актыўна дапамагаць у вырашэньні праблемы. Сталіца ў гэтым пытаньні была заўсёды больш лібэральнай, і месцаў для рэалізацыі той або іншай ініцыятывы там на дадзены момант досыць шмат. Да таго ж за апошнія некалькі гадоў у Менску ўзьнік шэраг пляцовак, што акумулююць усе найбольш яскравыя і цікавыя мерапрыемствы беларускай культурнай прасторы. Безумоўна, размова ідзе пра такія аб'екты, як “Галерэя “Ў”, “Арт-сядзіба” і інш. Гэтыя ўстановы шчыра запрашаюць і адкрытыя да супрацоўніцтва зь іншымі культурніцкімі арганізацыямі і ініцыятывамі.

Рэгіёны ж пахваліцца такой магчымасьцю пакуль ня могуць. У Гомелі пры правядзеньні тых або іншых мерапрыемстваў даводзіцца разьлічваць на свае сілы ды сувязі, а ладзіць гэтыя мерапрыемствы часьцей за ўсё атрымліваецца ў бібліятэках. Але і яны не заўсёды адчыненыя для любых ініцыятываў. Па-першае, бібліятэкі маюць свой графік працы, а па-другое, калі мерапрыемства датычыць вострадыскусійных пытаньняў з жыцьця нашай краіны, спадзявацца на адчыненыя дзьверы даводзіцца далёка не паўсюль. Такім чынам, праблема адсутнасьці пляцоўкі, дзе можна было б праводзіць безьліч імпрэзаў, вельмі востра стаіць перад актыўнымі гамельчукамі.

Ёсьць і іншая праблема: назіраецца паступовы адрыў Менску і станаўленьне монаўрбаністычнасьці беларускай культурнай прасторы. І гэта ня толькі тэндэнцыя, выкліканая тэхнічнымі пытаньнямі кшталту недахопу памяшканьня – вялікі шэраг рэспубліканскіх ініцыятываў усё менш зьвяртае ўвагу на беларускае “замкадзьдзе”. Культурна-асьветніцкай працай па ўсёй Беларусі можа пахваліцца хіба “Будзьма!”, таму калі і ладзяцца нейкія актуальныя і цікавыя беларускія культурніцкія мерапрыемствы, як тыя ж публічныя лекцыі, прэзэнтацыі новых кніг або праектаў, то толькі ў Менску і больш нідзе. Але ня трэба забывацца на рэгіёны, спадарства!

Няма сумневу, што найважнейшым сродкам закладаньня ведаў пра сваю Радзіму і прышчапленьня любові да ўсяго, што з ёй зьвязана, мусяць быць адукацыйныя ўстановы. На вялікі жаль, у Гомелі няма аніводнага беларускамоўнага дзіцячага садка або ўнівэрсытэту, у якім існавала б магчымасьць выбару мовы выкладаньня прадметаў. У горадзе афіцыйна існуе толькі адна беларускамоўная школа – гімназія №36 імя І. Мележа, але і ў ёй ня ўсё добра. Толькі ў адной клясе на паралелі навучаньне вядзецца па-беларуску, і тое профільныя прадметы, сярод якіх геаграфія, матэматыка, біялёгія, хімія ды фізыка,

усё роўна выкладаюцца па-руску. Па-беларуску вядзецца ўся школьная дакумэнтацыя ды выхаваўчы працэс. Зразумела, што такая сытуацыя ня можа паспрыяць пасьпяховай беларусізацыі і гадаваньню сьвядомых беларусаў.

**Пошукі новых шляхоў і беларус 2.0**

Яшчэ адным бокам праблемы адсутнасьці "новых людзей" на мерапрыемствах у рэгіёнах зьяўляецца тое, што па інэрцыі большасьць беларускаарыентаваных падзей і акцый яшчэ з 90-х гг. носяць аднабаковы характар – яны ладзяцца для публікі, якая адыгрывае ролю пасіўных гледачоў культурніцкага мерапрыемства. Такі шлях быў досыць важным і спрацоўваў за часамі поўнага прыгнёту большасьці беларускіх пачынаньняў пасьля сярэдзіны 90-х гг., але ў нашыя дні такая тактыка перастае выконваць мэту. Для людзей тых часоў, калі нават сярод дарослых сустракалася шмат нэафітаў у пляне беларушчыны, яны адыгрывалі сымбалічную ролю, ролю знакавых адзінак, сьведчылі пра тое, што мова існуе, што культура і гісторыя свайго народу -- гэта ня міт, а жывая рэчаіснасьць. Ня варта забывацца таксама, што за тымі часамі большасьць жыхароў гораду часта не магла пачуць беларускае слова або песьні, пазнаёміцца з гісторыяй родных мясьцінаў у вольным доступе. Цяпер усё перакуліў з ног на галаву інтэрнэт. Ён ня толькі злучыў беларускамоўных, але і зрабіў дасяжнымі для ўсіх зацікаўленых вялізную колькасьць беларускай інфармацыі. Цяпер, каб пачуць беларускую песьню, неабавязкова ісьці на вечар беларускіх бардаў, а гісторыя Беларусі нават у школе выкладаецца ў значна большым аб'ёме, чым гэта было раней.

Таму цяпер самай актуальнай бачыцца праблема ператварэньня "пасіўных" наведнікаў імпрэзаў у беларускіх культуртрэгераў, актывістаў, што адкрыта выказваюць свае меркаваньні і могуць ня толькі дапамагаць пры правядзеньні мерапрыемстваў, але і самастойна іх ладзіць.

Дадатковым шляхам беларусізацыі можа служыць і прыход да беларушчыны новых людзей празь небеларускія ініцыятывы. У прыклад можна прывесьці дзейнасьць менскай "Арт-сядзібы", якая дае магчымасьць самавыяўляцца ня толькі беларускамоўным музыкам або паэтам. Зразумела, на канцэрты рускамоўных выканаўцаў часта прыходзіць публіка, ня дужа заангажаваная ў беларушчыне. Шмат для каго з гэтых маладзёнаў беларуская мова асацыюецца з палітыкай або "вёскай". Але праз удзел у такіх мерапрыемствах шмат хто зь іх папаўняе шэрагі сталых наведнікаў усіх мерапрыемстваў "Арт-сядзібы", на якіх знаёміцца ўжо і зь беларускай культурай. Часам яна робіцца для іх адкрыцьцём, і яны перастаюць цурацца роднага слова. Такім чынам, падобныя ініцыятывы дапамагаюць разбурыць стэрэатыпы і прывесьці да беларушчыны новых, раней незаангажаваных людзей.

На маю думку, варта таксама зьмяніць акцэнт беларусізацыі – на сёньняшнім этапе значна важней змагацца не за пераход усіх на беларускую мову, а за тое, каб як мага большая частка беларускага грамадзтва, і ў першую чаргу моладзь, пачала прызнаваць яе адной з найважнейшых сваіх каштоўнасьцяў. Важна, каб грамадзтва атрымала пэўны базіс ведаў і ўяўленьняў пра гісторыю ды культуру свайго наро-

***большасьць беларускаарыентаваных падзей і акцый яшчэ з 90-х гг. носяць аднабаковы характар – яны ладзяцца для публікі, якая адыгрывае ролю пасіўных гледачоў культурніцкага мерапрыемства.***



**У прыклад можна прывесьці дзейнасьць менскай “Арт-сядзібы”, якая дае магчымасьць самавыяўляцца ня толькі беларускамоўным музыкам або паэтам.**




ду, яго звычаі і сьветапогляд, зразумела, што бязь іх абароны яно будзе духоўна бедным і слабым у параўнаньні зь іншымі народамі.

Паноўнай ідэяй тут мае стаць тэорыя “беларуса 2.0”, для якога беларуская мова ўжо не “сьвятая карова”, на якую трэба маліцца, якую нельга зьмяняць і дапаўняць як літаратурна-мастацкую каштоўнасьць. Беларус вэрсіі 2.0 з дапамогай роднай мовы хоча засвойваць і даведвацца пра ўвесь сьвет, пра навіны любога кшталту, зьвязаныя ня толькі з роднай мовай і культурай. Яму ўжо ня трэба самасьцьвярджацца і знаходзіць паразуменьне з уласным “я”, абраўшы родную мову штодзённай мовай камунікацыі. Ён не замыкаецца на сьвеце беларускамоўнай грамады, якая сёньня, на вялікі жаль, загнаная ў пэўнае лінгва-культурніцкае і нават сацыяльнае гета.

Таму варта зьвяртаць увагу і на правядзеньне нестандартных мерапрыемстваў, дзе ўсё будзе па-беларуску. Гэта прыцягне новых людзей і не дазволіць засумаваць беларускамоўным беларусам, якім ужо надакучыла хадзіць кожны год на адны і тыя ж беларускія дыктоўкі ды вечары памяці нашых літаратурных клясыкаў. “Коласу слава, слава Купалу, але дзе месца тут для цябе?..”, як спяваў гурт N.R.M. у песьні “Маё пакаленьне”.

У працы рэгіянальных беларускіх інтэрнэт-рэсурсаў што спрыяюць беларусізацыі, можна вылучыць як тэхнічныя праблемы (часам састарэлы дызайн, праблемы з пэрыядычнасьцю выхаду навінаў у сьвет), так і ідэйныя. Адной з галоўных ідэяў апошняга дзесяцігодзьдзя для беларускаарыентаваных рэгіянальных сайтаў была тэндэнцыя апісваць усё беларускае ў родным горадзе. Такім чынам ня толькі сьцьвярджалася беларускае “я”, але і стваралася беларуская культурная прастора ў межах уласнага населенага пункту. Гэта яшчэ і аб’ядноўвала ўсіх беларусафілаў. Але зьяўленьне сацыяльных сетак дазволіла значна лепей умацаваць сувязі паміж сьвядомымі беларусамі, чым калі-небудзь раней, і гэты прынцып пачаў перашкаджаць разьвіцьцю такіх рэсурсаў. Таму зварот да новай інфармацыйнай палітыкі для беларусаў новага пакаленьня мусіць стаць паноўным для рэгіянальных беларускіх інфармацыйных сайтаў.

**Рэзюмэ**

Зразумела, у арганізацый, што спрабуюць абеларусіць рэгіёны, хапае праблемаў як вонкавага характару, так і ўнутранага. Шмат якія падыходы і мэтады дасягненьня пастаўленых мэтаў варта перагледзець, шмат чаго яшчэ трэба дасягнуць.

Відавочна, што вінаваціць НДА ды ініцыятывы, якія спрыяюць беларусізацыі ў рэгіёнах, ва ўсіх хібах сучаснага стану беларускай культуры нельга. У наш складаны час, калі дзяржава ня толькі не праводзіць выразнай нацыянальнай палітыкі, але і перашкаджае рабіць гэта іншым, казаць пра плённую на сто адсоткаў працу не даводзіцца. Але пры ня самых спрыяльных вонкавых фактарах варта быць і крытычнымі да сваёй дзейнасьці, увесь час удасканальвацца і шукаць новыя формы ўзьдзеяньня на грамадзтва. Беларусы мусяць навучыцца плённа працаваць разам, а “менчукам” варта не забывацца на рэгіёны.

Беларусізацыя ўласнага народу мусіць сёньня легчы і на плечы кожнага асобна ўзятага беларуса з выразнай грамадзянскай пазыцыяй. Практыка змаганьня за свае погляды ў межах прававых нормаў мусіць стаць нормай беларускамоўных новага пакаленьня. Трэба пазбаўляцца ад заселых у нас “homo soveticus”, якія прызвычаіліся, што за іх усё зробяць іншыя. Пачынаць рабіць сваю краіну па-сапраўднаму беларускай трэба сёньня, і рабіць гэта мусіць кожны.

■

# Грамадзтва і парлямэнцкая кампанія - 2012



Зьміцер Кухлей

**Традыцыйна беларускае грамадзтва не чакае ад парлямэнцкіх выбараў істотных зьменаў у палітычнай сыстэме краіны, і выбарчая кампанія 2012 года ня ёсьць выключэньнем.**

Усёньняшняй сытуацыі, якую б стратэгію ўдзелу ў выбарчым працэсе незалежная супольнасьць ні абрала, імавернасьць дэмакратызацыі палітычнай сыстэмы ў выніку выбараў 2012 года застаецца вельмі нізкай. Праз асаблівасьці стану грамадзянскай супольнасьці пасьля шэрагу хваляў рэпрэсій 2010–2012 гг., кансалідаванасьці кіроўнай эліты і павелічэньня рэпрэсіўнасьці беларускай дзяржавы аналягу расійскай «Балотнай плошчы» чакаць на беларускім Бангалёры не даводзіцца. Аднак незалежнае грамадзтва можа выкарыстаць гэтую электаральную кампанію ў рамках доўгатэрміновай стратэгіі дэмакратызацыі Беларусі, унікаючы наўпростага супрацьстаяньня з аўтарытарнай машынай і імкнучыся выйсьці па-за сцэнары, распрацаваныя ў прэзыдэнцкай адміністрацыі.

Агульная сацыяльна-палітычная сытуацыя ў краіне напярэдадні парлямэнцкай кампаніі 2012 года не спрыяе ўдзелу ў выбарчым працэсе грамадзянскай супольнасьці, пазыцыі якой былі значна падарваныя рэпрэсіямі з боку беларускага кіраўніцтва цягам 2010–2012 гадоў.

Увосень 2011 года беларускае кіраўніцтва нанесла ўдар па праваабаронцах, ініцыяваўшы працэс супраць кіраўніка Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага, які быў асуджаны на 4,5 гады пазбаўленьня волі.

Адначасова ў кастрычніку 2011 года беларускім парлямэнтам былі замацаваны зьмены ў заканадаўстве, якія значна абмяжоўвалі магчымасьці грамадзтва для арганізацыі пратэставай актыўнасьці і пашырылі рэпрэсіўныя паўнамоцтвы беларускіх спэцслужбаў.

У дадатак нэгатыўным фонам, які робіць істотны ўплыў на дзейнасьць незалежнага грамадзтва, зьяўляецца і супрацьстаяньне беларускага кіраўніцтва з заходнімі краінамі, якое асабліва абвастрылася ў лютым – сакавіку 2012 года. Найлепшым адказам на абмежавальныя захады Эўразьвязу ў дачыненьні да беларускіх элітаў прэзыдэнцкая адміністрацыя палічыла ўзмацненьне перасьледу сваіх палітычных апанэнтаў і пагаршэньне ўмоваў існаваньня незалежных структур грамадзянскай супольнасьці ўнутры краіны.

Варта зазначыць, што, нягледзячы на парушэньне беларускімі ўладамі ўмоваў сацыяльнага кантракту ў 2011 годзе, калі ўзровень дабрабыту грамадзян абрынуўся амаль у два разы, сярод беларускага насельніцтва працягвае панаваць апалітычнасьць: толькі чвэрць грамадзян гатовая ўдзельнічаць у дэманстрацыях і мітынгах, 18,9% – у забастоўках. Нягледзячы на тое, што большасьць грамадзтва лічыць сябе выключаным з працэсу прыняцьця палітычных і сацыяльна-эканамічных рашэньняў у краіне, толькі 5,3% выказалі жаданьне актыўна ўдзельнічаць у палітычным жыцьці.

У сытуацыі агульнай апатыі ў беларускім грамадзтве і ўзмацненьня рэпрэсіўнасьці беларускай дзяржавы магчымасьці грамадзянскай супольнасьці, якая фактычна пазбаўленая каналаў уплыву на беларускае кіраўніцтва, напярэдадні парлямэнцкай кампаніі значна абмежаваныя. Як зазначае Ф. Шмітэр, грамадзянская супольнасьць сама па сабе ня можа спарадзіць дэмакратыю і павінная ўзаемадзейнічаць зь іншымі інстытутамі, працэсамі і матывацыямі. Пры гэтым у сёньняшняй сыстэме разьмеркаваньня ўлады беларускі парлямэнт не зьяўляецца тым дзяржаўным інстытутам, зь якім могуць зьвязвацца надзеі беларусаў на зьмену як палітычнай, так і сацыяльна-эканамічнай сыстэмы краіны.

Да неспрыяльных вонкавых фактараў дадаюцца і супярэчнасьці паміж рознымі суб'ектамі незалежнага грамадзтва, якія традыцыйна паказваюць невысокую здольнасьць да кампрамісаў і часта перасьледуюць у першую чаргу свае карпаратыўныя інтарэсы. Для значнай колькасьці структур грамадзянскай супольнасьці гэтая парлямэнцкая кампанія пройдзе амаль незаўважнай, аднак част-




**Разьвіты і прафэсійны рэпрэсіўны апарат здольны падавіць любы супраціў і пратэставую актыўнасьць грамадзтва**

ка арганізацый, у першую чаргу палітычныя партыі, палітызаваныя аб'яднаньні і праваабарончыя цэнтры, будзе традыцыйна ўдзельнічаць у назіраньні за выбарчым працэсам. Пры гэтым дастаткова сумнеўна, што будзе арганізаванае шырокамаштабнае назіраньне, здольнае ахапіць усе выбарчыя ўчасткі ў краіне. Па-першае, у цяперашніх структур грамадзянскай супольнасьці адсутнічаюць адпаведныя рэсурсы для поўнага кантролю над выбарчым працэсам. Па-другое, у грамадзтве адсутнічае надзея, што назіраньне здольнае паўплываць на паляпшэньне сытуацыі з празрыстасьцю і сумленнасьцю выбарчага працэсу.

Варта зазначыць, што назіраньне і агучваньне альтэрнатыўных лічбаў выбараў выкарыстоўваецца ў сцэнары «каляровых рэвалюцый» для мабілізацыі пратэставай актыўнасьці грамадзтва, што мае абараніць сапраўдны выбар народу. Гэтая парадыгма дэмакратызацыі беларускай палітычнай сыстэмы застаецца дагэтуль папулярнай сярод большасьці апанэнтаў дзейнага кіраўніцтва і незалежнага грамадзтва, нягледзячы на шэраг паразаў падчас мінулых электаральных кампаній. Акрамя таго, падзеі на Чыстых Прудах і Балотнай плошчы ў Маскве пасьля парлямэнцкіх выбараў 2011 года ў Расіі даюць надзею асобным грамадзкім актывістам і палітыкам на рэалізацыю падобнага сцэнару ў Беларусі, калі ў расійскай грамадзянскай супольнасьці з дапамогай масавых акцый пратэсту супраць фальсыфікацый атрымалася дамагчыся асобных саступак з боку кіроўных эліт. Аднак у беларускай сытуацыі сцэнар «ашаламляльных выбараў», няхай і ва ўрэзаным расійскім варыянце пасьлявыбарчых зімовых пратэстаў 2011–2012 года, слаба рэалізавальны ў сувязі з шэрагам чыньнікаў.

1. Для беларускай кіроўнай эліты характэрная высокая кансалідаванасьць і адсутнасьць выразных прыкмет расколу, што ўзмацняе рэпрэсіўныя магчымасьці дзяржаўнай машыны. У дадатак, нягледзячы на існаваньне сярод беларускіх эліт розных груповак, рэжым мае яскравы пэрсаналісцкі характар. Цэнтар прыняцьця ўсіх рашэньняў знаходзіцца ў прэзыдэнцкай адміністрацыі і непасрэдна ў руках А. Лукашэнкі, які схільны да сілавога вырашэньня ўсіх праблем. Любая саступка грамадзтву і палітычным апанэнтам успрымаецца дзейным кіраўніком дзяржавы як праява слабасьці, якая нясе патэнцыйную пагрозу стабільнасьці ўсёй палітычнай сыстэмы прэзыдэнта.

2. Разьвіты і прафэсійны рэпрэсіўны апарат здольны падавіць любы супраціў і пратэставую актыўнасьць грамадзтва, што асабліва яскрава было прадэманстравана беларускімі ўладамі 19 сьнежня 2010 года і падчас летніх «маўклівых» пратэстаў 2011 г. У краіне існуе шэраг спэцслужбаў і сілавых структур, якія забясьпечваюць кантроль кіраўніцтва над палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сытуацыяй: МУС, КДБ, Сьледчы камітэт, Служба бясьпекі прэзыдэнта, апэратыўна-аналітычны цэнтар пры прэзыдэнце і інш. Напрыклад, толькі на дзейнасьць Службы бясьпекі прэзыдэнта выдаткоўваецца фінансавых сродкаў зь дзяржаўнага бюджэту ў 1,34 разу болей, чым беларускаму парлямэнту: Br86,8 млрд супраць Br64,5 млрд.

3. Палітычныя правы маюць невысокі рэйтынг у герархіі каштоўнасьцяў беларускага грамадзтва: толькі 20,7% грамадзян больш за ўсё хвалюе парушэньне палітычных правоў, у тым ліку магчымасьць абіраць і быць абраным у органы ўлады. Нават у выпадку масавых фальсыфікацый парлямэнцкіх выбараў для большасьці прадстаўнікоў беларускага грамадзтва абарона свайго выбару не ўваходзіць у лік прыярытэтаў. Колькасьць зацікаўленых сваім дабрабытам значна перавышае колькасьць тых, хто прагне палітычных свабодаў: 29,1% грамадзян перадусім заклапочаныя парушэньнем сацыяльна-эканамічных правоў. Пры гэтым

варта зазначыць, што ў выпадку пагаршэньня ўзроўню дабрабыту насельніцтва падчас выбарчай кампаніі імавернасьць зьяўленьня крытычнай масы «незадаволеных», якая можа аб'яднаць «палітычных» і «сацыяльных» пратэстоўцаў, значна павялічваецца.

4. Інстытут прадстаўнічай улады грае нязначную ролю ў беларускім грамадстве, у якім цэнтар прыняцьця ўсіх рашэньняў сканцэнтраваны ў прэзыдэнцкай адміністрацыі. Варта зазначыць, што істотная колькасьць актаў нарматыўна-прававой базы ў Беларусі створаная прэзыдэнтам краіны, а Нацыянальны цэнтар заканадаўства і прававых дасьледаваньняў, які распрацоўвае праекты законаў для беларускага парлямэнту, непасрэдна падпарадкоўваецца прэзыдэнцкай адміністрацыі. Адпаведна, выбары ў гэты орган не выклікаюць мабілізацыйных высілкаў з боку як апанэнтаў беларускага кіраўніцтва, так і болей шырока – грамадзянскай супольнасьці.

5. Раздробленасьць прадэмакратычных сілаў і адсутнасьць адзінай стратэгіі будучай кампаніі сярод незалежных структураў грамадзянскай супольнасьці адмоўна ўплывае на ўзровень даверу да іх сярод прыхільнікаў пераменаў. У сытуацыі адсутнасьці адзінай стратэгіі найбольшы электаральны рэйтынг сярод беларускіх альтэрнатыўных палітыкаў складае 6-7%, а супольная падтрымка апазыцыйных партый знаходзіцца на ўзроўні 17%, у той час як болей за палову грамадства хацела б бачыць зьмены ў палітычным і сацыяльна-эканамічным жыцьці краіны. Суперніцтва розных палітычных цэнтраў за лідэрства ў прадэмакратычным асяродку вядзе да драбленьня кампаніі па назіраньні, нягледзячы на аднолькавыя мэты розных суб'ектаў, якія плянуюць арганізаваць гэты працэс.

Прадстаўнікі 11 палітычных партый, грамадзкіх аб'яднаньняў і грамадзянскіх ініцыятываў у лютым гэтага года дамовіліся аб правядзеньні палітычнай кампаніі «За справядлівыя выбары 2012», якая паказала дастаткова высокую эфэктыўнасьць падчас мінулых прэзыдэнцкіх выбараў. Актывісты кампаніі ставяць мэтай вылучэньне каля 1500 прадстаўнікоў ва ўчастковыя выбарчыя камісіі і каля 3000 назіральнікаў на выбарчыя ўчасткі, імкнучыся пракантраляваць 1500 участкаў. Варта зазначыць, што падчас мінулых парлямэнцкіх выбараў 2008 года ў краіне было створана 6485 участковых выбарчых камісій. Такім чынам, актывісты плянуюць ахапіць каля 25% выбарчых участкаў.

У сваю чаргу, аналягічную задачу ставіць перад сабой іншы цэнтар палітычнага назіраньня, які створаны прадстаўнікамі Беларускай партыі «Зялёныя», Партыі БНФ і Руху «За Свабоду». Як і папярэдняя ініцыятыва, кампанія «Народны кантроль – за сумленныя выбары» імкнецца трапіць у выбарчыя камісіі, у тым ліку ў Цэнтарвыбаркам і ў назіральнікі на 25-30% акругаў. Для гэтай ініцыятывы прыярытэтнымі ёсьць акругі, дзе вылучаюцца прадэмакратычныя кандыдаты.

Перавагамі вышэйадзначаных ініцыятываў зьяўляецца тое, што суб'екты гэтых дзьвюх кампаній – зарэгістраваныя агульнанацыянальныя арганізацыі, якія могуць самастойна вылучаць прэтэндэнтаў на ўдзел у камісіях і назіральнікамі па ўсёй Беларусі.

Яшчэ адна ініцыятыва, якую натхніла кампанія расійскай «Лігі выбарцаў», аб'яднала прыхільнікаў байкоту парлямэнцкіх выбараў 2012 года. Аднак грамадзянская ініцыятыва "Відавочцы" ня мае за сабой афіцыйна зарэгістраваных структур і спадзяецца выключна на самаарганізацыю прыхільнікаў байкоту, якіх, аднак, ня так і шмат у беларускім грамадстве: на пачатак года станоўча паставіліся да ідэі байкоту парлямэнцкіх выбараў 2012 года толькі 10,6% грамадзян.

Акрамя вышэйзгаданых палітычных ініцыятываў плянуецца арганізацыя непартыйнага назіраньня ў рамках кампаніі «Праваабаронцы – за вольныя выбары», якая зьяўляецца сумеснай ініцыятывай Праваабарончага цэнтру «Вясна» і Рэспубліканскага праваабарончага грамадзкага аб'яднаньня «Беларускі Хэльсынскі камітэт». Ініцыятыва ня ставіць мэтай арганізацыю масавага назіраньня, якое магло б супрацьстаяць фальсыфікацыям на выбарчых участках, а канцэнтруецца ў першую чаргу на доўгатэрміновым назіраньні для агульнай ацэнкі ўсіх этапаў выбарчай кампаніі. Праваабаронцы пазыцыянуюць сваю ініцыятыву як незалежнае назіраньне грамадзянскай супольнасьці. Для гэтых мэтаў яны плянуюць задзейнічаць каля 80 доўгатэрміновых назіральнікаў і кароткатэрміновых на 300 выбарчых участках па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Пры гэтым, калі раней незалежныя назіральнікі арыентаваліся на замежную аўдыторыю, ва ўмовах пахаладаньня беларуска-эўрапейскіх дачыненьняў яны ставяць адной з галоўных задач распаўсюд вынікаў маніторынгу выбарчага працэсу ў 2012 годзе ў беларускім грамадзтве. Такім чынам у адрозьненьне ад палітычнага назіраньня, пра якое на пачатак красавіка 2012 года ўжо заявілі тры цэнтры, праваабаронцы маюць кансалідаваную пазыцыю, якая надае ёй большую вагу сярод іншых ініцыятываў.

Пры гэтым павелічэньню даверу да структур незалежнай грамадзянскай супольнасьці ў беларускім грамадстве і, адпаведна, іх ініцыятываў шкодзіць адсутнасьць ці невысокая значнасьць сярод іх прадстаўнікоў наступных падставовых нормаў, якія Ф. Шмітэр акрэсьлівае як вызначальныя для ўзьнікненьня даверу:

- клясавая, сэктаральная, прафэсійная або групавая сьвядомасьць;

- гатоўнасьць удзельнічаць у калектыўных акцыях;

- «маральнасьць» або самаабмежаваньне ў перасьледзе групавых інтарэсаў;

- задавальненьне ад узаемадзеяньня з роўнымі, то бок сацыяльнасьць;

- давер да групавога кіраўніцтва і роўных;

- пэўная доля «альтруістычнасьці» («other-regardingness») у стаўленьні да грамадзтва ў цэлым;

- схільнасьць прымаць групавую дысцыпліну;

- гатоўнасьць адмовіцца ад асабістай перавагі, або супраціў кліенталісцкім спакусам;

- адчуваньне ўласнай сілы;

- валоданьне дастатковымі арганізацыйнымі навыкамі.

Існаваньне напярэдадні парлямэнцкай кампаніі трох цэнтраў палітычнага назіраньня, якія ставяць амаль аднолькавыя мэты, зьяўляецца сьведчаньнем адсутнасьці даверу нават паміж прадстаўнікамі незалежных структур беларускага грамадзтва, што, безумоўна, уплывае і на давер з боку насельніцтва да іх ініцыятываў, у тым ліку і па назіраньні.

У сваю чаргу, беларускімі ўладамі будзе задзейнічаны шэраг мэханізмаў дзеля зьмяншэньня даверу да незалежнага назіраньня і/або дзеля супрацьдзеяньня актыўнасьці грамадзянскай супольнасьці па павелічэньні празрыстасьці выбарчага працэсу.

Па-першае, прэзыдэнцкая адміністрацыя будзе імкнуцца перашкодзіць стварэньню і рэалізацыі адзінай стратэгіі ўдзелу ў выбарах прадэмакратычнымі арганізацыямі і/або падпарадкаваць стратэгіі незалежных структур сваім мэтам. Напрыклад, сярод асноўных патрабаваньняў для ўдзелу ў выбарах палітычныя партыі вылучалі вызваленьне палітычных зьняволеных, а таксама зьмены ў выбарчае заканадаўства і практыку правядзеньня выбарчых кампаній. Беларускае кіраўніцтва мае магчымасьць маніпуляваньня рашэньнямі партый і грамадзкіх арганізацый, часткова выконваючы патрабаваньні, якія не ўплываюць на ход выбарчага працэсу.

Па-другое, улады будуць актыўна выкарыстоўваць квазінедзяржаўныя арганізацыя для правядзеньня «незалежнага» назіраньня, а таксама запросяць місію назіральнікаў ад краін СНД, у якіх праблемы з празрыстасьцю выбарчага працэсу ня меншыя, чым у беларусаў. Для ўладаў зрабілася ўстойлівай практыкай выкарыстоўваць у якасьці назіральнікаў прадстаўнікоў GoNGO, такіх як РГА «Белая Русь», БРСМ, Беларускае грамадзкае аб'яднаньне вэтэранаў, афіцыйныя прафсаюзы і жаночыя арганізацыі. Напрыклад, болей за 4 тыс. чальцоў РГА «Белая Русь» і 5,6 тыс. сябраў БРСМ ажыцьцяўлялі назіраньне за парлямэнцкімі выбарамі 2008 года, што ў разы перавышае магчымасьці незалежнага грамадзтва.

Па-трэцяе, сіламі GoNGO і прадзяржаўных дасьледчых цэнтраў, такіх як ECOOM, можа быць арганізаванае правядзеньне экзыт-полаў і апытаньняў, якія засьведчаць падтрымку агучаных ЦВК вынікаў выбараў і афіцыйнай пазыцыі што да выбарчага працэсу.

Па-чацьвертае, улады могуць узмацніць ціск на праваабарончыя арганізацыі і назіральнікаў ад незалежных структураў грамадзянскай супольнасьці, каб перашкодзіць іх працы, з адначасовым павелічэньнем прапагандысцкай кампаніі ў дзяржаўных СМІ і ціскам на незалежныя СМІ.

У адрозьненьне ад сваіх расійскіх калегаў, якія дастаткова гнутка адрэагавалі на пратэставую актыўнасьць пасьля парлямэнцкіх выбараў 2011 года, беларускае кіраўніцтва ня здольнае дзейнічаць тонка і ісьці хоць на нейкія саступкі пад ціскам грамадзтва. Прэзыдэнцкая адміністрацыя разглядае нават дэкаратыўную лібэралізацыю



**Інстытут прадстаўнічай улады грае нязначную ролю ў беларускім грамадзтве**

як пагрозу стабільнасьці свайго становішча і выбірае няскладаныя мэханізмы падаўленьня пратэставай актыўнасьці, у першую чаргу з дапамогай сілавых органаў. Гэтая схема адносінаў зь незалежным грамадзтвам пацьвердзіла сваю эфэктыўнасьць падчас усіх гадоў кіраваньня дзейнага прэзыдэнта, які ня бачыць унутраных прычын для яе зьмены падчас восеньскіх парлямэнцкіх выбараў.

Аднак значнасьць кампаніі грамадзкага кантролю над выбарчым працэсам павялічваецца ў выпадку, калі яна будзе ўбудаваная ў шырэйшую стратэгію грамадзянскай супольнасьці і палітычнай апазыцыі па дэмакратызацыі Беларусі, што прадугледжвае пабудову даверу як паміж незалежнымі структурамі грамадзянскай супольнасьці, так і больш шырока – павелічэньне даверу грамадзтва да незалежных НДА і палітычных партый. ■







Знайдзі нас на Facebook facebook




444 людзей упадабала Асамблея НДА


Андрей

Julia

Андрэй

Валерий

Вож

Віктар

Ольга

Юрась

Aliaksei

Paulyuk

віталь

Alaksiej

Aleś

Aliaksandr

Aliaksei

Alina

Andrej

Artur


Chryscina

Dzianis


Сацыяльны плагін Facebook

# Як злавіць у сацыяльныя сеткі прыхільнікаў

Сацыяльныя сеткі ўзьніклі, калі людзі пачалі зьнікаць з соцыюму, то бок больш працаваць і менш сустракацца адно з адным. Яны больш засяродзіліся на сабе. І модна (ці неабходна) стала быць «сынглам». Дый адказнасьці менш. Сустрэчы зь сябрамі замянілі на віртуальныя захапляльныя падарожжы па новым цудзе і забаўцы — інтэрнэце, які, як выявілася, і працу можа даць, і дапамагчы ў ёй. Разам з тым, засталася патрэба ў зносінах паміж людзьмі, жывых стасунках, і тут на дапамогу прыйшлі сацыяльныя сеткі. Бо калі ёсьць попыт – будзе і прапанова. Сядзі дома, размаўляй, пішы, глядзі відэа і фота аднаклясьнікаў ды лайкай. Цяпер мільённыя аўдыторыі твітэраў, «кантакцікаў» і «Ц» ужо не абмінуць, калі хочаш прасунуць свае ідэі, знайсьці паплечнікаў, каб разам дзейнічаць і дасягаць мэтаў.

Варта заўважыць, што многія НДА пакуль не карыстаюцца гэтым важным інструмэнтам: маючы акаўнты ў Facebook і ў Twitter, абмяжоўваюцца спасылкамі на сайты, не даючы ні слова, ні паўслова. Людзі, якія стала карыстаюцца сеткамі, прагнуць нейкіх чалавечых зносінаў, таму варта было б да сухой спасылкі дадаць хоць нейкі сказ ці некалькі словаў, такіх, каб можна было заахвоціць карыстальніка клікнуць па спасылцы і пачытаць хоць загаловак. У такіх «спасылачных» акаўнтах адсутнічае наўпростая зваротная сувязь. Ды і адкуль ёй быць, наўрад ці некаму хочацца пісаць камэнт пад спасылкай.

Адна рэч завесьці акаўнт, іншая — забясьпечыць яго напаўняльнасьць, прычым цікавым і карысным кантэнтам. Пагартаўшы некаторыя старонкі сетак нашых грамадзкіх актывістаў, можна заўважыць, што «працуюць» яны ў сацыяльных мэдыях па вузкай спэцыялізацыі і посьцяць і перадрукоўваюць тое, што датычыць толькі іх дзейнасьці. Здаецца, мож-

на было б усё-такі разбавіць наш «жах і трэш» нейкімі чалавечымі падрабязнасьцямі — са свайго жыцьця, каб было адчуваньне, што ты ў сябрах у жывога чалавека, які давярае табе, а не ў сябра нейкага аб'яднаньня. Гэта азначае, што, давяраючы іншаму, хай незнаёмаму чалавеку, пускаючы яго заглянуць у свой сьвет, ты можаш разьлічваць на адказ, на тое, што атрымаеш давер да сябе ці да сваёй арганізацыі. Будзеш шчырым – і людзі з таго боку манітора абавязкова гэта адчуюць. Будзеш сьвята верыць у сваю ідэю, ня штучна хварэць за яе - абавязкова знойдзецца той, хто падзеліць твае погляды.

Папулярызацыя дзейнасьці арганізацыі праз сацыяльная сеткі – сучасны, дзейсны і ў нашых рэаліях неабходны сродак. Але, як і ўсюды, варта ўлічваць важны фактар – канкурэнцыю. У нашым выпадку гэта канкурэнцыя інфармацыі. Безумоўна, вы хочаце, каб вас чытала як мага болей людзей, таму багата «фрэндзіце». Напрыклад, у вас ужо 200 сяброў у Фэйсбуку, сярод якіх і журналісты, і ўсе тыя, на каго вы арыентуецеся ў сваіх допісах. Калі нават траціна «фрэндаў» – актыўныя блогеры, то заўважце, зь якой хуткасьцю рухаецца стужка навінаў і як часта зьмяняецца інфармацыя! Чалавек проста ня ў стане заўважыць, зьмясьціць у сабе і запомніць усё тое, што ён бачыць на стужцы. Да таго ж, ён ужо прагледзеў некалькі любімых сайтаў, ён стаміўся атрымліваць інфармацыю. І ягоны мозг прапускае праз фільтар толькі самае цікавае ці тое, што датычыць асабіста яго.




Таму высновы відавочныя: вашае паведамленьне ў блогу павіннае быць яркім. Найбольш просты спосаб зрабіць яго такім – паставіць добры фотаздымак. Сучасны чалавек у першую чаргу зьвяртае ўвагу на ілюстрацыю альбо нават толькі на яе. Безумоўна, здымак варта падбіраць тэматычны.

Калі малюнак зацікавіць чытача, ён перавядзе позірк на тэкст. І ўбачыць толькі яго пачатак, таму ўжо зь першага сказу трэба напісаць галоўнае, прэзэнтаваць сваю навіну. А што такое навіна, таксама згадаць ня лішне: гэта тое, што адбылося ўпершыню або закранае вялікую частку грамадзтва. Галоўнае, навіна - гэта тое, што цікава.

А цяпер улічым тое, што такіх блогаў, як ваш – мноства. Як дасягнуць таго, каб ён выдзяляўся, зрабіўся папулярным? Вялікая колькасьць сяброў зусім не гаворыць пра папулярнасьць, кожны выдатна разумее, што сьпіс «фрэндаў» можна проста накруціць. Сьведчаньнем жа папулярнасьці можа быць колькасьць «лайкаў», камэнтароў, пераходаў на ваш сайт з сацыяльнай сеткі.

Але зноў-такі, улічваем тое, што вы – арганізацыя, да таго ж, магчыма, вузкаспэцыялізаваная. Людзі заходзяць на сацыяльны сеткі, каб расслабіцца падчас працоўнага дня альбо пасьля яго, а тут вы «грузіце». Чалавек хоча пачытаць, а лепей пабачыць ролікі ці цікавыя фота з жывёламі, жартамі, прыгожымі дзяўчатамі. Такім пастам яны будуць ставіць «лайкі», а ня вашым.

Таму не чакайце, што навіны пра дзейнасьць арганізацыі адразу стануць папулярнымі сярод вашых сяброў. Варта быць прасьцейшымі, быць такімі, як і вашыя чытачы, размаўляць на адной мове. Таму акрамя сваіх навінаў пасьціце проста тое, што цікава вам. Ролікі, здымкі, анэкдоты. Прапаноўвайце папулярныя тэмы для абмеркаваньняў, прасіце дапамогі ў тым, каб нешта недзе знайсьці ці даведацца. Насамрэч людзі прагнуць дапамагаць іншым, гэта прыемна для ўласнага гонару, гэта дадае значнасьці ва ўласных вачах, не саромцеся прасіць. І паверце, калі людзі прывыкнуць да таго, што вы пішаце нешта цікавае для іх, яны аўтаматычна будуць цікавіцца і чытаць ужо ня толькі вашыя забаўляльныя, але і сур'ёзныя пасты – пра дзейнасьць арганізацыі.

Яшчэ адзін важны момант. Як мага болей камэнтуйце іншых, асабліва папулярных, блогераў. На іх допісы давайце сваё меркаваньне, падавайце яго так, каб яно было цікава іншым – неардынарна, абгрунтавана. А ня проста «мне таксама падабаецца» альбо нешта кшталту «+100». І тады вас заўважаць у камэнтарах іншых блогераў, зацікавяцца, зойдуць на старонку, «зафрэндзяць».

Важная і рэакцыя на падзеі. Калі вашая арганізацыя займаецца абаронай правоў вязьняў, а ў тытульных мэдыях прайшла інфармацыя пра катаваньні ў нейкай турме, то натуральна, што вы тут жа адрэагуеце на гэтае паведамленьне. Хутчэй і апэратыўней, чым праз сацыяльныя сеткі, гэтага, здаецца, ня зробіш. І вялікая імавернасьць, што журналісты, якія ў вас у сябрах, таксама чакаюць вашага камэнтару. А калі вы не рэагуеце, гэта можа нават падацца дзіўным.

Думаецца, сур'ёзная памылка некаторых арганізацый у тым, што яны разьлічваюць толькі на сацыяльныя сеткі. Варта ўлічваць, што многія прынцыпова не заводзяць старонку ў «Кантакце» ці Фэйсбуку, у кожнага свае густы. Таму да некага вы можаце проста не данесьці інфармацыю. Важна мець уласны сайт і празь яго апэратыўна інфармаваць пра вашыя навіны. ■

**Сьвятлана Пятроўская**

Пятро Кузьняцоў



# Стратэгічная патрэба ў “стратэгічнай думцы”

**Ужо даўно ні для кога не сакрэт, што адным з найбольш слабых месцаў беларускіх грамадзкіх ды палітычных (дэмакратычных) арганізацый ёсьць несыстэмнасьць працы.**

Пра палітыкаў народ увогуле кажа: “Іх чуваць толькі падчас выбараў”. Наконт грамадзкага сэктару думкі ёсьць розныя: ад таго, што яго ўвогуле не існуе, да таго, што праца грамадзкіх актывістаў сёньня ёсьць хіба не адзіным рэальным дзеяньнем, якое набліжае Беларусь да пэўнай дэмакратызацыі, да зьмяненьня грамадзкае сьвядомасьці ў бок эўрапеізацыі, унівэрсальных чалавечых каштоўнасьцяў. Праўда, напэўна, дзесьці пасярэдзіне.

Як бы ні было, аднак праблема відавочная: і першае, і другое магло здарыцца толькі таму, што грамадзкія ды палітычныя сілы Беларусі пакуль што не дарасьлі да дзеяньняў настолькі пасьлядоўных ды ўзважаных, каб гэта цалкам адпавядала інтарэсам грамадзтва. Бо толькі цікавае ды карыснае выклікае ў людзей пэўную пазытыўную рэакцыю і прымушае іх адкладаць у памяці нейкія назвы арганізацыяў ды праектаў. Ці шмат просты грамадзянін успомніць незалежных НДА ці палітычных партыяў, калі яго спыніць на вуліцы? Баюся, што няшмат. Гэта і ёсьць галоўным індыкатарам ды вызначэньнем праблемы: нашая адсутнасьць у грамадзкай сьвядомасьці.



Да чаго гэта я?

Натуральна, не адкрыю Амэрыкі, калі скажу, што каб працаваць пасьлядоўна ды плённа, пакідаючы нешта ў жыцьці людзей, і, адпаведна, пашыраць свой грамадзкі ўплыў, найпершая справа, якую варта рабіць, – плянаваць сваю працу. Калі ты ня ведаеш дарогі, ты нават у краму па хлеб ня сходзіш, што ўжо тут казаць пра нейкі ўплыў на іншых людзей?

І большасьць грамадзкіх аб’яднаньняў ды ініцыятываў ужо даўно гэта зразумелі. Трэнд на стратэгічнае плянаваньне сваёй дзейнасьці ў трэцім сэктары прысутнічае. Але ці часта гэтыя пляны дастаткова рэлевантныя, каб сапраўды спрацоўваць? Ня ўпэўнены.

Стала знаходзячыся ды працуючы ў рэгіёне (Гомельская вобласьць), магу сьцьвярджаць, што падчас плянаваньня пэўных сваіх дзеяньняў ды захадаў пераважная большасьць грамадзкіх групаў кіруецца толькі агульным бачаньнем, накшталт: “Вось тут мы бачым праблему, і яе трэба неяк вырашаць. У нас дзеля гэтага ёсьць такія магчымасьці, і мы будзем іх выкарыстоўваць”. Гэта, на жаль, даволі вузкі падыход, бо нават тыя самыя магчымасьці можна значна пашыраць, калі глядзець на грамадзтва ня толькі як на суб’ект сваёй працы ды ўплыву, але і як на крыніцу рэсурсаў – найбольш моцную і сапраўды бязьмежную. Бо калі мы працуем дзеля разьвіцьця грамадзтва, то нічога дзіўнага ў тым, каб атрымліваць пэўную “зва-



ротную сувязь", у тым ліку ў выглядзе нейкага ўнёску ў агульную працу, з боку гэтага грамадзтва, няма.

На гэтым якраз і будуць палягаць сапраўдныя станоўчыя вынікі працы грамадзкага сэктару з тым самым грамадзтвам: калі яно возьме на сябе частку адказнасьці за рэалізацыю свайго ўласнага патэнцыялу і пачне актыўна ўдзельнічаць у агульным жыцьці ды кансалідаваных дзеяньнях. Чалавечы, часавы, інтэлектуальны, лягістычны – любыя рэсурсы могуць і павінныя ўкладацца простымі людзьмі ў грамадзкае жыцьцё. Гэта фактычна значыць, што павінныя прыходзіць новыя людзі, са сваімі ідэямі і магчымасьцямі. А гэта, у сваю чаргу, азначае, што мы павінныя быць для іх цікавымі і карыснымі.

Аднак каб гэтага дасягнуць, трэба добра разумець усю спэцыфіку жыцьця твайго рэгіёну, мясцовасьці, дзе ты жывеш і працуеш. Які тут сацыяльна-эканамічны стан людзей? Якія палітычныя погляды дамінуюць? Як працуюць усе жыцьцёва важныя галіны народнай гаспадаркі, якія ад іх у людзей чаканьні ды якія на іх спадзяваньні? Пытаньні можна задаваць бясконца, сутнасьць адна: каб падступіцца да звычайных людзей і быць імі запатрабаваным, варта вельмі добра ведаць, што гэтым людзям трэба.

Асэнсаваньне гэтай вельмі простай ісьціны прымушае шукаць шляхі яе рэалізацыі. Аднак тут мы сутыкаемся зь іншай праблемай. Беларусы жывуць ня толькі ў Менску. У Менску іх добра калі 2 мільёны. Але астатнія – гэта рэгіяналы, жыхары абласьцей, маленькіх гарадоў ды вёсак.

Ці шмат беларускіх экспэртных арганізацыяў, фабрыкаў думкі займаюцца паглыбленай распрацоўкай рэгіянальнай тэматыкі? Нешта ня згадваецца. А ці існуюць разьвітыя інтэлектуальныя цэнтры, якія б вывучалі рэгіянальнае жыцьцё ўсебакова, у саміх рэгіёнах? Таксама, здаецца, нягуста...

Усё гэта стала нагодаю ды матывацыяй для стварэньня гомельскае экспэртнае ўстановы "Стратэгічная думка". Ініцыятарам яе стварэньня выступіла грамадзкая ініцыятыва "Гомельскі дэмакратычны форум". Гэтая арганізацыя стала працуе ў рэгіёне ў галіне разьвіцьця грамадзкай актыўнасьці людзей, узмацненьня патэнцыялу трэцяга сэктару, актывізацыі асьветы грамадзянаў. Менавіта такая праца, калі яе праводзіць кожны дзень, падштурхоўвае да апісаных высноваў: немагчыма размаўляць з людзьмі зразумелаю ім моваю, ня маючы дакладнай інфармацыі пра асноўныя аспэкты іх жыцьця.

Стварэньне рэгіянальнае экспэртнае суполкі, як высьветлілася, – працэс ня толькі неабходны, але і звышскладаны. Амаль два гады, з восені 2008 і да вясны 2010, спатрэбілася толькі на тое, каб знайсьці і зацікавіць інтэлектуалаў патрэбнага ўзроўню. Натуральна, гэтаму ёсьць свае тлумачэньні. Цэнтрам грамадзкага жыцьця па-ранейшаму застаецца Менск. Там гуртуецца і большасьць арганізацыяў ды ініцыятываў, там ёсьць і попыт, і прапанова на такія паслугі.

За два гады атрымалася знайсьці ды заахвоціць да экспэртнай працы больш за дзесяць спэцыялістаў з розных галінаў: палітыка, грамадзтва, рэгіянальная эканоміка, макраэканоміка, культура, інфармацыйныя тэхналёгіі ды інш. У 2010 годзе арганізацыя нарэшце пачала сваю працу. Пер-

шым і галоўным праектам на сёньняшні дзень зьяўляецца экспэртны рэгіянальны партал GOMEL-EXPERTS.ORG.

Дыскутуючы наконт кірункаў сваёй працы, экспэрты "Стратэгічнае думкі" прыйшлі да высновы, што, для пачатковай арганізацыі патрэбны пэўны чыньнік, які дазволіць структураваць працу. Так зьявілася ідэя парталу.

Экспэрты арганізацыі стала манітораць падзеі ў Гомельскім рэгіёне, асноўныя тэндэнцыі, аналізуюць іх ды выкладаюць у выглядзе артыкулаў на сваім сайце. Такім чынам, экспэртны прадукт робіцца даступным ня толькі для вузкага кола зацікаўленых НДА, якія ўжо ёсьць сталымі кліентамі ўстановы, але і для ўсіх зацікаўленых асобаў ці групаў. Так ня толькі задавальняецца попыт на нейкі экспэртны прадукт у рэгіёне, а і стымулюецца гэты попыт, бо адкрытасьць дае магчымасьць сапраўды зацікаўленым дэталямі ці падрабязнасьцямі тых ці іншых зьяваў азнаёміцца з вынікамі працы "Стратэгічнае думкі".

Пэрыядычна выкладзеныя дадзеныя абагульняюцца, і на гэтым матэрыяле выдаецца друкаваны бюлетэнь, які распаўсюджваецца сярод арганізацыяў – кліентаў Установы. Менавіта гэты бюлетэнь і можа быць найбольш карысным прадуктам як для НДА, так і для ўладаў, бо менавіта тут сканцэнтраваныя асноўныя вынікі аналізу рэгіянальнага жыцьця.

Так, на сёньняшні дзень арганізатары праекту прызнаюць наяўнасьць шмат якіх праблемаў. Першая і галоўная – недастатковы ўзровень кадравага патэнцыялу. Экспэртамі, як вядома, не нараджаюцца, імі робяцца. Нейкі спэцыяліст можа ўсё жыцьцё выкладаць пэўную тэму ў ВНУ, але не паглыбляцца ў яе і не глядзець на яе вачыма грамадзкага актывіста: што з гэтай інфармацыі можа быць карысным для рэалізацыі грамадзкага патэнцыялу? Каб з вузкага спэцыяліста атрымаўся кваліфікаваны экспэрт, неабходны час, практыка і попыт.

З гэтым, дарэчы, зьвязаны нават стэрэатып, які існуе ў пэўнай частцы трэцяга сэктару – аб тым, што экспэрты могуць быць толькі ў Менску. У "Стратэгічнай думцы" мяркуюць інакш. Тут кажуць пра тое, што ў Менску шмат гадоў хапае попыту, рэсурсаў ды стымулаў для разьвіцьця інтэлектуальных супольнасьцяў, умовы спрыяюць таму, каб кваліфікаваныя кадры эвалюцыянавалі ў экспэртныя рэсурсы. Нічога гэтага ў рэгіёнах пакуль няма, таму, калі шчыра, дагэтуль не назіралася і паўнавартаснага разьвіцьця кірунку. Але цяпер сытуацыя кардынальна мяняецца.

Можам канстатаваць, што працэсы выхаваньня сваіх экспэртных кадраў, скіраваных на працу з рэгіянальнай тэматыкай, у "Стратэгічнай думцы" ідуць вельмі імкліва. Адначасова ёсьць падставы меркаваць, што хутка нешта падобнае будзе назірацца і ў іншых рэгіёнах. Бо (і на гэты конт няма ніякіх сумневаў) попыт абавязкова народзіць прапанову.

Сёньня экспэртамі "Стратэгічнае думкі" зьяўляюцца сталыя выкладчыкі ВНУ, супрацоўнікі недзяржаўных арганізацыяў ды дзяржаўных установаў, дзейныя грамадзкія актывісты ды дзеячы. Першы вынік працы – больш за 70 рэгіянальных аналітычных публікацыяў на партале – ня мае аналягаў у сучаснай Беларусі. Ёсьць шмат пазытыўных водгукаў што да рэалізаванай працы. Некаторыя НДА зрабіліся сталымі кліентамі Ўстановы, і нават ад некаторых палітычных партыяў атрыманыя зьвесткі, што пэўныя матэрыялы выкарыстоўваюцца для апэратыўнага плянаваньня.

І гэта толькі пачатак, які ўжо сьведчыць пра тое, што высілкі актывістаў "Гомельскага дэмакратычнага форуму", якія ініцыявалі стварэньне Ўстановы, не былі дарэмнымі.



У найбліжэйшых плянах "Стратэгічнае думкі" – працягваць працу па разьвіцьці кадравага патэнцыялу ды пашырэньні кола экспэртаў і тэмаў; разьвіваць свой партал як адзіны цалкам адкрыты рэгіянальны інтэлектуальны цэнтар; наладзіць працу па пэрманэнтным кансультаваньні мясцовых НДА ды аддзяленьняў палітычных партыяў, а таксама, пры наяўнасьці попыту, нават дзяржорганаў; правесьці шэраг круглых сталоў зь мясцовымі НДА па праблемах разьвіцьця грамадзкага сэктару.

Ва ўстанове "Стратэгічная думка" лічаць, што сёньняшняе грамадзтва ва ўмовах імклівага разьвіцьця сучасных тэхналёгіяў ды набліжэньня да крытэраў "грамадзтва спажываньня" робіцца ўсё больш складаным для аналізу, і простым актывістам ці грамадзянам будзе ўсё цяжэй даваць рады ўсім зьявам ды тэндэнцыям, для вывучэньня і аналізу якіх часам патрэбныя высілкі цэлых групаў падрыхтаваных спэцыялістаў.

Менавіта таму попыт грамадзтва на цэнтры інтэлектуальнай падтрымкі, на паслугі фабрыкаў думак будзе толькі павялічвацца. У трэцяга сэктару ў гэтым таксама ёсьць свая патрэба. Стратэгічная патрэба.

■

# Антыкрызісная мапа



*Працяг. Пачатак у папярэднім нумары*

Апошнім часам у інтэрнэце набіраюць папулярнасьць мапы як спосаб візуалізацыі кантэнту на сайце. Пададзеная ў такім выглядзе інфармацыя глядзіцца прывабна і наглядна.

У канцы кастрычніка 2011 года ў байнэце зьявіўся новы рэсурс, які працуе на плятформе Ўшахідзі. Сайт www.crisisby.net – гэта інтэрактыўная пляцоўка для народнага маніторынгу крызісных зьяваў у Беларусі

## Што можа Crisisby?

Атрымліваць паведамленьні і камэнтары ад грамадзянаў.

Дадаць паведамленьне можна, запоўніўшы форму на сайце, даслаўшы e-mail (crisisbynet@gmail.com) ці SMS (+37065279366) альбо твіт з хэштэгам #crisisby.

Паведамленьне зьявіцца на мапе і ў стужцы паведамленьняў адразу пасьля прэмадэрацыі.

Вэрыфікаваць інфармацыю. Калі паведамленьне ўтрымлівае спасылку на першакрыніцу, суправаджаецца фота ці відэа, а таксама калі карыстальнік пакіне свае кантакты, мадэратары сайта могуць пазначыць дадзеную інфармацыю як вэрыфікаваную, а карыстальнікі ўбачаць, якія паведамленьні былі правераныя, а якія не.

Сартаваць паведамленьні па катэгорыях. Больш за тое, пры жаданьні карыстальнікі могуць падпісацца на атрыманьне апавяшчэньняў пра зьяўленьне новых кропак у зададзеным імі радыюсе.

Зьбіраць крызісныя навіны зь беларускіх незалежных




інфармацыйных рэсурсаў (нацыянальных, рэгіянальных і лякальных) са спасылкай і наўпростым пераходам на першакрыніцу пры кліку на загаловак навіны.

Акрамя таго, мапу Crisisby можна разьмясьціць (embed) на любым сайце. Карыстальнікі сайта змогуць наўпрост дасылаць свае паведамленьні на Crisisby, але пры гэтым на віджэце будуць адлюстроўвацца ўсе кропкі, сабраныя праз сыстэму Crisisby. Гэта значыць, што мапа будзе аўтаматычна абнаўляцца і папаўняцца.

## Як далучыцца да Crisisby?

Crisisby.net – гэта грамадзкая ініцыятыва і адкрытая платформа. Далучыцца да яе стварэньня можна наступным чынам.

Рэгулярна дасылаць свае ўласныя паведамленні.

Паказаць Crisisby.net сваім сябрам і калегам ды мабілізаваць іх на актыўны ўдзел у яго напаўненні.

Узгадаць Crisisby.net і паставіць спасылку на сваім сайце ці блогу.

Стаць адным з мадэратараў Crisisby.net.

Размясціць мапу на сваім сайце. Калі вас зацікавіла гэта опцыя, напішыце стваральнікам рэсурса віджэт якога памеру вы бы хацелі атрымаць (мінімальны памер 300х315 пікселяў), і вам дашлюць код, які вам трэба будзе ўставіць на сваю вэб-старонку.

**Ірына Віданава**

■



# Альтэрнатыўная моладзевая плятформа: наводзім масты паміж моладзьдзю і НДА

http://gippsanglican.org.au/

Новыя магчымасьці ўзаемадзеяньня з мэтавымі аўдыторыямі, прасоўваньне сваіх праектаў і ідэй, пошук новых партнэраў і кантактаў прапануе недзяржаўным арганізацыям сайт “Альтэрнатыўная моладзевая плятформа”.

За няпоўныя два гады існаваньня навінавы сайт пра моладзевыя арганізацыі “Альтэрнатыўная моладзевая плятформа” www.ampby.org пасьпеў шмат: аб’яднаць вакол сябе каля 20 моладзевых НДА, сабраць сталае кола адданых чытачоў і стартануць у афлайн з конкурсамі, майстар-клясамі і паходамі ў госьці. Як «засьвяціцца» на адзіным рэсурсе пра моладзевыя арганізацыі Беларусі і які з гэтага профіт, чытайце далей.

**Background: ведаць сваіх герояў**

У Беларусі існуе шмат моладзевых арганізацый, якія займаюцца самай разнастайнай дзейнасьцю: ад гістарычнай рэканструкцыі і аналітычных дасьледаваньняў да спартовых мерапрыемстваў і барацьбы з гамафобіяй. Але выйдзіце на вуліцу, спытайце любога маладзёна, якія моладзевыя арганізацыі ён ведае. У адказ у найлепшым выпадку пачуеце “БРСМ” і “Малады Фронт”. Вялікая колькасьць арганізацый, што існуюць паміж гэтымі дзьвюма, большасьці моладзі невядомая.

Звычайна гэта адбываецца таму, што моладзевыя арганізацыі ня могуць падаць сваю дзейнасьць так, каб чалавек захацеў да іх далучыцца, ці проста ня маюць чалавечых і грашовых рэсурсаў, каб праводзіць якасную піяркампанію.

“Асабліва шкада, калі ты сустракаеш супэрскую арганізацыю, якая прапаноўвае ўнікальныя паслугі, міжнародныя абмены, цікавыя тусоўкі, навучаньне і разнастайныя магчымасьці, а людзі проста ня ведаюць пра гэта. Альбо бачыш чалавека, які ў 22 гады ў Беларусі ажыцьцяўляе ўласныя праекты, робячы жыцьцё вакол лепшым і цікавейшым, а пра гэта ведаюць толькі сябры з Фэйсбуку. Трэба ведаць сваіх герояў, натхняцца і рабіць яшчэ лепш!” – лічыць рэдактар www.ampby.org Кася. Менавіта так і зьявілася ідэя сайта – рэсурсу, які акумулюе інфармацыю пра моладзевую грамадзянскую актыўнасьць і зьбірае вакол сябе неабыякавых актыўных людзей.

**АМП – арганізацыям**

Місія сайта – папулярызацыя ідэі грамадзкай актыўнасьці моладзі, якая можа праяўляцца праз удзел у розных грамадзкіх арганізацыях. Каманда АМП аказвае моладзевым арганізацыям і ініцыятывам дапамогу ў прасоўваньні іх дзейнасьці. Акрамя разьмяшчэньня ў каталёгу на сайце публікуюцца навіны пра дзейнасьць арганізацыі, асьвятляюцца іх мерапрыемствы і праекты.

Журналісты www.ampby.org ахвотна сустрэнуцца з актывістамі вашай арганізацыі і раскажуць гісторыю посьпеху чытачам рэсурсу, падзеляцца з арганізацыяй досьведам працы ў сацыяльных сетках, раскажуць пра асаблівасьці вэб-журналістыкі тым, хто працуе ў інтэрнэце.




**Анлайн выходзіць у афлайн**

АМП ня толькі піша пра розныя моладзевыя дзвіжухі і тусічы, але і ладзіць іх самастойна. У канцы лета рэдакцыя сабрала заўзятараў летнікаў і валянтэрскіх праектаў у зачыненым ужо мінскім бары «Малако», каб выбраць і ўзнагародзіць тых, што правёў лета найбольш плённа.

Перад гэтым чытачы дасылалі на сайт свае гісторыі на тэму «Як я правёў лета», а АМП выбірала найлепшых. На мерапрыемстве аўтары атрымалі ня толькі матэрыяльныя прызы-сюрпрызы і віншаваньні ад беларускіх музычных гуртоў, але і інфу пра беларускія моладзевыя арганізацыі, якія завіталі на цырымонію ўзнагароджаньня. Прэзэнтацыі сваёй дзейнасьці зрабілі «Маладыя сацыял-дэмакраты – Маладая грамада», «Гісторыка», «Студэнцкая рада», «Экадом».

Альтэрнатыўная моладзевая плятформа ладзіла таксама майстар-клясы па валяньні з воўны «Наваляй усім!» Пакуль госьці і чытачы сайта майстравалі ваўняныя туліпанчыкі – сымбалі АМП, запрошаныя арганізацыі расказвалі пра сваю дзейнасьць і грандыёзныя пляны.

Самая сьвежая прапанова АМП – праект «Ідзем у госьці». Рэдакцыя зьбірае сваіх чытачоў і ўсіх ахвочых і ідзе знаёміцца зь якой-небудзь моладзевай арганізацыяй. Піянэрамі праекту сталі «Маладыя сацыял-дэмакраты – Маладая грамада», якія зладзілі зьмястоўна-забаўляльную майстэрню «Сацыял-дэмакратыя для чайнікаў». Стаць гасьцінным гаспадаром можа любая моладзевая арганізацыя. АМП з радасьцю возьме на сябе арганізацыйную мітусьню і прывядзе да вас людзей!

**Гід па магчымасьцях, ці Мараты Казеі ўжо ня коцяць**

Альтэрнатыўная моладзевая плятформа – гэта сапраўдны дапаможнік у пошуку магчымасьцяў. Адзін з цэнтральных разьдзелаў сайта – каталёг моладзевых арганізацый www.ampby.org/belmolorg. НДА тут разьмеркаваныя па «спэцыялізацыях»: экалягічныя, адукацыйныя, праваабарончыя і г.д. Інфармацыя па кожнай пэдантычна структураваная: што за ініцыятыва, што яна робіць і як зь ёй скантактавацца. Да каталёгу можа далучыцца любая арганізацыя, трэба толькі даслаць заяўку дарагой рэдакцыі на адрас press@ampby.org.

Акрамя таго, сайт зьбірае самую сьвежую інфармацыю па навучаньні ў Беларусі і Эўропе: пэрсанальны досьвед нашых студэнтаў за мяжой, актуальная інфармацыя па трэнінгах, сэмінарах і майстар-клясах, аналітычныя артыкулы і меркаваньні экспэртаў у галіне адукацыі. Тут можна знайсьці аднадумцаў і карысны адпачынак у адукацыйных і тэматычных летніках, валянтэрскіх праектах і праграмах абмену. Журналісты асьвятляюць гісторыі посьпеху маладых людзей, якія, нягледзячы ні на што, змаглі рэалізаваць свае творчыя задумы і стаць лідэрамі ў Беларусі.

«Існуе меркаваньне, што Беларусь – гэта такая чорная дзірка, дзе нічога не дабіцца і трэба зьяжджаць, а хто апошні – хай выключыць сьвятло ў аэрапорце. Гэта няправільна», -- упэўнены рэдактар сайта. Бо ёсьць людзі, якія і ў такіх умовах робяць шмат што. «На такіх людзей і трэба арыентавацца. Мараты Казеі з гранатай ужо ня коцяць, трэба натхняцца дзейнасьцю грамадзкіх актывістаў», – кажа Кася.

**Зроблена моладзьдзю для моладзі – расьцем разам!**

Рэдакцыя сайта – гэта каманда прадстаўнікоў моладзевых арганізацый і журналістаў (а часта па сумяшчальніцтве таксама «НДАшнікаў»), якія працуюць і думаюць у фармаце нон-стоп. АМП працуе для моладзі і грамадзкіх арганізацый без перапынку. Толькі не пішыце ім у прамежак з 4.20 да 7.10. У гэты час яны сьпяць. А сон, як вядома, гарантуе актыўную працу мозгу.

Рэдакцыя расьце і запрашае расьці разам зь ёй: АМП шукае журналістаў у рэгіёнах. Важна: жаданьне праяўляць сябе і разьвівацца, актыўная грамадзянская пазыцыя і ўменьне думаць, астатняму навучаць.

Паспрабаваць сябе ў якасьці аўтара можна на Фэсьце моладзевай журналістыкі «Твой стыль» www.3sektar.by/fest, які пройдзе ў канцы мая ў Горадні. АМП засноўвае там спэцыяльную намінацыю на тэму моладзевага лідэрства ў Беларусі. Чакаюцца артыкулы пра тых, каму не сядзіцца на месцы і хто прагне дзеяньня – карыснага, сьвядомага і эфэктыўнага. Шукаем разам рэцэпты беларускага моладзевага лідэрства і пазытыўныя прыклады пераменаў да лепшага.

**Далучайцеся да АМП**

Далучыцца да АМП лёгка – можна прыслаць заяўку на дадаваньне ў каталёг, можна дасылаць навіны пра дзейнасьць вашай арганізацыі, якія будуць публікавацца і прасоўвацца на сайце і ў сацыяльных сетках. Можна запрашаць у госьці і нават рабіцца сталымі рэгіянальнымі (і ня толькі) аўтарамі.

Каманда АМП перакананая ў энэргіі сваіх ідэй. Далучайцеся, і разам мы зможам усё!

Электронная скрыня: press@ampby.org.

АМП у сацыяльных сетках

Facebook: facebook.com/ampby.org

Вконтакте: vk.com/ampbyorg

Twitter: twitter.com/ampby ■

# Праца са зваротамі грамадзянаў і юрыдычных асобаў.



Вольга Смалянка

**Практычна ўсе арганізацыі грамадзянскай супольнасьці і грамадзянскія актывісты сутыкаюцца ў сваёй працы і грамадзкай дзейнасьці са зваротамі ў дзяржаўныя органы. Сёньняшняя рубрыка “Кансультацыя” часопіса прысьвечаная пытаньням працы са зваротамі грамадзянаў і юрыдычных асобаў. У тым ліку ў сьвятле новага Закону Рэспублікі Беларусь “Аб зваротах грамадзянаў і юрыдычных асобаў”, які ўступіў у сілу 22 студзеня 2012 года. Зьвяртаем увагу некамэрцыйных арганізацыяў на тое, што заканадаўства аб зваротах грамадзянаў, у тым ліку правілы разгляду зваротаў, распаўсюджваюцца таксама і на іх.**

**Якія нарматыўныя акты рэгулююць пытаньні падачы і разгляду зваротаў?**

Перадусім да такіх нарматыўных актаў адносяцца Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Яе артыкул 40 гарантуе права кожнага на накіраваньне асабістых або калектыўных зваротаў у дзяржаўныя органы. Пры гэтым усталёўваецца абавязак дзяржаўных органаў, а таксама службовых асобаў разгледзець зварот і даць адказ па сутнасьці ў вызначаны законам тэрмін. Адмова ад разгляду пададзенай заявы мусіць быць пісьмова матываваная. Таксама артыкул 37 Канстытуцыі замацоўвае права на ўдзел у кіраваньні справамі дзяржавы.

**Спэцыяльнымі нарматыўнымі актамі ў дадзенай галіне зьяўляюцца.**

Закон Рэспублікі Беларусь “Аб зваротах грамадзянаў і юрыдычных асобаў” ад 18 ліпеня 2011 года №300-З (уступіў у сілу 22 студзеня 2012 г.).

Указ прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь “Аб дадатковых мерах па працы са зваротамі грамадзянаў і юрыдычных асобаў” ад 15 кастрычніка 2007 г. № 498 (са зьмяненьнямі і дапаўненьнямі па стане на 22.03.2011 г.).

Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28 чэрвеня 2011 г. № 854 “Аб некаторых пытаньнях працы са зваротамі грамадзянаў і юрыдычных асобаў” (са зьмяненьнямі і дапаўненьнямі па стане на 30.12.2011 г.).

Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 сьнежня 2011 г. № 1786 “Аб зацьверджаньні Палажэньня аб парадку вядзеньня справаводзтва па зваротах грамадзянаў і юрыдычных асобаў у дзяржаўных органах, іншых арганізацыях, у індывідуальных прадпрымальнікаў”.

Адказнасьць за парушэньне заканадаўства аб зваротах грамадзянаў і юрыдычных асобаў, а таксама аб кнізе заўвагаў і прапановаў усталёўвае Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях (артыкул 9.13, артыкул 9.24).

Парадак працы са зваротамі грамадзянаў і юрыдычных асобаў рэглямэнтуецца і іншымі актамі заканадаўства.

**Якія віды зваротаў выдзяляе беларускае заканадаўства?**

Да зваротаў беларускае заканадаўства адносіць заявы, прапановы і скаргі. Пры гэтым пад прапановай разумеецца рэкамэндацыя па паляпшэньні дзейнасьці арганізацыяў, індывідуальных прадпрымальнікаў, удасканаленьні прававога рэгуляваньня стасункаў у дзяржаўным і грамадзкім жыцьці, рашэньні пытаньняў эканамічнай, палітычнай, сацыяльнай і іншых сфэраў дзейнасьці дзяржавы і грамадзтва. Заява – хадайніцтва аб садзейнічаньні ў рэалізацыі правоў, свабодаў і (або) законных інтарэсаў заяўніка, не зьвязанае зь іх парушэньнем, а таксама паведамленьне пра парушэньне актаў заканадаўства, недахопы ў працы арганізацыяў (службовых асобаў), індывідуальных прадпрымальнікаў. Скарга – патрабаваньне аб аднаўленьні правоў, свабодаў і (або) законных інтарэсаў заяўніка, парушаных дзеяньнямі (бязьдзейнасьцю) арганізацыяў, грамадзянаў, у тым ліку індывідуальных прадпрымальнікаў.

Такім чынам, калі прааналізаваць дэфініцыі "скарга" і "заява", можна зрабіць выснову, што скарга – пэўнае патраба-

ваньне аб аднаўленьні правоў, свабодаў і (або) законных інтарэсаў заяўніка. Пры гэтым дзяржаўны орган альбо іншая арганізацыя, індывідуальны прадпрымальнік абавязаныя зрабіць пэўныя захады па аднаўленьні правоў, свабодаў і (або) законных інтарэсаў заяўніка ў выпадку пацьверджаньня інфармацыі, выкладзенай у скарзе. У сваю чаргу, у заяве можа быць пазначаная інфармацыя аб парушэньні актаў заканадаўства, недахопах у працы дзяржаўных органаў, іншых арганізацыяў без канкрэтнага патрабаваньня пра іх адхіленьне або аднаўленьне парушанага права.

Неабходна мець на ўвазе, што пры падрыхтоўцы звароту можна проста пазначыць "зварот", не вылучаючы асобна від звароту.

Заканадаўства выстаўляе аднолькавыя патрабаваньні да парадку падачы і разгляду заяваў, прапановаў і скаргаў, за выключэньнем тэрміну падачы скаргаў. Прадугледжваецца, што падача заяўнікамі заяваў і прапановаў тэрмінам не абмяжоўваюцца. Скаргі могуць быць пададзеныя заяўнікам цягам трох гадоў з дня, калі яны даведаліся або павінныя былі даведацца пра парушэньні правоў, свабодаў і (або) законных інтарэсаў (па рашэньні кіраўніка арганізацыі або індывідуальнага прадпрымальніка гэты тэрмін можа быць адноўлены ў выпадку ягонага пропуску з паважлівай прычыны, наяўнасьць якой пацьверджаная адпаведнымі дакумэнтамі).

По спосабе падачы звароты можна падзяліць на вусныя, пісьмовыя або электронныя. Асобна можна вылучыць звароты: заўвагі (заявы і скаргі) і прапановы адносна дзейнасьці арганізацыі, індывідуальнага прадпрымальніка, адносна якасьці вырабленых/рэалізаваных імі тавараў, выконваных працаў, аказваных паслугаў, унесеных у кнігу заўвагаў і прапановаў. Такія звароты могуць уносіцца толькі грамадзянамі. Заканадаўства прадугледжвае таксама такі від вусных зваротаў, як звароты на "наўпростыя тэлефонныя лініі", якія праводзяцца кіраўнікамі і іншымі службовымі асобамі дзяржаўных органаў, іншых арганізацыяў. Мэта такіх лініяў – тлумачэньне грамадзянам і юрыдычным асобам пытаньняў у межах сваёй кампэтэнцыі альбо па загадзя заплянаванай тэме, абумоўленай яе актуальнасьцю. А таксама "гарачыя лініі", якія праводзяцца кіраўнікамі і іншымі службовымі асобамі дзяржаўных органаў, іншых арганізацыяў па адмысловых нумарах тэлефонаў (за выключэньнем нумароў тэлефонаў экстраных службаў) з мэтай паведамленьня грамадзянамі і юрыдычнымі асобамі




інфармацыі па пытаньнях, што патрабуюць прыняцьця дзяржаўным органам, іншай арганізацыяй мераў рэагаваньня ў межах сваёй кампэтэнцыі. Пры гэтым усталявана, што пра вынікі разгляду зваротаў, ня вырашаных падчас "наўпростых тэлефонных лініяў", грамадзяне і юрыдычныя асобы апавяшчаюцца ў парадку і ў тэрмін, прадугледжаны для пісьмовых зваротаў.

У залежнасьці ад колькасьці ўдзельнікаў звароту іх можна падзяліць на індывідуальныя і калектыўныя звароты. Пры гэтым калектыўныя звароты трыццаці і болей заяўнікаў у арганізацыі па пытаньнях у межах іх кампэтэнцыі падлягаюць разгляду з выездам на месца, калі іншае не вынікае з гэтых зваротаў.

Заканадаўства вылучае таксама такі від звароту, як паўторны зварот. Гэта зварот, які паступіў у адну і тую ж арганізацыю, да аднаго і таго ж індывідуальнага прадпрымальніка ад аднаго і таго ж заяўніка па адным і тым жа пытаньні два і болей разоў.

На якія звароты не распаўсюджваюцца правілы, пра якія ідзе гаворка ў дадзеным артыкуле, у тым ліку палажэньні Закону Рэспублікі Беларусь “Аб зваротах грамадзянаў і юрыдычных асобаў”?

Закон досыць выразна вызначае, на якія прававыя стасункі ён не распаўсюджваецца: на звароты грамадзянаў, якія ідуць у парадку канстытуцыйнага, грамадзянскага, крымінальнага, адміністрацыйнага судаводства. Такія заявы і скаргі падаюцца ў судовыя органы. Закон не распаўсюджваецца таксама на стасункі, рэгуляваныя заканадаўствам аб адміністрацыйных працэдурах.

(Адміністрацыйная працэдура – дзеяньні ўпаўнаважанага органа, якія ажыцьцяўляюцца на падставе заявы зацікаўленай асобы, па выяўленьні, зьмяненьні, прыпыненьні, захаваньні, пераходзе ці спыненьні правоў і (або) абавязкаў).

**Якія чынам можа быць рэалізаванае права грамадзяніна ці юрыдычнай асобы на вусны зварот?**

Кіраўнікі арганізацыяў і ўпаўнаважаныя імі службовыя асобы абавязаныя праводзяць асабісты прыём не радзей за адзін раз на месяц ў вызначаныя дні і гадзіны. Інфармацыя пра час і месца правядзеньня асабістага прыёму, а пры наяўнасьці папярэдняга запісу на асабісты прыём – пра парадак ажыцьцяўленьня разьмяшчаецца ў арганізацыях у агульнадасяжных месцах (на інфармацыйных стэндах, табло і (або) іншым чынам).

Графік асабістага прыёму і парадак папярэдняга запісу на асабісты прыём усталёўваюцца кіраўніком

арганізацыі. Па рашэньні кіраўніка арганізацыі таксама можа быць арганізаваны выязны асабісты прыём.

Заканадаўствам усталёўваецца, што адсутнасьць у дзень асабістага прыёму кіраўніка альбо іншай службовай асобы, якая праводзіць прыём, не зьяўляецца падставай для адмовы грамадзянам у вусным звароце. Пры часовай адсутнасьці ў дзень асабістага прыёму кіраўніка арганізацыі асабісты прыём праводзіць асоба, якая выконвае ягоныя абавязкі. Пры часовай адсутнасьці ў дзень асабістага прыёму іншай службовай асобы, якая павінная праводзіць асабісты прыём, кіраўнік арганізацыі абавязаны забясьпечыць своечасовае і належнае выкананьне функцыяў часова адсутнай службовай асобы іншай службовай асобай арганізацыі.

Службовая асоба арганізацыі ня можа адмовіць грамадзяніну ў асабістым прыёме па пытаньнях, якія адносяцца да кампэтэнцыі гэтай арганізацыі. Выключэньне складаюць выпадкі, калі заяўніку падчас асабістага прыёму ўжо быў дадзены вычарпальны адказ на яго пытаньні альбо калі перапіска з гэтым заяўнікам па такіх пытаньнях была спыненая.

Калі дзень асабістага прыёму прыпадае на дзяржаўнае сьвята, то дзень асабістага прыёму пераносіцца на наступны за ім працоўны дзень.

З уступленьнем у сілу новага закону на заканадаўчым узроўні замацаваная магчымасьць выкарыстаньня тэхнічных сродкаў (аўдыё- і відэазапіс, кіна- і фотаздымка) падчас правядзеньня асабістага прыёму. Пры гэтым выкарыстаньне пазначаных тэхнічных сродкаў дапускаецца выключна па рашэньні кіраўніка арганізацы з абавязковым апавяшчэньнем заяўніка аб іх выкарыстаньні да пачатку асабістага прыёму.

Калі для вырашэньня пытаньняў, якія выкладзеныя пры асабістым звароце і адносяцца да кампэтэнцыі арганізацыі, дзе адбываецца асабісты прыём, патрабуецца дадатковае вывучэньне і праверка, зварот павінен быць афармлены ў пісьмовай форме. Пра гэта мусіць быць патлумачана заяўніку.

**Якім чынам вызначыць, да кампэтэнцыі якога органа адносіцца разгляд звароту?**

Пры накіраваньні звароту ў дзяржаўныя органы і арганізацыі варта кіравацца Ўказам прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 15 кастрычніка 2007 №498 "Аб дадатковых мерах па працы са зваротамі грамадзянаў і юрыдычных асобаў".



**Да зваротаў беларускае заканадаўства адносіць заявы, прапановы і скаргі.**

Паводле Ўказу, звароты, незалежна ад таго, у які дзяржаўны орган або іншую арганізацыю яны паступілі, першапачаткова падлягаюць разгляду па сутнасьці ў адпаведнасьці з кампэтэнцыяй:

- у мясцовых выканаўчых і распарадчых органах, падпарадкаваных (падсправаздачных) ім арганізацыях, тэрытарыяльных падразьдзяленьнях (органах) і арганізацыях, падпарадкаваных (падсправаздачных) рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіраваньня і дзяржаўным арганізацыям, падпарадкаваным ураду, іншым дзяржаўным органам, іншым арганізацыям, якія ажыцьцяўляюць сваю дзейнасьць і разьмешчаныя ў межах той адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, на тэрыторыі якой паўсталі пытаньні, выкладзеныя ў зваротах;
- у іншых дзяржаўных органах, іншых арганізацыях, калі пытаньні, выкладзеныя ў зваротах, адносяцца да выключнай кампэтэнцыі гэтых органаў ці арганізацыяў.

Дадзеным указам таксама зацьверджаны Пералік дзяржаўных органаў, іншых арганізацыяў, адказных за разгляд па сутнасьці ў асобных галінах жыцьцядзейнасьці насельніцтва, які мае інфармацыйны характар.

Калі вы не зусім упэўненыя, да кампэтэнцыі якога органа адносіцца рашэньне пытаньняў, пазначаных у звароце, ня варта турбавацца. Заканадаўствам прадугледжана, што арганізацыі пры паступленьні да іх пісьмовых зваротаў з пытаньнямі, рашэньне якіх не ў іх кампэтэнцыі, цягам пяці дзён накіроўваюць звароты для разгляду арганізацыям у адпаведнасьці зь іх кампэтэнцыяй і апавяшчаюць заяўнікаў пра гэта ў той самы тэрмін. За імі замацаванае таксама права пакінуць зварот без разгляду па сутнасьці, аднак з абавязковым апавяшчэньнем пра гэта заяўнікаў з тлумачэньнем, у якую арганізацыю і ў якім парадку варта зьвярнуцца для вырашэньня пытаньняў, выкладзеных у зваротах. Таксама калі падчас асабістага прыёму выявіцца, што выкладзеныя пытаньні не адносяцца да кампэтэнцыі арганізацыі, у якой праводзіцца асабісты прыём, службовыя асобы арганізацыі павінныя растлумачыць, куды зьвярнуцца з такімі пытаньнямі.

Пісьмовыя звароты, у якіх абскарджваюцца судовыя пастановы, не пазьней чым праз пяць дзён павінныя быць вернутыя заяўнікам з тлумачэньнем парадку абскарджаньня судовых пастановаў.

**Працяг у наступным нумары...**

# CONTENTS



Грамадзкія арганізацыі Беларусі дапамагаюць зрабіць патрабаваньні грамадзянаў пачутымі



**Сакавік**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб |

**Красавік**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн |

**Травень**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц |

**2012**




Грамадзкія арганізацыі Беларусі дапамагаюць грамадству кантраляваць дзеяньні ўладаў



**Чэрвень**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб |

**Ліпень**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў |

**Жнівень**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт |

**2012**



Грамадзкія арганізацыі Беларусі дапамагаюць грамадзянам аб'ядноўвацца дзеля супольнага вырашэньня агульных праблемаў



**Верасень**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд |

**Кастрычнік**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср |

**Лістапад**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт |

**2012**






Грамадзкія арганізацыі Беларусі дапамагаюць атрымліваць паслугі, з якімі не спраўляюцца дзяржаўныя ўстановы і бізнэс



**Снежань**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн |

**Студзень**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц |

**Люты**

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц | Пт | Сб | Нд | Пн | Аў | Ср | Чц |

**2012-2013**

# Хочаш быць пачутым?




# Лістуй!